# ПОЛАЦАК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНА-
АСЬВЕТНІЦКАГА ЦЭНТРА
КЛІЎЛЕНД
ЗША



№ 6-7 1991



Афорт Сямёна Геруса «Маё дзяцінства» — гэта своесаблівая старонка аўтабіяграфіі мастака. Нарадзіўся ён на Наваградчыне ў небагатай сям'і. Пасьля вайны закончыў педвучылішча ў Наваградку, а потым Віленскі мастацкі інстытут. Некаторы час працаваў старэйшым выкладчыкам на кафэдры графікі ў Віленскім мастацкім інстытуце. Але мара маляваць ў роднай Беларусі не пакідала маладога таленавітага мастака ніколі. Таму, ў 1953 годзе, ён вяруўся на Бацькаўшчыну. З тых часоў культурнае жыцьцё Менска нельга ўявіць безь яго лірычна-псыхілягічных твораў. Зь некаторымі творамі Сямёна Геруса, чытачы «Полацака» змогуць пазнаёміцца у сёньняшнім нумары часопіса.

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.

Друкуецца пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, г. Кліўленд, штат Агаё.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451



# Зьмест



**Андрэй Карпук.** Мастацкая распрацоўка макета вокладкі, шрыфтоў і заставак рубрык
**Яўген Ціхановіч.** Плякат «Цётка»
На першай бачынцы вокладкі: «Беларусачка», мастачка Раіса Сіпліевіч

# Час прыйшоў...

Віктар Шніп

*Час прыйшоў—родны край у пакутах людзкіх адраджаецца,*
*І турма, у якой нарадзіліся мы, разбураецца.*
*Разбураецца, пылам атрутным нам поўнячы душы.*
*«Не бурыце мой дом!» — звар'яцела гарланіць нядужы.*
*Ён нядужы душой і ягонае рабскае цела*
*Волі ведаць ня хоча — яно ад маны распанела.*
*І ня трэба яму наша мова і нашыя сьвяты,*
*І чужынец яму абяцаў залачоныя краты.*
*Ну а ты, моцны целам і моцны збалелай душою,*
*Уздымаючы Волі штандар над бацькоўскай зямлёю,*
*Не баішся даўно ў гэтым сьвеце здурнелым нічога,*
*Акрамя неразумнае братняе здрады і Бога...*
*Час ідзе — родны край у пакутах людзкіх адраджаецца*
*І турма, у якой нарадзіліся мы, разбураецца.*




**Віншуе ўсіх,**
**каму дарагая ідэя Беларускага Адраджэньня,**
**з паўторным абвяшчэньнем**
**незалежнасьці Беларусі!**

**25 сакавіка 1918 года —**
**25 жніўня 1991 года**

# Бацькаўшчына ў нас адна!



Рэдакцыі часопіса «Полацак».

Вельмі Шаноўная Рэдакцыя. Ваш часопіс нарадзіўся і ўжо «абрастае ў пер'е» гэта ў нас пад бокам.

Усім Вам, што яго нарадзілі, спавівалі, а цяпер трывожыцеся ды сілы й час шчодра аддаеце, каб рос і дужэў—памажы, Божа!

Ранейшым і пазьнейшым беларускім «Калюмбусам» у Новым Сьвеце, нашым суродзічам — ураджэнцам ЗША й Канады, ёсьць нагода прывітаць «навабранца» на ніве беларускай эміграцыйнай прэсы. У працы й змаганьні за нацыянальнае й культурнае ды эканамічнае адраджэньне ды поўнае вызваленьне Беларусі з маскоўскага ярма, жадаю Вам і Вашым супрацоўнікам добрага здароўя й посьпехаў ды плёнаў й творчай працы.

Кастусь Акула,
пісьменьнік, рэдактар часопіса «Зважай»



Рэдакцыі часопіса «Полацак».

З падзякай за добры часопіс «Полацак» і пажаданьнямі далейшай удачы ў нялёгкай выдавецкай справе —

Янка Запруднік,
рэдактар газэты «Беларус»



Рэдакцыі часопіса «Полацак»,
яго шаноўным чытачам,
усім Беларусам на Бацькаўшчыне
і за яе межамі.

Мы, нацыянальна сьвядомыя Беларусы, што стаяць на пазыцыях адраджэньня нашай мовы, гісторыі і культуры, віншуем зь гістарычнай падзеяй у культурным і духоўным жыцьці нашага Беларускага народу—выхадам у сьвет часопіса «Полацак».

Па сутнасьці, гэта першы часопіс вольнай беларускай прэсы, які сёньня па чаў распаўсюджвацца на Бацькаўшчыне. Першыя нумары часопіса даюць падставы сцьвярджаць, што ён пачаў выдавацца рэгулярна, што за кароткі час ён набыў свой твар, што ён успрыняў лепшыя ўзорныя выданьні свабоднага беларускага друкаваньня, гвалтоўна задушанага сталіншчынай.

Вы распачалі вялікую гістарычную справу, вартую вашай гісторыі, нашага адраджэньня, нацыянальнага самасцьвярджэньня. Зьяўленьне часопіса «Полацак» у такі гістарычны момант надае ўсяму нашаму руху адраджэньня яшчэ большую радасьць, пераканаsuccessive, моц. Мы адчулі руку падтрымкі сваіх суродзічаў.

Ад нас доўгія гады адміністратыўна-камандная сыстэма ўтойвала Вашае жыцьцё, старанна замоўчвала Вашыя здабыткі ў галіне культуры, літаратуры, навукі, пляткарыла на Вас; аберагала ад кантактаваньня з Вамі; прывучала, што ў «советских собственная гордость», а ў праклятых буржуяў толькі загніваньне. Таму і натраўлівала частку кроўнага народу на другую яго частку.

Ваш часопіс пачаў актыўна разбураць гэты бальшавіцкі міф аб варожасьці і калабарацыянізме нашых суайчыньнікаў. У сілу такіх абставінаў ён заступіў мейсца ў пярэдніх шыхтах Беларускіх Змагароў за нашую Бацькаўшчыну за нашае нацыянальнае адраджэньне.

Усе мы ўжо добра зразумелі, што вораг у нас адзіны — гэта адміністратыўна-камандная сыстэма пад кіраўніцтвам КПБ—КПСС, вядомая ва ўсім сьвеце пад назовай бальшавізм. Таму той, каму ненавідны бальшавізм, павінен адхіліць і яго мэтад—распальваньне у шыхтах барацьбітоў усё пажыраючую варожасьць.

Мы прызываем сваіх суродзічаў да згуртаваньня, паяднаньня, хрысьціянскага дараваньня былых нядобрых учынкаў, крыўдаў, зьнявагаў дзеля сумеснага аб'яднаньня супроць агульнага нашага ворага. Спадзяёмся, што наш заклік будзе пачуты і правільна зразуметы. Вораг наш жорсткі, вераломны, бязьлітасны і вынаходлівы, а Бацькаўшчына ў нас адна.

Жыве Беларусь!

Валянцін Акулаў, доктар філязофскіх навук, прафэсар,

Іван Антанюк, пэнсіянер,

Алесь Анціпенка, навуковец,

Міхал Арэшкаў, інжынер,

Сьвятлана Багданкевіч, выкладчыца пэдагагічнага вучылішча № 1,

Павел Бараноўскі, камэрцыйны дырэктар НВП «Адэкс»,

Рыгор Барадулін, пісьменьнік,

Анатоль Белы, старшыня клюба «Спадчына»,

Магрэта Буткевіч, філёляг,

Нінэль Буткевіч, пэнсіянерка,

Артур Вольскі, пісьменьнік,

Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафэсар,

Аўген Гучок, ст.рэдактар выдавецтва «Народная асьвета»,

Вольга Іпатава, пісьменьніца,

Міхась Казлоўскі, старшыня «Беларускай хаткі»,

Мікалай Кавалёў, сябра клюба «Спадчына»,

Алена Кавальчук, тэхнік,

Аўген Лаўрэль, навуковец,

Аляксандра Лісоўская, загадчыца дзіцячай бібліятэкі № 2,

Аляксандр Люцко, кандыдат фізыка-матэматычных навук, выкладчык,

Ларыса Максімава, канцэртмайстар,

Галіна Максімава, пэнсіянерка,

Лілія Матусевіч, паэтэса,

Тамара Міранові́ч, гал бухгалтэр,

Віктар Навуменка, фізік,

Тамара Новікава, ст. выкладчык інстытута ўдасканаленьня настаўнікаў,

Уладзімір Новік, рэдактар выдавецтва «Ураджай»,

Вацлаў Нямковіч, навуковец,

Васіль Пятачэнка, сябра Беларускай сялянскай партыі,

Ала Саскавец, пэдагог,

Анатоль Сілянкоў, журналіст,

Карлас Шэрман, пісьменьнік, віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтра,

Віктар Шніп, паэт,

Юры Штыхаў, доктар гістарычных навук, прафэсар,

Эрнэст Ялугін, пісьменьнік, рэдактар газэты «Наша слова»,

Васіль Якавенка, пісьменьнік,

Вера Якімовіч, пэнсіянерка,

Мікалай Якімовіч, пэнсіянер.

# Вуніі Вялікага княства Літоўскага

Іосіф Юхо

Дзяржаўна-прававы саюз паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай, які працягваўся каля 400 гадоў, зрабіў значны ўплыў на ўсю гісторыю народаў гэтых дзяржаваў. Пачатак саюзу (вуніі) быў пакладзены пагадненьнем, што адбылося 16 жніўня 1385 года ў замку Крэва (цяпер вёска Смаргонскага р-на, Гарадзенскай вобласьці), дзе вялікі князь Літоўскі Ягайла (у праваслаўным хрысьціянстве Якаў) прыняў прапанову прадстаўнікоў Польшчы ажаніцца на польскай каралеве Ядзьвізе і тым самым злучыць абедзьве дзяржавы пад сваёй уладай. Згодна з гэтым пагадненьнем Ягайла ажаніўся зь Ядзьвігай, прыняў каталіцкую веру і пачаў распаўсюджаваць яе ў Беларусі і Літве.

Вялікае княства Літоўскае, як адна з буйнейшых дзяржаваў Эўропы, склалася ў XII—XIII ст. на тэрытарыяльнай, этнічнай і дзяржаўна-культурнай аснове беларускай. Але трэба мець на ўвазе, што ў той час яшчэ не было назвы «Беларусь», якая ўзьнікла толькі ў канцы XУII—XIX ст., а да гэтага часу наш народ насіў розныя імёны. Самыя старажытныя—будзіны, неўры, потым крывічы, дрэговічы або драговіты, радзімічы, бужане. Пачынаючы з XIII ст. і да другой паловы XIX ст, большую частку Беларусі называлі Літвой. Напрыклад, А.Міцкевіч, які нарадзіўся ў Наваградку, пісаў аб сваёй радзіме: «О, Літва, айчызна мая»), а горад Бярэсьце нават у 1918 годзе называўся яшчэ «Брэст-Літоўскам». Усё гэта ўносіла некаторую складанасьць у вывучэньні нашай гісторыі.

Прыняцьцё Ягайлам польскай кароны і каталіцкай веры (дарэчы, ён прыняў новае імя Владыслаў) ня ўнесла карэнных зьменаў у дзяржаўна-прававы лад Вялікага княства Літоўскага, бо вялікім князем і намесьнікам Ягайлы ў Вялікім княстве Літоўскім і адначасова князем Полацкім быў пастаўлены ў 1397 годзе брат Ягайлы Скіргайла (Іван), а з 1392 года стрыечны брат Ягайлы Вітаўт (Юры, Аляксандр), які праводзіў незалежную ні ад каго дзяржаўную палітыку. Дзякуючы Крэўскай вуніі, быў разарваны саюз Польшчы з крыжакамі, а сама Польшча выратавана ад анямечываньня. Пачалося зьбліжэньне народаў Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, была атрымана Грунвальдская перамога, якая на стагодзьдзі стрымала нямецкую агрэсію на ўсходзе Эўропы. Але разам з тым Крэўская вунія прынесла і шкоду беларускаму народу: пачалося распаўсюджаньне каталіцызму, а разам зь ім паланізацыя беларускага народу, бо кожнага беларуса, які прыняў каталіцызм, пачалі залічаць да палякаў, а кіруючыя колы Польшчы сталі весьці захопніцкую палітыку адносна тэрыторыі Беларусі й Украіны.

Пасьля сьмерці Ягайлы ў 1434 г. вунія з Польшчай развалілася, але ў 1447 г. пасьля выбраньня каралём Польшчы вялікага князя Андрэя Казіміра (сына Ягайлы і Соф'і Гальшанскай з Друцка), вунія аднавілася і трывала да 1492 года. У 1501 г. палякі зноў абралі сваім каралём вялікага князя Літоўскага і тым самым адрадзілі вунію. Такім чынам, пэрсанальная вунія дзьвюх дзяржаваў аднаўлялася ў 1506 і ў 1548 гг.

Каталіцкая агрэсія і захопніцкія імкненьні польскіх фэўдалаў пастаянна падрывалі сілы Вялікага княства Літоўскага і не спрыялі згуртаваньню сілаў супроць агрэсіі Маскоўскай дзяржавы. У выніку чаго, ужо на пачатку XУI ст.

значная частка ўсходніх зямель Вялікага княства Літоўскага адыйшла да Маскоўскае дзяржавы. У асабліва цяжкім становішчы апынулася Вялікае княства ў час Лівонскай вайны, у якую Вялікае княства было ўцягнута пасьля таго, як 31 жніўня 1559 г. быў заключаны дагавор паміж Вялікім княствам Літоўскім і Лівонскім Ордэнам аб пратэктараце над Ордэнам Вялікага княства. Але ыратаваць Ордэн ужо не было магчымасьці, хаця войскі Вялікага княства пачалі ваенныя дзеяньні супроць Масквы. У лістападзе 1561 г. было дасягнута пагадненьне аб далучэньні Лівоніі да Вялікага княства Літоўскага і Польшчы як сумеснага ўладаньня, у сувязі з чым Вялікае княства накіравала свае войскі на абарону тэрыторыі Лівоніі. У той час, як усе войскі Вялікага княства былі ў Лівоніі, Маскоўскія войскі ў весну 1562 г. ўварваліся на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага і спустошылі многія гарады і паветы ўсходняй часткі дзяржавы. Становішча Вялікага княства яшчэ больш пагоршылася, калі ў 1564 г. пачалі пашыраць свае захопы ў Лівоніі швэдзкія войкі.

У сувязі з тым, што польскія паны адмовіліся дапамагаць Вялікаму княству Літоўскаму, рада Вялікага княства са згоды Берасьцейскага сойма 1566 г. назначыла сваім намесьнікам ў Лівоніі Яна Хадкевіча з самымі шырокімі паўнамоцтвамі. У канцы 1566 г. на сойме ў Горадні, дзе прысутнічалі і паслы зь Лівоніі, было юрыдычна замацавана далучэньне Лівоніі толькі да Вялікага княства Літоўскага, і ўвесь цяжар вайны быў складзены на насельніцтва Вялікага княства. Урад княства неаднаразова зьвяртаўся з просьбай аб дапамозе да ўраду Польшчы. Палякі-ж адказвалі, што яны будуць дапамагаць толькі пасьля таго, як будзе заключана больш цесная вунія і Вялікае княства Літоўскае аб'яднаецца з Польшчай. Асабліва заўзята стараўся зьліквідаваць Вялікае княства Літоўскае сам вялікі князь Жыгімонт Аўгуст, каб выслужыцца перад польскім каталіцкім духавенствам і атрымаць ад папы Рымскага дазвол на скасаваньне шлюбу з жонкай і ажаніцца ў 4 раз, каб мець насьледніка прастола. Каб дабіцца зьліцьця Вялікага княства з Польшчай, ён 13 сакавіка 1564 г. выдаў дэкларацыю, у якой абвясьціў, што адмаўляецца ад сваіх спадчынных правоў на Вялікае княства Літоўскае і даруе яго Польшчы. Кіруючыя колы і шляхта Вялікага княства выступілі супроць гэтай дэкларацыі, бо не прызнаюць ўласьніцкіх правоў вялікага князя на дзяржаву, а лічаць яго за службовую асобу ў дзяржаве, пануючую з волі народу (арт. 2, разьдзелу 3 Статута Вял. Кн. Літоўскага 1566 г.) Калі з дарэньнем нічога не атрымалася, Жыгімонт Аўгуст пачаў угаворваць прадстаўнікоў Вялікага княства, каб яны згадзіліся на ўдзел у сумесным з палякамі сойме. Але прадстаўнікі княства не сьпяшаліся на агульны сойм, хоць і не супроць былі атрымаць абяцаную дапамогу ў вайне. Каб расьсеяць недавер прадстаўнікоў Вялікага княства, Жыгімонт Аўгуст запэўніваў іх, што ён будзе захоўваць правы й інтарэсы княства і ня будзе прымушаць да вуніі, ня будзе выдаваць ніякіх грамат бяз згоды радных паноў і будзе захоўваць Падляшша ў складзе Вялікага княства. Усе гэтыя абяцаньні былі запісаныя ў спэцыяльнай грамаце, выдадзенай у сьнежні 1568 г. у г. Воіне. Клятвенныя абяцаньні й угаворы, а таксама надзея атрымаць дапамогу ад Польшчы схілілі прадстаўнікоў княства зьявіцца ў Люблін на перагаворы з прадстаўнікамі Польшчы.

Пасяджэньні двух соймаў: польскага і Вялікага княства Літоўскага—адбыліся 10 студзеня 1569 г. у г. Любліне. Паміж імі пачаліся спрэчкі. Прадстаўнікі княства жадалі ўтварыць такі саюз (вунію), дзе-б кожная дзяржава захоўвала-б сваю самастойнасьць, свае суверэнныя правы, а палякі намагаліся зьліквідаваць княства і далучыць яго да Польшчы. Яны падрыхтавалі праэкт дагавору

аб зьліцьці дзьвюх дзяржаваў у адну і запатрабавалі, каб прадстаўнікі княства падпісалі яго бязь ніякага абмеркаваньня. Прадстаўнікі княства адмовіліся падпісаць такі праэкт і пасьля доўгіх спрэчак 28 лютага 1569 г. пакінулі Люблін і вярнуліся дадому.

Такі ход падзей спачатку зьбянтэжыў Жыгімонта Аўгуста й яго польскіх дарадцаў, але затым, атрымаўшы адпушчэньне грахоў і дазвол на зламаньне сваёй прысягі і клятваў, дадзеных Вялікаму княству, ад вярхоў каталіцкага духавенства, ёй пайшоў на адкрытую здраду інтарэсаў Вялікага княства і 5 сакавіка выдаў незаконны акт аб адарваньні ад Вялікага княства і далучэньні да Польшчы Падляшскай зямлі з гарадамі Бельскам, Драгічынам, Мельнікам і іншымі. Усім землеўласьнікам Падляшша было заяўлена, што яны вызваляюцца ад прысягі Вялікаму княству і загадана прысягнуць, пад страхам канфіскацыі маёмасьці, на вернасьць Польшчы. Калі гэты захопніцкі акт не атрымаў належнага адпору ні ад шляхты ўсяго княства, бо яна знаходзілася на вайне з Расеяй, ні ад насельніцтва Падляшскай зямлі, распрапагандаванай каталіцкім духавенстам, Жыгімонт далучыў да Польшчы й украінскія землі—Валынь, Падольле, Кіеўшчыну.

З юрыдычнага боку акты аб далучэньні беларускіх і ўкраінскіх земляў да Польшчы былі незаконныя і належала лічыць, што яны не маюць сілаў. Паводле заканадаўства Вялікага княства Літоўскага, вялікі князь, уступаючы на прастол, даваў прысягу й абяцаўся дзей нічаць толькі згодна з дзяржаўнымі законамі. Адпаведна з параграфам *12 і 15 прывелію 1492 г. і артыкуламі 1,2, 12 III-га разьдзелу Статута 1566 г.* вялікі князь ня меў права зьмяніць тэрыторыю дзяржавы і выдаваць якія-небудзь заканадаўчыя акты бяз згоды рады і сойма. У *артыкуле 4 таго-ж III-га разьдзела Статута* проста ўстаноўлівалася забарона выдаваць прывілеі, якія парушаюць нормы Статута: *« А где бы што одержано и вышло яким же кольвек обычаем против сего Статуту, то с права, и суду справедливость через нас и потомки наши за радою рад наших Великого князства на сторону отложено и ни во што обернено быти маеть».* Таму акты аб аддзяленьні ўкраінскіх і заходняй часткі беларускіх земляў, выдадзеныя ў Любліне, кажучы мовай Статута, належала *«ни во что обернути»* — прызнаць за несапраўдныя. Несапраўднасьць іх устанаўлівалася і граматай Жыгімонта Аўгуста ад 21 сьнежня 1568 г., дзе ён кляўся захоўваць старыя законы і звычаі і не парушаць тэрытарыяльнай цэласнасьці дзяржавы. Акты аб аддзяленьні земляў ня былі замацаваныя пячаткай Вялікага княства, што таксама рабіла іх несапраўднымі. Юрыдычную незаконнасьць іх разумелі і самі творцы, таму пасьля выданьня гэтых актаў стараліся прымусіць прадстаўнікоў княства згадзіцца на вунію і тым самым прыхаваць незаконнае далучэньне чужых тэрыторыяў бачнасьцю «згоды» і «братэрскай любові» абодвух бакоў.

Далучэньне велізарнай тэрыторыі, адарвнанай ад княства, павялічыла польскую дзяржаву ў некалькі разоў, але не ўмацавала яе, а значна аслабіла, бо Польшча вымушана была ўвесь час трымаць свае сілы на захопленых тэрыторыях, каб не даваць разгарацца вызваленчай барацьбе ўкраінскага і беларускага народаў, якая асабліва праяўлялася ў сярэдзіне XYII ст. Прысваеньне гэтых тэрыторыяў узмацьніла ў Польшчы і рост вялікадзяржаўных шавіністычных ілюзій, якія зусім выцясьнялі цьвярозую развагу. Пануючым вярхам Польшчы здавалася, што іх эгаістычным плянам цяпер нішто не перашкодзіць, бо галоўныя іх апанэнты ў княстве Літоўскім зломаныя і прыгнечаныя, а само княства асуджанае на ліквідацыю. Яны не разумелі, што падрыў сілаў саюзнай дзяржавы вёў да аслабленьня Польшчы, а разгул шавінізму — да ўзмацьненьня нацыянальнай

барацьбы, што, ўрэшце, і сталася адной з прычынаў пагібелі польскай фэўдальнай дзяржавы.

Пасьля страты вялікай тэрыторыі Вялікае княства не змагло самастойна весьці далей вайну і вымушана было, каб атрымаць дапамогу ад польскіх фэўдалаў, капітуляваць і падпісаць ганебны акт вуніі на ўмовах, прадыктаваных імі. Патрыятычныя сілы княства, якія супраціўляліся націску польскіх фэўдалаў, былі аслаблены наяўнасьцю ўнутры дзяржавы моцнай каталіцкай агентурай, якая складалася з часткі акаталічанай шляхты і каталіцкага духавенства і дзейнічала на карысьць польскіх фэўдалаў па ўказцы з Ватыкана і Гнезна. Значная частка фэўдалаў і шляхты была запалохана пагрозай канфіскацыі маёнткаў і дзеля асабістых інтарэсаў пастулалася інтарэсамі дзяржавы. Характарызуючы паводзіны прадстаўнікоў шляхты на сеймах, пісьменьнік XУI ст. пісаў, што яны поўнсьцю падпарадкаваліся жаданьням караля, *«адны баючыся што-небудзь страціць, а другія жадаючы ўбіцца ў ласку»*. Пры такім становішчы прадстаўнікі Вялікага княства вымушаныя былі пад пагрозай канфіскацыі маёнткаў вярнуцца ў Люблін і падпісаць прапанаваны ім акт аб злучэньні дзьвюх дзяржаваў.

Акт Люблінскай вуніі быў аформлены ў выглядзе прывілею-дагавору, замацаванага пастановай Люблінскага сейма 1 ліпеня 1569 г. Тэкст акта быў падрыхтаваны ў двух экзэмплярах — адзін замацаваны пячаткамі польскіх фэўдалаў, а другі—пячаткамі фэўдалаў княства, пасьля чаго абодва бакі памяняліся актамі. Гэткі парадак іх абмену, на думку яго арганізатараў, павінен быў прыхаваць гвалтоўны, агрэсыўны і нераўнапраўны характар вуніі, надаваць ёй бачнасьць добраахвотнай згоды бакоў.

Такім чынам, акт Люблінскай вуніі павінен быў паслужыць фігавым лістком, якім жадалі прыкрыць дзяржаўную здраду вялікага князя, а таксама рабаўніцтва і насільле польскіх фэўдалаў і вярхоў каталіцкага духавенства. Апроч таго, што гэты акт узаконьваў адлучэньне ўкраінскіх і часткі беларускіх земляў, ён павінен быў стаць праграмай апалячваньня і ліквідацыі беларускай і ўкраінскай народнасьцей, зьнішчэньне іх культуры.

У акце гаварылася таксама, што каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае ўяўляюць сабою ўжо адно непаддзельнае і неаддзельнае цэлае, а таксама не асобную, а адну агульную рэспубліку, якая злучылася і зьлілася ў адзін народ з дзьвюх дзяржаваў і народаў. Яшчэ ўказвалася, што хоць асобае ўзьвядзеньне на княжаньне Вялікага княства павінна быць адмененае, але тытул і пасады Вялікага княства застаюцца. Уступаючы на прастол, новы кароль павінен быў пад прысягаю пацьвярджаць усе правы і вольнасьці падданых абедзьвюх дзяржаў і народу; надалей павінны зьбірацца толькі агульныя сеймы і адна рада. Павінны цалкам захавацца правы і прывілеі, а таксама высокія пасады. Дагаворы і саюзы зь іншымі краінамі павінны заключацца толькі з агульнага ведама і згоды абодвух народаў. Манэта павінна быць аднолькавая і раўнацэнная. Адмянялася пошліна на вываз за мяжу сельскагаспадарчых прадуктаў з маёнткаў духавенства і спосаб шляхецкага саслоўя.

Вялікае княства павінна было перастаць існаваць адразу пасьля падпісаньня акта вуніі, але далейшы ход падзей паказаў, што жыцьцёвыя сілы яго хоць і падарваныя, але нязьнішчаныя, і яго магільшчыкі рана сьвяткавалі перамогу.

Захаваньню Вялікага княства садзейнічала і тое, што анэксіраваўшы Украіну і частку заходняй Беларусі і тым самым задаволіўшы захопніцкія апэтыты, фэўдалы разьлічвалі скарыстаць княства як шчыт для прыкрыцьця ўсходніх граніц Польшчы. Пасьля сьмерці ў 1572 г. караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ня толькі фактычна, але й юрыдычна было прызначана захаваньне адасобненась-

ці, які атрымаў назву Статута 1588 г. У ім нават не ўпамінаецца пра акт Люблінскай вуніі. *У артыкуле-ж 4-м III-га разьдзелу* замацоўваецца праграма аднаўленьня ранейшых граніц княства.

Статут 1588 г. прадугледжваў таксама, што атрымліваць маёнткі і займаць духоўныя і дзяржаўныя пасады ў княстве маглі толькі мясцовыя ўраджэнцы і ні ў якім выпадку «чужаземцы», «загранічнікі» ці «суседзі».

З усяго гэтага відаць, што дзяржаўна-прававыя сувязі паміж Вялікім княствам і Польшчай пасьля 1569 г. будаваліся не на аснове акта Люблінскай вуніі, а на ўмовах, якія прадугледжвалі адасобненасьць абедзьвюх дзяржаваў пры адным гаспадары і адным парлямэнце (сойме). Разам з тым, гэтае аб'яднаньне спарадзіла і новую дзяржаву—Рэч Паспалітую, у кампэтэнцыю якой уваходзілі, у асноўным, пытаньні сумеснай міжнароднай палітыкі і ўзаемнай абароны. Таму трэба прызнаць, што акт Люблінскай вуніі 1569 г. фактычна ня быў ажыцьцяўлёны. А паколькі ён быў навязаны прадстаўнікам Вялікага княства гвалтоўна, то і зь юрыдычнага боку быў несапраўдны.

Аналіз дзяржаўна-прававых сувязяў Вялікага княства Літоўскага з Польшчай ХУІІ—ХУІІІ стст. паказвае, што іх прававы характар за гэты час моцна не зьмяняўся. Разам з тым, працэс гвалтоўнага акаталічваньня й апалячваньня беларусаў і ўкраінцаў пастунова захопліваў усё большыя пласты насельніцтва і пагражаў поўным зьнішчэньнем беларускай народнасьці, садзейнічаў усё большай залежнасьці Вялікага княства ад Польшчы.

Падводзячы вынік гістарычнага разьвіцьця дзяржаўна-прававых сувязяў Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, можна з усёй пэўнасьцю сцьвярджаць, што ў ХУІ—ХУ ст. гэтыя сувязі, хоць мелі шмат істотных заган, у асноўным былі карысныя ўсім народам ўсходняй Эўропы, чаго нельга сказаць пра вунію 1569 .

Гвалтоўнае і бясправўнае далучэньне ўкраінскіх і часткі заходнебеларускіх земляў да Польшчы, а потым прыхаваньне гэтай анэксіі прымусовым актам Люблінскай вуніі прынесла шмат шкоды ня толькі насельніцтву Беларусі, Украіны і Літвы, але і самой Польшчы. Шкодны і рэакцыйны характар акта вуніі праявіўся перш за ўсё ўзмацьненьнем эксплуатацыі працоўнага насельніцтва. Прымусовае акаталічваньне й апалячваньне беларускага і ўкраінскага народаў спарадзіла нацыянальны і рэлігійны прыгнёт, выклікала застой і заняпад навукі і культуры. Усё гэта шкодна адбівалался на справе вытворчых сіл і эканомікі, што ў канчатковым выніку прывяло да пагібелі ўсёй фэўдальнай Рэчы Паспалітай.

Рэч Паспалітая, як канфэдэрацыя дзьвюх дзяржаваў—Польшчы і Вялікага княства Літоўскага— і чатырох народаў: беларускага, літоўскага, польскага і ўкраінскага,—будавалася не па акту Люблінскай вуніі, які прадугледжваў утварэньне ўнітарнай дзяржавы, а на аснове практыкі саюзных адносін, што мелі месца, пачынаючы з Крэўскай вуніі, і якія былі замацаваны ў Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г. і Генрыкоўскіх артыкулах 1574 г. Толькі па Канстытуцыі 3-га мая 1791 г. была зроблена спроба пераўтварыць канфэдэратыўную Рэч Паспалітую ў фэдэрацыю, але спроба была скасаваная агрэсіяй суседніх дзяржаваў і Гарадзенскай канстытуцыяй 1793 г.





# Аркестровае выканальніцтва Беларусі

Вольга Дадзіёмава

Зусім яшчэ нядаўна, якіх-небудзь 10 гадоў назад ХУІІІ ст. лічылася «мёртвай зонай» у гісторыі прафэсыйнага музычнага мастацтва Беларусі. Прычынай таму — негатыўная адносіны да «польска-літоўскага» пэрыяду нашай гісторыі, калі, маўляў, не было і не магло зьявіцца ў Беларусі нічога, вартага адраджэньня і дасьледаваньня. Да таго-ж доўгі час заставаліся нявыяўленымі разнамоўныя крыніцы, раськіданыя па многіх архіўных сховішчах Беларусі, Літвы, Украіны, Расеі і Польшчы: шукаць іх не было патрэбы і сэнсу...

Час аднак, зьмяніўся, а разам зь ім зьмяніўся і наш погляд на сваю культурную спадчыну. Якой-жа паўстае яна ў люстэрку рукапісных і друкаваных, літаратурных і музычных дакумэнтаў? Што адбывалася ў музычным мастацтве Беларусі ў ХУІІІ ст., у тым знамянальным для эўрапейскае «музычнае цывілізацыі» стагодзьдзі, калі ва ўсіх краінах музыка, нарэшце, выйшла на першае месца сярод іншых мастацтваў? Калі на сусьветным «музычным небасхіле» ўзыйшлі зоркі незвычайнай велічыні й яркасьці (Гендэль і Бах, Гайдн, Моцарт і Бетховен — гэтымі й іншымі імёнамі абавязана мастацтва менавіта ХУІІІ ст.), калі рэвалюцыйная «зьмена вех», што адбылася ў формах музычнага жыцьця, у жанрах і стылях, цалкам зьмяніла аблічча музычнай культуры кантынэнта?

Што-ж, сёньня мы ўжо можам сказаць напэўна: у ХУІІІ ст. прагрэсыйнае музычнае мастацтва Беларусі было вельмі багатае ў сваіх праявах. Яркае і шмат граннае, арганічна зьвязанае з агульна-эўрапейскім і разам з тым надзвычай своеасаблівае. Сапраўды, разьвіцьцё яго адбывалася ў складаных і драматычных гісторыка-палітычных ўмовах. І зёрны нацыянальнага не змаглі прарастаць такжа бурна і бесперашкодна, як у іншых, сувэрэнных і этнічна больш аднародных рэгіёнах. Аднак працэс станаўленьня важнейшых сфэр музычна-прафэсыйнай практыкі, аказаўся у ХУІІІ ст. досыць інтэнсыўным. Каб пераканацца ў гэтым, прапаную зьвярнуць увагу на аркестровую культуру — тую галіну, узровень якой у стагодзьдзі інструмэнтальнай музыкі зьяўляўся адным з самых істотных паказчыкаў сталасьці музычна-культурнай фармацыі ў цэлым.

У Беларусі здаўна складаліся даволі спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця прафэсыйнага ансамблевага і аркестровага выканальніцтва. Фарміраваліся яны і ў сьвецкім асяродзьдзі (шляхта і магнаты лічылі прэстыжным мець хоць невялічкую ўласную «прыдворную» капэлу), і ў культавым (каталіцкая і вуніяцкая цэрквы шырока выкарыстоўвалі інструмэнтальную музыку ў суправаджэньні богаслужэньняў і сакральных сьвятаў). Нядзіва таму, што ўжо ў пачатку і ў першай палове ХУІІІ ст., у той час, калі, напрыклад, у Расеі інструмэнтальнае выканальніцтва яшчэ не было досыць пашырана, ў Беларусі ўжо набылі папулярнасьць самыя розныя —як вакальна-інструмэнтальныя, так і ўласна інструмэнтальныя капэлы. Іх мелі ў 1710-я гг. менскі ваявода Кшыштоф Завіша, у 1720-я гг. — нясьвіжскія Радзівілы, у 1730-я гг.— віцебскі ваявода Марціян Агіньскі, берасьцейскі стараста Зыгмунд Домбскі і бельскі мечнік Стэфан Таркоўскі, пісар

польны Тадэвуш Агіньскі і віцебскі кашталян Станіслаў Агіньскі. У 1750 -я гады —маршалак менскага трыбунала Ян Хілзен і падканцлер Міхал Сапега[1]. Самы-ж буйны аркестр, што складаўся з многіх інструмэнтаў—труб, валторнаў, арф, аргана, клавікорда, скрыпак, віёл, —быў у тыя часы ва ўладара Слуцака Ґераніма Радзівіла. Гучаньне гэтага музычнага «цуда», якім так ганарыўся магнат, можна было пачуць на балях і паляваньнях, маскарадах і агульнагарадзкіх сакральных сьвятах. Яно рабіла такое моцнае ўражаньне на слухачоў, што нават стала апявацца ў вершах[2]. Аднак, самыя буйныя прыватныя капэлы першай паловы стагодзьдзя пачалі здавацца сьціплымі ў параўнаньні з тымі, што ўзьніклі пры дварах магнатаў у другой полове стагодзьдя[3], а менавіта тады, калі адчыніліся ў гарадах Беларусі буйныя музычныя тэатры —Нясьвіжскі Міхала Радзівіла, Слонімскі—Міхала Агіньскага, Горадзенскі—Антонія Тызенгаўза, Шклоўскі— Сямёна Зорыча. Храналягічнае супадзеньне роськвіту магнацкіх тэатраў і капэл, зразумела, не было выпадковым, бо без высокапрагрэсыйнага аркестра опэрны тэатр проста ня мог-бы існаваць. Разумеючы гэта, мэцэнаты надавалі вялікую ўвагу сваім «прытэатральным» капэлам. Камплектавалі іх найлепшымі музычнымі інструмэнтамі, запрашалі на працу ў іх славутых капельмайстраў і выканаўцаў. Вядома, што Слонімскі аркестр гетмана Міхала Казіміра Агіньскага налічваў 106 інструмэнтаў, сярод якіх былі віёлы і басэтлі лепшых у сьвеце музычных майстроў: Амаці, Рауха, Ланга, Тэноры, Фогеля й інш. Гэты аркестр лічыўся адным з багацейшых у Эўропе, яму маглі пазайздросьціць нават славутыя выканаўчыя калектывы (варта прыгадаць, што «камэртон Эўропы» — Мангеймскі аркестр улкючаў у той час 34 інструмэнты, а аркестр Эстэргазі, у якім пацаваў Гайдн, налічваў толькі14 інструмэнтаў).

Па свайму выканаўчаму ўзроўню магнацкія капэлы Беларусі адпавядалі самым высокім патрабаваньням: вядома, што Горадзенская капэла Тызенгаўза лічылася першай у краіне, а слава пра яе дайшла да самога Мангейма. Вылучаўся сваім майстэрствам і аркестр Агіньскага. Гэта і нядзіўна, таму што ў прыватнаўласьніцкіх капэлах спалучаўся талент замежных і мясцовых выканаўцаў. Дырыжорамі і салістамі-інструмэнталістамі працавалі тут прадстаўнікі вядучых у сьвеце італьянскай, французкай, нямецкай, чэшскай школаў— Джаскіна Альберціні, Каміле Абатэ, Ал. Данэзі, Феручча Марыні, Корм'е Чыпрыяні, Іаган Голанд, Ян Дусік, Эрнст Ванжура. Побач з замежнымі працавалі ў аркестрах і таленавітыя мясцовыя прыгонныя і вольныя музыканты — Лявон Сітаньскі, Ежы Бакановіч, Ян Цэнцыловіч, Ануфры Александровіч і інш, чыё майстэрства было настолькі дасканалым, што дазваляла ім займаць адказныя пасады

---

1. «Kurier Polski», 1730, № 41, 1744, № 368; 1741, № 222; 1750 № 706; 1750, № 697; 1756 № 39; «Gazeta Polska», 1732 № 130. Адзел рукапісаў бібліятэкі АН Літвы, Ф. 17, арк. 198, 203.
2. Больш падрабязна пра аркестры І-й паловы ХУІІ ст. гл. у арт.: Дадимова О. К истории музыкальной культуры городов Белоруссии ХУІІІ в. (1700—1764). Вопросы культуры и искусства Белоруссии. Минск, 1989, Вып, 8 с. 82-85.
3. Аб магнацкіх капэлах ІІ-й паловы стагодзьдзя г.: Барышаў Г..І. Прыгонныя аркестры. Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972, № 4 б.51—54.

капэльмайстраў. Многія мясцовыя музыканты з прыгонных вучыліся ў спэцыяльна створаных пры тэатрах і капэлах музычна-тэатральных школах пад кіраўніцтвам вопытных пэдагогаў. Можна меркаваць, што музыканты з народу ня толькі пераймалі прафэсыйныя навыкі ў замежных майстроў, але і самі шмат давалі ім у разуменьні самабытнай мясцовай традыцыі. Нездарма-ж у творчасьці некаторых замежных кампазытараў, працаваўшых у Беларусі — І. Голанда, І. Шульца, Э. Ванжуры заўважаюцца сьляды ўзьдзеяньня лакальнага фальклёру.

Якую-ж музыку гралі магнацкія капэлы? Большай часткай тую, што была моднай ва ўсёй Эўропе — дывертысмэнты, сэрэнады, касацыі, разнастайныя танцы, а таксама сымфоніі, канцэрты, араторыі і кантаты. Напрыклад, нясьвіжская капэла Радзівілаў выконвала сэрэнаду Г.Пуньяні, сымфоніі А.Крэйсэра, Й. Гайдна, Е. Эйхнера, І. Наўмана, Н. Іамелі, канцэрты Я. Стаміца. Слонімская капэла Агінскага—сэрэнады І.Кірнбергера, квартэты і сэкстэты Л.Бакерыні, сымфоніі І.К.Баха, Я.Стаміца, К.Абеля, Т.Крамэра, Ф.Гасэка і многія іншыя творы. Заходнеэўрапейская музыка трапляла ў Беларусь рознымі шляхамі: некаторыя ноты прывозілі з-за мяжы запрошаныя музыканты. Іншыя самі магнаты, якія вярталіся з падарожжаў. Шмат нот дасылалі сваім патронам мясцовыя выканаўцы, што вучыліся за мяжой. Бывала і так, што свае творы дарылі мэцэнатам Беларусі самі кампазытары. Вядома, што Радзівілам прысылаў свае сымфоніі нават Гайдн.

Апрача музыкі замежных аўтараў капэлы выконвалі і творы мясцовых кампазытараў, што жылі ў Беларусі, прафэсыяналаў і аматараў— Іагана Голанда, Эрнста Ванжуры, Міхала Казіміра Агінскага, Мацея Радзівіла (дарэчы, варта было-б спэцыяльна расказаць аб пошуках і адраджэньні гэтай цудоўнай музыкі, першыя -ж гукі якой — найлепшы довад супраць канцэпцыі «заняпаду»).

Паміж тым, буйныя магнацкія капэлы, пра якія вялася гаворка, не былі адзінымі на «музычнай карце» Беларусі другой паловы ХУІІ ст. Побач зь імі дзейнічалі й іншыя, магчыма, ня менш вядомыя ў свой час, але пакінуўшыя толькі асобныя зьвесткі пра сваё існаваньне: аркестры Тышкевічаў у Сьвіслачы, Юндзілаў у Галыні на Горадзеншчыне, Юзафа Юдзіцкага ў Горадні, Аляксандра і Казіміра Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне.

Увогуле, пры дварах арыстакратыі магчыма было пачуць гучаньне самых разнастайных аркестраў: ня толькі струнных, але і такіх, якія зараз мы і ўявіць сабе ня можам, напрыклад, рагавога. Гэты незвычайны аркестр быў створаны ў 1751 годзе чэшскім музыкантам Янам Марашам у Расеі. Складаўся ён зь вялікай колькасьці паляўнічых рогаў, кожны зь якіх падаваў гук толькі адной вышыні. Рогі былі рознай велічыні: дужыя гучалі нізка, аксамітна, маленькія —высока і пранікнёна. Выканаўцы, што гралі ў такіх аркестрах, былі як-бы шрупкамі ў жывой музычнай машыне: кожны зь іх павінен быў дакладна ведаць сваё месца ў партытуры і той момант, калі менавіта належала яму падаць свой голас пры выкананьні той ці іншай п'есы. Доўгая і марудная праца патрабавалася капэлістам (а іх звычайна набіралі з прыгонных), каб развучыць нават самы просты твор, але ўзнагародай за яе быў мяккі, ні з чым не параўнальны, вібрыруючы гук аркестра, які быццам-бы зьліваўся з жывой музыкай прыроды — саду, лесу ці лугу ля панскага маёнтка, дзе звычайна на-ладжвалі канцэрты рагавой музыкі. Па зьвестках розных крыніц, такія кан-

цэрты адбываліся ў Беларусі пры дварах Сапег, Панятоўскіх, Радзівілаў.[4] Вядомыя былі таксама выступленьні шклоўскага і го-радзенкага рагавых аркестраў. Апрача рагавых існавалі ў Беларусі і народныя капэлы. Так, «музыку менскую з цым баламі» меў менскі ваявода Кшыштоф Завіша, сялянскую капэлу запрашаў на свае забавы Кароль Радзівіл. А яшчэ гэты магнат меў яўрэйскі аркестр, музыкантаў якога ён абрадзіў аднойчы ў турэцкае адзеньне і прымусіў граць у каталіцкім касьцёле.[5]

Цікава, што практыка выкарыстаньня арыстакратамі народных ансамбляў захавалася ў Заходняй Беларусі аж да 30-х гадоў нашага стагодзьдзя, калі, па ўспамінах народных выканаўцаў, яны гралі на балях у заможных паноў.

Вялікай папулярнасьцю ў Беларусі карыстаўся яшчэ адзін тып ансамбляў і аркестраў—ваенны, што складаўся зь некалькіх драўляных і медзяных духавых інструмэнтаў. Такія капэлы меліся ў 1766-1776 гг. у Пінску, дзе стаялі конныя палкі польнай і вялікай булавы Вялікага княства Літоўскага, полк Агіньскага і Грабоўскага; у 1774—1782 гады ў Дзярэчыне, Наваградку, Бярэсьце, Слоніме і Горадне, дзе знаходзіліся Другі, Пяты пешы і Першы грэнадзёрскі полк і харугва стральцоў; у гарнізоне Слуцкай крэпасьці й інш.[6] Ваенныя капэлы часта ўдзельнічалі ў розных урачыстасьцях: сустрэчах ваеначальнікаў ці каранаваных асобаў, сьвяточных і жалобных агульнагарадзкіх цырымоніях.

Дзейнасьць вайсковых капэл часам нагадвала дзейнасьць іншых музычных ансамбляў і аркестраў, што абслугоўвалі магнатаў: усе яны гралі на вясельлях і паляваньнях, карнавалах і пахаваньнях, усе выконвалі застольную, прывітальную і танцавальную музыку. Ня дзіўна таму, што гарнізонныя музыканты, якія ведалі ўсе гэтыя творы, гралі ня толькі ва ўласна ваенных, але і ў прыдворных капэлах.

Што да саміх вайсковых капэлістаў, дык яны звычайна былі мясцовымі жыхарамі. У архіўных крыніцах захаваліся прозьвішчы некаторых зь іх. Гэта Кароль Сірніцкі зь Пінска, Юзаф Эсманльд з Горадні, Пётр Ляшчынскі й Ян Чарнецкі зь Менска, Ігнат Барэвіч з Наваградка (усе яны служылі ў Першым і Шостым пешых палках Вялікага княства Літоўскага). Гэта таксама Бэнедыкт Казлоўскі і Міхал Лягуцкі зь Піншчыны, Вінцэнт Пётух з Сломіншчыны, Рыгор Бяляўскі з Магілёўшчыны, Тамаш Баброўскі з Наваградчыны — музыканты коннага палка Агіньскага.

Паходзілі ваенныя музыканты звычайна зь сярэдніх і ніжэйшых сацыяльных слаёў. Напрыклад, сыгнальшчыкамі

---

4. Reiss I. Mala eneyklopedia muzyki. Warszawa, 1960. s. 156.

5. Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. Мн., 1982, с. 92; Pamietniki o ksieciu Karolu Radziwille / Dziennik literacki, 1864, # 20-31. s. 266-267; Tazbir J. Kultura szlachecka w Polsce, Warszawa, 1978, s. 155.

6. Дакумэнты пра вайсковыя капэлы знойдзеныя ў Цэнтральным Дзяржаўным гістарычным архіве ў Літве. Ф.СА. Воп. 1, спр. 4125—4146; 18250—18259; Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Львове. Ф.181, Воп. 2, спр. 2320, 2328, Гл. таксама арт. В.Дадзіёмава. ...І гучны голас труб , Мастацтва Беларусі, 1988, № 1. б. 45-48.

Першага палка былі два шляхціцы і чатыры мешчаніны; Шостага пешага палка — адзін абшарнік, два салдацкія сыны, адзін шляхціц і пяць мяшчан. Аркестрантамі коннага палка Агіньскага —адзін паповіч. Два «простага грамадзкага стану» і тры шляхціцы. Музыканты выбранецкіх рот набіраліся, як правіла, зь ліку сялян. Можна меркаваць, што, вяртаючыся ў родныя мясьціны пасьля сканчэньня службы, былыя вайсковыя музыканты несьлі ў народ традыцыі прафэсыйнага выканальніцтва на духавых інструмэнтах.



Побач з уласна ваеннымі аркестрамі ў Беларусі у XVIII ст. можна было пачуць і янычарскія — турэцкія ваенныя капэлы, што складаліся з духавых (сурмаў, флейт) і мноства ўдарных інструмэнтаў— барабанаў, тулумбасаў (род літаўраў), талерак і званочкаў.[7] Хуткаму пранікненьню экзатычнага аркестра з усходу (з Турцыі) ў Беларусь (а тут ён зьявіўся раней, чым у Расеі, Англіі і Францыі) спрыяў існаваўшы ў Рэчы Паспалітай ідэялягічны «фон», што ствараўся сарматызмам. Гэты культурна-бытавы напрамак, заснаваны на пастулаце аб паходжаньні шляхты ад антычных сарматаў (усходняга ваяўнічага народу), у значнай ступэні садзейнічаў арыенталізацыі побыту і густаў розных станаў. Гэта ўвасаблялася ў розных зьявах захапленьні ўсходнімі ўпрыгожваньнямі, стварэньні ў войску янычарскіх харугваў, выкарыстаньні мэблі і дываноў турэцкай і пэрсыдскай працы, касьцюміраваным дэкоры відовішчаў і цырымоній у Віцебску, Слоніме й іншых гарадах, дзе магнатаў віталі апранутыя ў турэцкае адзеньне слугі музыканты, воіны і рамесьнікі.

Так ці інакш, а музыку турэцкіх аркестраў, існаваўшых пры дварах Агіньскіх і Радзівілаў, а таксама ў янычарскіх харугвах войска Вялікага княства Літоўскага, што стаялі ў беларускіх гарадах, можна было пачуць у самых розных абставінах. Толькі ў Радзівілаў янычарскія капэлы гралі на прыёме Міхалам Казімірам Радзівілам удзельнікаў люблінскага трыбунала ў 1742 г., у час ягонай паездкі на віленскае ваяводства ў 1745 г. на ўрачыстасьцях, што адбыліся ў гарадзенскай рэзыдэнцыі Гераніма Радзівіла ў 1751 г., на пахавальнай цырымоніі ў Нясьвіжы ў 1746 г., у час буйнага застольля Мікалая Фаўстына Радзівіла ў Менску ў 1755 г., у разгар бойкі паміж гасьцямі.

Музыкантамі —«янычарамі», як сьведчаць архіўныя дакумэнты, былі мясцовыя інструмэнталісты. У капэле янычарскай харугвы Вялікай Булавы Вялікага княства Літоўскага (Горадня, 1768), выканаўцамі на сурмах былі Ян Дзянкевіч, Андрэй Апанасевіч, Ян Вярцінскі, Тамаш Сабалеўскі, Міхал Валадкевіч, на талерках —Антон Вішнеўскі, Ян Васілеўскі, Андрэй Альшэўскі, на тулумбасах — Тамаш Адамовіч, Ян Папеніцкі, Ян Кучынскі, на барабанах — Станіслаў Крыстыновіч, Тэадор Кісянскі, Станіслаў Керповіч, Тамаш Чэрхановіч, Пётр Адрушкевіч, Антон Герман, капельмайстрамі —Марцін Арманкевіч і Ян Чмухоўскі.

Інструмэнтальныя капэлы знайшлі пашырэньне ня толькі ў сьвецкім, але і ў культавым абіходзе, згодна з выяў-

7. "Kurier Polski". 1731, # 62; "Kurier Litewski". 1761, # 51; ЦДГА Літвы, Ф.СА. спр. 18258, арк. 4, 173 адв. Гл. таксама: В.Дадзіёмава. Янычарскія капэлы /Помнікі гістроыі і культуры Беларусі. 1988. № 2, Б.23-24.

ленымі архіўнымі крыніцамі[8], у ХУІІІ ст. у храмах Беларусі існавалі самыя розныя — як буйныя, так і невялічкія аркестры, што складаліся з струнных, драўляных, мядзяных духавых інструмэнтаў і аргана ці пазытыва. Такія капэлы меліся ў горадзенкім, слуцкім, нясьвіжскім, віцебскім, полацкім, і многіх іншых касьцёлах і кляштарах. Інструмэнтальную музыку можна было пачуць у Беларусі ў каталіцкіх і вуніяцкіх храмах. Удалося выявіць, што ў жыровіцкім базіліянскім кляштары на працягу амаль усяго стагодзьдзя дзейнічала капэла, якая суправаджала богаслужэньні й агульнагарадзкія сакральныя цырымоніі. Можна меркаваць, што многія царкоўныя аркестры гралі як на культавых, так і на сьвецкіх урачыстасьцях. Аб гэтым сьведчаць захаваўшыеся ў архівах нотныя каталёгі, у якіх побач са службовай нотнай літаратурай сустракаюцца і сьвецкія творы вядомых кампазытараў ХУІІ—ХУІІІ стст. Пры поліфункцыянальным характары дзеяньня касьцёльных капэл гаворыць і шматлікія запісы ў фінансавых дакумэнтах аб атрыманьні капэлістамі грошаў за выступленьні на паляваньнях і балях, вясельлях і імянінах у шляхты і мяшчан, за абслу-гоўваньне агульнагарадзкіх сьвятаў і гэтак далей.

Касьцёльныя музыканты таксама паходілі зь мясцовага насельніцтва— мяшчан, шляхты, сялян. Думаецца, што навыкі, атрыманыя ў гады навучаньня і працы ў капэлах, яны, як і магнацкія і вайсковыя капэлісты, зь цягам часу перадавалі сваім вучням. Таму нядзіўна, што і ў нашыя дні сярод народных выканаўцаў-інструмэнталістаў можна сустрэць такіх, якія добра валодаюць музычна-прагрэсыйнымі прыёмамі, ведаюць шмат клясічных твораў.

У цэлым трэба адзначыць, што зьвесткі, якія маюцца сёньня пра аркестровую культуру Беларусі ХУІІІ ст. дазваляюць пераканацца ў тым, што традыцыі прафэсыйнага інстрымэнтальнага выканальніцтва ў нас складаліся задоўга да ХХ ст. Аркестровая культура наша была надзвычай цікавая і разнастайная. У ёй перапляталіся самыя розныя мастацкія плыні, заходнія й усходнія, мясцовыя й іншаземныя традыцыі. Яна была падключана да агульнаэўрапейскага мастацкага працэсу й уносіла ў яго свае непаўторныя фарбы. Калі-ж да гэтага дадаць, што па сьведчаньню выяўленых гістарычных крыніц, ня менш інтэнсыўна разьвіваліся ў тагачаснай Беларусі й іншыя галіны музычна-прафэсыйнага мастацтва (опэрна-балетны) тэатр, розныя віды выканальніцкай практыкі, музычная творчасьць, адукацыя і выхаваньне) дык стане відавочна: у ХУІІІ ст. фармі-раваўся трывалы падмурак для росту музычнай культуры. І хто ведае —склад зіся гісторыка-палітычны лёс краіны інакш — напэўна ў нас ужо к канцу ХУІІІ —пачатку ХІХ ст., магла-б узьнікнуць свая выканальніцкая і кампазытарская школа. Але гісторыя распарадзілася інакш...



8. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіўБССР, Г.199924, воп. 1,спр 7, арк.1адв. -88; спр 17. арк 2. 7; г. 694, воп. 2, спр, 7443, арк, 17—19; Ленінградзкае аддзяленьне інстытута гісторыі СССР Ан БССР. Ф. 52, воп. 1. спр. 296, арк. 18—1; Цэнтральны дзяржаўны архпў Літвы. Ф.СА, воп. 1, спр. 11296, арк.9.

Эрнэст Ялугін

Публіцыстычная аповесьць-хроніка ў дыялёгах

# Сьвечкі на Дзяды




Дзеючыя асобы

**Зьміцер Жылуновіч,** кіраўнік Беларускага нацыянальнага камітэта, а ў бліжэйшым будучым—Старшыня першага Беларускага ўрада.

**Чарвякоў, Дыла, Лагун, Шантыр,** яго паплечнікі— прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага камітэту.

Дзеючыя асобы

**Мясьнікоў, Кнорын, Іваноў, Разэнталь, Рэйнгольд,** кіраўнікі Заходняй вобласьці й Смаленскай абласной партыйнай арганізацыі бальшавікоў.

**Сталін,** народны камісар па справах нацыянальнасьцей

**Сямён,** з рабочых, дэлегат УІ Смаленскай абласной партыйнай канфэрэнцыі.

**Кірэй,** зь сялян-беднякоў, у нядаўнім салдат.

**Мікола,** таксама селянін і салдат, які на вайне згубіў нагу.

**Яфім,** кухар і гаспадар перасоўнай харчэўні «Яф.Нобель».

**Радавец,** нядаўні дзеяч Беларускай Народнай рэспублікі, актывіст.

**Казімір,** інжынер, які таксама спачувае БНР.

**Алеся,** яго жонка, настаўніца малодшых клясаў. 22 гады, ня болей.

**Жакоўскі,** менскі акцёр, 20 гадоў.

**Першы салдат,** з Румыскага фронта.

**Другі салдат,** з Прыбалтыйскага фронта.

**Быкоўскі,** напалоханы шляхцюк.

**Бывалы,** доктар яшчэ тых навук. Яму гадоў пад 70, але ён яшчэ энергічны.

**Нябіты.** Малады чалавек у тужурцы чыгуначніка, магчыма зь «нефармалаў».

А таксама: **Дзяжурны** па станцыі, **Чырвонаармеец** зь вінтоўкай, прадаўцы газэт, пасажыры і людзі з натоўпу.

Спрэчку прыпыняе Мясьнікоў. Прэзыдыюм, варта Лагуна і Жылуновіча, ужо на сваіх месцах.

Мясьнікоў: Товарищ Жилунович, вас все ждут.

Жылуновіч (ківае, што зразумеў, але працягвае слухаць, як нешта напаўголаса яму гаворыць Чарвякоў. Нарэшце, дае знак, што гатовы працягваць далей)

Мясьнікоў: Жилунович, так что вы там решили?

Жылуновіч: Спачатку хачу ўдакладніць сутнасьць справы. Усё-ж мая кандыдатура была выстаўлена не ад імя маскоўскіх дэлегатаў, а чамусьці асабіста тав.Алібегавым. Дзякуй яму, аднак ня ведаю, чаму гэта ён вылучыў мяне, а ня хоцьбы, скажам, Драка-Дракона...

Рэйнгольд: (усхопліваецца): Что касается этой лічности, Дракона вашего так называемого, мне очень удивительно, как он вообще попал в ваши белорусские комсекции да еще и в ЦэБэ!

Жылуновіч: Чым ён вам не дагадзіў? Драка—Дракон — стары партыец, усе кажуць, што сумленны працаўнік, а таксама паліткамісар Першага беларускага Полацкага палка.

Рэйнгольд: Я знаю, о чем говорю. Имею сведения об этом националисте.

Мясьнікоў: Давайте по существу вопроса.

Жылуновіч: Па сутнасьці пытаньня —дык у падобных умовах я вырашыў за лепшае скласьці паўнамоцтвы сябры вашага ЦэБэ, каб застацца ў сэкцыях.

Мясьнікоў: Вы понимаете, Жилунович, на что замахнулись? Так вот, прибыв сюда, извольте подчиняться высшей партийной инстанции данной территории. Вследствие этого, товарищ, вы уже не имеете никакого права отказываться быть членом ЦэБэ, раз организация сочла нужным возложить на вас эту обязанность. Если, конечно, не отказываетесь соблюдать партийную дисциплину...

Жылуновіч: А я сюда не дэлегаваны для пастаяннай працы і на ўліку ў Маскве. Я, Лагун вось і астатнія прыехалі толькі на перамовы.

Мясьнікоў: Сейчас будете арестованы как саботажник, по законам революции. Революции нет дела до капризов слабонервных особ.

Рэйнгольд: Ну, товарищи. Все прискорбное происшествие совсем не есть достаточная причина, чтоб совместно не работать. Тов. Жилунович, вы же умный и деловой человек.

Жылуновіч: У такіх умовах ніякай добраахвотнай суполкі не атрымаецца. Тое, што зараз адбываецца, —вынік працяглых адносін да беларускага пытаньня, якія тут старанна культываваліся.

Рэйнгольд: Смею уверить, в Минске мы этим не занимаемася, есть дела поважнее. Все-таки давайте спокойно обсудим самое главное. Товарищ Жилунович, вы же бывший кожевник...

Жылуновіч: Я і зараз гатовы працаваць на заводзе.

Мясьнікоў: Дмитрий Федорович в пылу полемики, наверное, забыл, что ему предстоит работа потруднее, что он рекомендован на пост главы Белорусского рабоче-крестьянского правительства... Кстати, как с проектом Манифеста?[1]

Жылуновіч: Прывезьлі.



1. Заканчэньне. Пачатак у № 2-5.

М я с ь н і к о ў: Тогда все в порядке... Тогда позвольте от имени и по поручению Центрального Бюро Компартии республики назвать кандидатуры членов кабинета персонально... Как говорили когда-то, министров. Но народные комиссары трудовой республики — это не какие-то там ставленники кучки буржуазных узурпаторов, а любимые вожди пролетарских масс. Таким образом...

Ж ы л у н о в і ч: Адну хвіліну, тав.Мясьнікоў! Перш-наперш, таварышы, вялікі дзякуй за давер. Рады служыць верай і праўдай і надалей пралетарыяту, роднай, узьнятай рэвалюцыяй з гвалтоўнага небцьцья, працоўнай Беларусі. Па-другое. Можа, усё-ж мне, як будучуму прэм'еру, будзе дадзена права і сказаць — каго-б я жадаў бачыць у складзе кабінэта? Тым больш, што ў мяне ёсць сьпіс кандыдатур, зацьверджаных Белнацкамам і беларускімі камсэкцыямі, зь якімі пагадзіліся і ў Наркамаце нацыянальнасьцей.

М я с ь н і к о ў: Тов.Жилунович, все-таки попрошу не вносить анархии. Сейчас у нас есть Центральное Бюро. Съезд поручил ему определить персонально состав правительства. Имеется список, согласованный с тов. Сталиным...

Ж ы л у н о в і ч: Я ўжо ня ведаю, што думаць, напрыклад, у тав. Сталіна мы дамаўляліся, што і Цэнтральнае Бюро будзе створана на парытэтных пачатках ... А вы — бац і ў састаў Бюро — толькі двух беларусаў...

М я с ь н і к о ў: Не ожидал, признаться тов.Жилунович, что вы претендуете... Трудящиеся массы нас не поймут... так что следует подумать, если всерьёз решили примкнуть к нам.

Ж ы л у н о в і ч: Я не да вас асабіста, тав. Мясьнікоў, прымкнуў. Справамі, рэвалюцыйным змаганьнем неаднаразова пацьвярджаў адданасьць пралетарскай ідэі.

М я с ь н і к о ў: Тогда ясно. Считаю, нет надобности предложение тов. Жилуновича ставить на голосование.

Ж ы л у н о в і ч: А я прашу ўнесьці ў пратакол...

Ч а р в я к о ў (ціха): Зьмітро, не чапайся з ... Вытрымку пакажы...

Ж ы л у н о в і ч: Я-ж не аб сабе...

М я с ь н і к о ў: Продолжаем всё же работу, товарищи. Таким образом, предлагаются кандидатуры народных комиссаров: земледелия — тов. Андреев. Отводы есть?

Ж ы л у н о в і ч: (ціха Лагуну): Адкуль Андрэеў? У нас-жа значыцца Мазур Ігнат.

Л а г у н: Свайго пхнуць.

М я с ь н і к о ў: Комиссаром госконтроля —товарищ Берсон.

Ж ы л у н о в і ч (ціха Лагуну): Ліха зь ім. Мо і лепей, чым той Найдзёнкаў, якога раней яны прапаноўвалі.

М я с ь н і к о ў: Комиссаром юстиции —тов. Кваченюка. Внутренних дел —Иванов. По военным делам... Эти обязанности предложили мне... Комиссаром финансов —тов.Рэйнгольд.

Ж ы л у н о в і ч: Ну, няхай і так. Але мы лічым, здольнасьці Рэйнгольда лепей-бы скарыстаць у сфэры прамысловасьці і гандлю.

М я с ь н і к о ў: Министр по торговле пролетариату ни к чему. Вместо этого мы вводим должность председателя Совета Народного хозяйства республики. Рекомендован тов. Пикель.

Ж ы л у н о в і ч (ціха Лагуну): А ці ведае ён яе, тую беларускую гаспадарку! Ой,

бачу, будзе яшчэ турбот...

М я с ь н і к о ў: Наркомом продовольствия — тов. Калманович. Комиссаром просвящения —тов. Червяков.

Ж ы л у н о в і ч: Добра, што хоць тут нашы думкі супадаюць. Не меньш, чым хлеб, нам будзе цяпер патрэбна свая, беларуская школа. Асьвета і асьвета, а зь ёю ўсё астатняе прыйдзе.

М я с ь н і к о ў: Комиссаром иностранных дел... хотя я и остаюсь при прежнем мнении — нам он излишний...

Ж ы л у н о в і ч: Вам, можа, залішні, а для незалежнай рэспублікі патрэбны.

М я с ь н і к о ў: Что ж, ваше предложение поддержали в Москве, мы согласились... Предлагается на эту должность товарищ Фальский. Белнацком настоял на должность комиссара по национальным вопросам. В Москве пошли на встречу, но мы возразили, что этот портфель оставляет за собой председатель правительства.

Ж ы л у н о в і ч: Няхай так. Мы кандыдатуру яшчэ прапанавалі Шантыра Фабіяна.

М я с ь н і к о ў: Согласны. В дальнейшем рассчитываем, а нас в этом поддерживают тов. Свердлов и Сталин, ввести в правительство члена Центрбюро тов. Найдёнкова. И члена Центрбюро тов. Яркина, как председателя Чрезвычайной комиссии по борьбе с конрреволюцией.

Ж ы л у н о в і ч: Тады ўжо будзе і зусім сямёра нашых супроць вашых дванаццаці. Нішто сабе парытэт. Як- жа я з такім урадам буду?

К н о р ы н: Не разводите сепаратизм, Жилунович! «Ваши, наши». В конце концов, если на то пошло, мы тут, на местах, больше сделали для освобождения Белорусии от капитала, чем вы там в Белнацкоме.

Ж ы л у н о в і ч: Няхай сабе нават і так, дапусьцім. Але-ж як бескарысьлівыя змагары за волю народа, вы павінны былі-б цяпер сказаць: мы вам дапамаглі пазбавіцца імпэрскіх кайданоў, ну а цяперка ўжо самі старайцеся, будуйце новы лад.

М я с ь н і к о ў: И смотреть, как вы быстренько разведете своё буржуазно-сепаратистское болото? Не выйдет! Товарищи, предлагаю прекратить ненужные прения, которые нам здесь навязываются, и приступить к голосованию. Товарищ Жилунович, раздайте, пожалуйста, ваш текст проекта манифеста.

Ж ы л у н о в і ч: А я мушу заявіць, што ў такіх умовах галасаваць адмаўляюся і тэкст маніфэста не аддам.

М я с ь н і к о ў: Вы в своём уме? Знаете, чем это кончится? Чего еще хотите?

Ж ы л у н о в і ч: Канкрэтна: для ўзнаўленьня парытэту прапаную вывесьці са складу ўрада трох таварышаў. Яны, пераканаы, будуць толькі чыніць перашкоды нармальнай працы.

М я с ь н і к о ў: Это кто же имеется в виду?

Ж ы л у н о в і ч: Вы, тов. Мясьнікоў, а таскама Калмановіч і Пікель.

М я с ь н і к о ў: У вас все, тов.Жылунович?

Ж ы л у н о в і ч (налівае з графіна вады, п'е): Некалькі слоў яшчэ.

М я с ь н і к о ў: Ну, давайте, валяйте.

Ж ы л у н о в і ч: Яшчэ, каб потым не вяртацца... Трэба стварыць урад па ўзору Расейскага Саўнаркама. Тым больш, што ў нас зараз ажно два Цэнтрбюро. Дык вось, запішам: Цэнтрбюро намячае згодна волі партзьезда агульную палітычную лінію

ўрада, так? Але потым, запішам: няхай ужо Наркомамі не камандуе. Вышэйшая ўлада ў рэспубліцы павінна належыць толькі яе ўраду. А сам урад выбірае зьезд саветаў.

Мясьнікоў: Довольно! Вы, Жилуновіч, слишком дерзко решились на непрыкрытую контрреволюционную вылазку. Советую покинуть Смоленск. Немедленно! Давайте сюда текст манифеста — и вольному воля.

Жылуновіч: Тады ўжо абыходзьцеся і без нашага Маніфэсту, чаго тут залішнія цырымоніі...

Мясьнікоў: Ясно, но у большевиков выдержка стальная, на провокацию мы не поддадимся. Товарищи, предлагаю голосовать за предложение Цэнтрбюро по кандидатурам. С остальным разберемся потом.

Чарвякоў: Я таксама падтрымліваю прапанову таварыша Жылуновіча, і калі што, — пакідаю залю.

Лагун: Я адмаўляюся ўдзельнічаць у галасаваньні.

Дыла: І я пакіну залю.

Мясьнікоў: Вот как... Групповой саботаж из национал-сепаратистских побуждений.

Жылуновіч: Я пратэстую і зараз-жа тэлеграфую ў Маскву.

Мясьнікоў: Я сам обо всем доложу Центру. Товарищи, прошу не покидать помещение! Перерыв на час-другой. Затем всё-таки продолжим заседание. Я — на телеграф. (Ярасна круціць ручку тэлефона): Москва! Я — Смоленск! Товарища Сталина. Срочно! Товарищ Сталин? Мясников...

Сталін: Сталин у телефона. Здравствуйте, товарищ Мясников! В чем дело? Манифест утвердили?

Мясьнікоў: Товарищ Сталин, белорусы саботируют работу. Сразу отмежевались от партии.

Сталін: Так и знал, что без драки у вас не обойдется.

Мясьнікоў: Наши товарищи ведут себя очень сдержанно. Но Жилунович и его группа распаясались. Заявляют, что список членов правительства согласны признать только при исключении трёх членов— по военным делам, обеспечения, и Совнаркома. Да еще при условии независимости правительства отЦентрбюро партии.

Сталін: Это уже самодеятельность. А Манифест? Что с ним?

Мясьнікоў: Манифест предьявлять не желают.

Сталін: Вот это безобразие.

Мясьнікоў: Надо предписать белорусам, товарищ Сталин. Или предоставьте нам тут выдвинуть в правителство несколько белорусских фамилий.

Сталін: Не ожидал такого упрямства.

Мясьнікоў: Хуже. Я в дальнейшем предвижу стычки на почве самого неприкрытого национализма. Так как рекомендуете поступать?

Сталін: Во-первых, предложение Жилуновича считаю дезорганизаторским. Никаких особых решений его группы быть не может. Передайте ему: я требую от Жилуновича и его группы категорического ответа: подчиняются они без всяких пререканий нашему решению или нет? Пусть ответят срочно. Жду.

Мясьнікоў: Ну, вот, Жилуновіч. Вы получили то, чего добивались.

Жилуновіч: Вашае паведамленьне было прадузятым. Цяпер мая чарга.

М я с ь н і к о ў: Спрашваю , што центру все же ответить.

Ж ы л у н о в і ч: Адказваць усё-ж, як я разумею, прапануецца мне. (Звоніць)

Ж ы л у н о в і ч: Масква. Я-Смаленск, таварыша Сталіна. Або Свярдлова.

Зьяўляецца Сталін. Каля его пачынае працаваць тэлеграфны апарат.

Ж ы л у н о в і ч: Таварыш Сталін? Гэта Жылуновіч.

С т а л і н: Что стряслось, тов. Жилунович? Из Смоленска сплошные звонки, больше, чем с фронтов. Провод накалился. Манифест приняли?

Ж ы л у н о в і ч: Таварыш Сталін, група Мясьнікова нечакана парушыла ўмовы аб парытэце. Спачатку ў складзе Центрбюро, цяпер і ва ўрадзе. Гэта несправядліва. А галоўнае — урад акажацца непрацаздольным. Прасіў-бы перадаць гэта Леніну.

С т а л і н: Жылунович? Во-первых, Владимира Ильича категорически не беспокойте, он плохо себя чувствует. Во-вторых, Манифест о провозглашении республики опубликовать срочно. Жду сообщений. Вообще, завтра, по-видимому, выезжаю к вам. Поняли меня? До свидания.

Ж ы л у н о в і ч: Зразумеў... Усяго найлепшага. (Вешае трубку, працірае хусьцінкай вочы, стомлена брыдзе да сяброў.)

Ч а р в я к о ў. Што, Зьміцер? Ад каго адказ? Падтрымалі нас?

Ж ы л у н о в і ч: Яшчэ як. Загадана тэрмінова апублікаваць Маніфэст.

Л а г у н: Што значыць, апублікаваць ? Яго -ж яшчэ павінен зацьвердзіць урад.

Ж ы л у н о в і ч: Значыць, урад павінен іх даваць. Мясьнікоў пазыцыі мяняць не зьбіраецца. Цяпер я разумею, чаму ён гэткі няўмольны. Можа, пакуль няпозна, вярнуцца ў Маскву?

Д ы л а: Ехаць — дык у Менск. I ўсіх нашых клікаць тэрмінова туды. Растлумачым працоўным іх сацыяльна-нацыянальныя інтарэсы, рыхтаваць Усебеларускі зьезд Саветаў, каб на ім абраць урад.

Ж ы л у н о в і ч: Згода. Усебеларускі зьезд...

Ч а р в я к о ў: Не атрымаецца. Хутчэй Мясьнікоў нас арыштуе, а замену знойдзе з тутэйшых. I адрапартуе, што загад Цэнтра выканаў. А, урэшце ці ў гэтым справа? Зараз-бы, галоўнае не ўпусьціць. Рэспубліку абярэм — а там разьбяромся. Будзе-ж Усебеларускі зьезд саветаў. Выступім перад дэлегатамі, раскажам, як тут было дык гэтых смаленскіх хлопцаў ва ўрадзе духу не застанецца. У выканаўчы камітэт ня пройдуць, не тое, што ў Наркамы.

Ж ы л у н о в і ч: У людзей бы зараз спытаць, у народа: як лепей зрабіць, браты?

М і к о л а (стукаючы мыліцамі): А, уступі ты ім, Зьміцер. Бо не адчэпяцца-ж... А там будзе бачна. Мы-ж усё роўна застанемся, нікуды нас не падзенеш.

Ж а к о ў с к і: Цяпер уступіш —бяда будзе. Ой, бяда! Я і дажыць да яе не жадаю.

Ж ы л у н о в і ч (глядзіць на сваіх сяброў): Ну, што прапануеце?

Ч а р в я к о ў: Калі разабрацца, дык, відаць, няма зараз іншага шляху. Як бы там ні было, галоўнае не ўпусьціць шанс стварыць сваю дзяржаву. Давайце прызнаемся сабе: ці многія з нас яшчэ нядаўна адважваліся наогул гаварыць аб дзяржаўным самавызначэньні беларусаў? Той-сёй наогул лічыў гэта буржуазным перажыткам. Нехта мармытаў пра стварэньне хаця-б беларуска-літоўскай камуны. Усе, бы нейкія жабракі, недарэкі, жадалі аднаго — прытуліцца да каго, чакалі пакуль нам нехта што дасьць... Нарэшце, давайце верыць самім сабе. Табе, Зьміцер дык і адступаць як? Сам-

жа сказаў Леніну — бярэшся стварыць Беларускі ўрад. Дык калі ўзяўся ўжо за гуж.. А гэтыя? Вось стануць разам з намі жыць, упрагуцца ў агульны воз і адчуюць сябе, далі бог-жа, ну, не праз год можа, не праз пяць, але неадрыўнай часткай усяго народа —беларусамі. Сацыялізм іх вылечыць...

Чутны крокі, стукаюць у дзьверы. Зьяўляецца Мясьнікоў

Мясьнікоў: Все уже устали ждать. Вы со Сталиным поговорили?

Жылуновіч: Вас непакоіць Маніфэст? (Расчыняе партфель, дастае стос папер)... Вось трымайце... Толькі тэкст на беларускай мове.

Мясьнікоў: Прочтем, мне, знаете ли, приводилось белорусские национальные газетки читать... Вот и «Денницу» вашу, Жилунович.

Жылуновіч: Вырашылі-такі, таварыш Мясьнікоў, у беларусаў падацца?

Мясьнікоў: С чего бы это?Просто оказываю вам интернациональную помощь.

Жылуновіч: Ну, тады ўсё-ж — хто вы будзеце? Ніяк не дабяру. Вось прозьвішча сваё, чуў, армянскае, памянялі на расейскае. Як па мне, вырашылі, значыць, стаць расейцам. У рускай духоўнай сэмінарыі, зноў-жа, вучыліся... Як таварыш Сталін. А цяпер, выходзіць, станеце ў нас беларусам армянскага паходжаньня. Нацыянальнасьць-жа не ад Бога, гэта, як акадэмік Карскі неяк сказаў—гістарычны прадукт. Вось я. Відаць, беларус ці не крывіцкага кораню, а Шантар наш — дык той, відаць, татарскага ці караімскага. Прыгожыя людзі. На князя Вітаўта да гэтай пары моляцца.

Мясьнікоў: (перапыняючы) Шуточки эти, Жилунович.., опасные шуточки. Не в пору затеяли. Я - кто? Я — интернационалист. Прикажет партия — во Францию. Поеду во Францию. Во имя всемирной пролетарской революции. Да куда надо! (У глыбіню залі). Товарищ Розенталь!.. Да, Жилунович, у вас нет вдруг возражений, если управляющим делами правительства будет член Центрбюро тов. Кнорин?

Жылуновіч: Каб мяне гэтак яшчэ лепей кантраляваць?

Мясьнікоў: Да бросьце вы выискивать врагов...

Зьяўляецца Разэнталь.

Разэнталь ( да Мясьнікова): Звали, Александр Федорович?

Мясьнікоў: Вам, как члену Центрбюро и наркому почт и телеграфа предстоит ответственная задача. Передайте в Москву телеграмму. Срочно! Товарищам Ленину, Свердлову.., Совету народных комиссаров. Российской Советской Республике. Просим признать провозглашенную Советскую Республику Белоруссии с тесной федерацией с Совет/Россией. Функции государственной власти взяло на себя Временное рабоче-селянское правительство. Оно заявило о себе Манифестом... Подписи... Товарищ Жилунович, кроме вас, кто подписывает?

Жылуновіч: (махае рукой) Усё адно.

Мясьнікоў: Подписи. Председатель правительства — Дмитрий Жилунович. Члены правительства... Александр Мясников, Спепан Иванов... Аляксандр Червяков, Исаак Рэйнгольд. Запишите еще. Москва. Свердлову, Президиуму Всероссийского Центрального Исполкома. Как и было договорено, Смоленский Облисполком Зап передает свои полномочия Временному правительству БССР и принимает решение о самороспуске. Просим подтвердить самороспуск и таким образом ликвидировать Западную область как административную единицу РСФСР. Подписи: Мясников, Калманович.

Р а з э н т а л ь: Записано... Так я пойду?

М я с ь н і к о ў: Да... Еще вот вам текст Манифеста Белорусского советправительства. Распространить всеми средствами и по всей планете.

Разэнталь выходзіць за перагародку і адразу там пачынае працаваць тэлеграфны апарат. Мясьнікоў падыходзіць да тэлефона. Круціць ручку.

М я с ь н і к о ў: Тов. Сталин? У аппарата Мясников. С Манифестом всё в порядке.

С т а л і н: Утвердили, значит? Поздравляю!

М я с ь н и к о ў: Предвижу дальнейшие стычки на почве национализма.

С т а л і н: Ничего, все-таки, думаю, возьмутся за ум ваши белорусы.

М я с ь н і к о ў: Не уверен. Лучше, если бы вы все-таки к нам приехали. Боюсь, в Минске они еще себя покажут. В родных стенах, так сказать.

С т а л і н:. Мы здесь обо всем этом еще подумаем. Ждите ответа. До свидания.

Мясьнікоў вешае трубку і рашучымі крокамі выходзіць за перагародку. Адтуль далятае: «Товарищ Иванов, машина готова? Ну, поехали...»У гэты момант за перагародкай пачынаюць працаваць тэлеграфныя апараты. Дыктуюць тэкст Маніфэста. Паступова дыктоўка і шум тэлеграфных апаратаў аддаляюцца. Чутна, як у залі нехта адчыняе акеніцу.

Д ы л а: Глядіце, якая ноч! Бы ў казцы!..

Ч а р в я к о ў: Уф! Колькі ж часу зараз? Божухна, дзьве гадзіны ночы! Браты, новы-ж год ужо на двары другія суткі звоніць! А Дыла яшчэ дзівіцца— чаму ноч гэткая незвычайная. Навагодняя-ж!

Усе весела сьмяюцца. У гэты момант стукаюць у дзьверы.

Р а з э н т а л ь: Таварыш Жылуновіч, вы даруйце, што турбую. Я па даручэньню таварыша Мясьнікова. Толькі што атрымалі тэлеграму. З Масквы...

Ж ы л у н о в і ч: Дык давайце.. Дзякуй.. і добрага Новага года вам!

Р а з э н т а л ь: Дзякуй. Далажу вам, што нашы сувязісты зараз усе на баявым пасту. Маніфэст ляціць ва ўсе канцы сьвету. У Маскву, у Варшаву, у Вільню...

Ж ы л у н о в і ч: Дзякуй, таварыш Разэнталь. Дабранач.

Стукаюць, зачыняюцца дзьверы. Жылуновіч чытае тое, што яму дае Разэнталь.

Ч а р в я к о ў: Дзяржаўная тайна, таварыш Старшыня ўраду?

Ж ы л у н о в і ч: Можа і тайна, але-ж вы тут усе людзі дзяржаўныя (Чытае): «Белорусскому правительству и Центральному бюро Компартии Белорусии. В виду катострофического положения фронта в районе Перми, имею предложение ЦК партии и Совета обороны срочно выехать туда для расследования и принятия мер на месте тоже срочным порядком... Имея в виду, что положение у нас все же улучшилось, откладываю свою поездку в Минск дней на десять. Через десять дней буду у вас. Ведите себя смирно (кашляе)... смирно...и не деритесь, а то будет плохо. Белорусское правительство получает ...кхк! во як, получает... получает директывы, кми!... непосредственно от ЦК партии, от, кхи! .. через Мясникова, как представителя последнего, по поручению ЦК.`Желаю успеха. По сообщению, Гомель взят нами... Чулі, хлопцы! Гомель наш! .. —Та-а-к! Харьков... берем... До свидания. Сталин...

Жылуновіч зноў кашляе і глядзіць на ліхтар.

Ч а р в я к о ў: Нічога, нічога, самае цяжкае неяк мінулі.

Р а д а в е ц : Як жа... Яшчэ толькі пачынаецца.

Ч а р в я к о ў : Слухайце! Пойдзем зараз да мяне ў нумар. Хоць па шклянцы гарачай гарбаґы вып'ем. У мяне-ж такая добрая газьнічка. І троху цукру маю.

Д ы л а: А ў мяне — амаль бохан хлеба! Смаленскі, кменам беларускім пахне.

Р а д а в е ц: Пір чырвоных наркомаў! А праз тры тыдні Рэспубліку вашу сувэрэнную расфарміруюць. Зьлепяць гэты ЛітБел... А ўсіх вас стануць лавіць і арыштоўваць як злачынцаў. Словам, парабак зрабіў сваю справу...

К і р э й: Ціха там! Ціха, каму кажу!

Ж ы л у н о в і ч: Усё роўна ноч нашага сну скончылася. (Азіраецца). Неяк цемнавата.. Бач, вунь свечкі... Нехта рыхтаваўся Каляды сьвяткаваць. Давайце запалім!

Н я б і т ы: Бярыце сьвечкі, хто хоча, каб яго ўспомнілі на Дзяды. Хто першы?

*Выходзіць Жакоўскі, бярэ з кошыка сьвечку, працягвае Нябітаму. Той запальвае яе. Жакоўскі ставіць сваю сьвечку на тачку. Выходзіць.*

*Н я б і т ы (Паказваючы на Жакоўскага): Рамуальд Жакоўскі. Акцёр. Першага студзеня 1919 г. загінуў пры таямнічых абставінах. Кажуць, скончыў самагубствам у роспачы, што разагналі Беларускую Раду.*

*Падыходзіць Шантар. Бярэ сьвечку, сам запальвае ад сьвечкі Жакоўскага.*

*Н я б і т ы: Фабіян Шантар. Расстраляны пры загадкавых абставінах у 20-м годзе.*

*Падыходзіць Лагун. Бярэ сьвечку, запальвае.*

*Н я б і т ы: Язэп Лагун. Загінуў пры невядомых абставінах у час белапольскай акупацыі.*

*Падыходзіць Радавец. Бярэ сьвечку, запальвае.*

*Н я б і т ы: Язэп Лёсік. Прызнаў Савецкую ўладу. Стаў акадэмікам Абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме. Зьнішчаны сталіншчынай ў 1940-м годзе.*

*Падыходзіць Казімір і Алена. Бяруць сьвечкі і запальваюць іх.*

*Н я б і т ы: Казімір. Інжынер. Прозьвішча не вядома. Такіх — тысячы, вярнуўся па амністыі з эміграцыі. Зьнішчаны ў 30-м, як буржуазны спэцшкоднік. Алеся, яго жонка. Прозьвішча не вядома. Настаўніца беларускай мовы. Такіх дзесяткі тысяч. Загінула на Калыме ў лягеры.*

*Падыходзіць Рэйнгольд, Чарвякоў, Кнорын. Запальваюць сьвечкі.*

*Н я б і т ы: Ісаак Рэйнгольд. Расстраляны, як удзельнік права-трацкісцкага блоку... Аляксандр Чарвякоў. Загінуў ад сталіншчыны ў 1937-м... Вільгельм Кнорын. Расстраляны як вораг народу ў 1938-м.*

*Падыходзіць на мыліцах Мікола. Запальвае сьвечку.*

*Н я б і т ы: Мікола з Магілёўшчыны. Прозьвішча не вядома. Такіх сотні тысяч. Зьнішчаны сталіншчынай.*

*Падыходзіць Жылуновіч. Запальвае сьвечку.*

*Н я б і т ы: Зьміцер Жылуновіч. Зацкаваны сталіншчынай як нацыяналіст. Спрабаваў каяцца. Не дапамагло. Схоплены як агент імпэрыялізму. Яго бязьлітасна катавалі і мардавалі. Скончыў самагубствам у знак пратэсту ў 1937 -м г. Ляжыць у 3-х кіламэтрах ад Магілёва.*

*Зьлева, здалёк паказваецца Сталін. Ён трохі падобны на прывід. Яго апярэджвае Язэп Дыла. Запальвае сьвечку і гаворыць, паказваючы на Сталіна: «Я так доўга чакаў, пакуль ён зьгіне! Але я пераЖыў яго! ПераЖыў!..*

*Н я б і т ы: Язэп Дыла, памёр у ссылцы, радзімы так і не пабачыў.*

*Нарэшце, набліжаецца Сталін. Спыняецца. Глядзіць на кошык са сьвечкамі і грэбліва ўсьміхаецца. Глядзіць на ліхтар.*

*Н я б і т ы: Іосіф Джугашвілі. Усяму сьвету вядомы, як Сталін. Вялікі, непераўзыйдзены ў вяках душагуб народаў. Памёр сваёй сьмерцю, у пашане.*

*Сталін аддаляецца. Бывалы пры гэтым устаў і нібы аслупянеўшы, пазірае на постаць Сталіна, пакуль яна зьнікае.*

*Н я б і т ы: Давайце і вашу сьвечку.*

*Б ы в а л ы: (машынальна бярэ сьвечку, але калі ўбачыў агонь, раптам схамянуўся, узняў сьвечку над галавой, трасе ёю і сьмяецца) І мяне заадно ўздумалі пахаваць? Не, я яшчэ жывы, дзякаваць богу (дзьме на сьвечку і тушыць). Жывы... (аглядваецца на Нябітага) А з вамі ... з вамі... у другім месцы пагаворым.*

*Зьнікае за сцэнай. Нябіты глядзіць на агонь сьвечак. Потым падыходзіць да звона, звоніць. Адзін раз.. Другі. Трэці. Заслова апускаецца. Мерныя ўдары ў звон чуюцца некаторы час за заслонай.*

*Канец*

# ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ

## Як абвяшчалі незалежнасьць Беларусі

 Анатоль Белы 

У панядзелак раніцай, 19-га жніўня я даведаўся ў Нью Ёрку аб перавароце ў Маскве. Я меў шэсьць гадзінаў на дэцызію — застацца ў ЗША ці вярнуцца ў Менск. Абавязак беларуса патрабаваў ехаць на Бацькаўшчыну, каб у гэтую адказную часіну быць разам з сваім народам.

Я паляцеў у Маскву. У самалёце сярод тысячы думак, якія праносіліся ў галаве, час ад часу непакоіла адна: «На якім баку будзе мой брат, палкоўнік Генэральнага штабу арміі ? Ці не станецца так, што мы апынемся на розных баках барыкадаў?» Як былўшы афіцэр-лётчык, я добра ведаў, што такое вайсковая дысьцыпліна.

Самалёт своечасова прызямліўся на лётнішчы Шарамецьева. Брат ужо чакаў мяне. Быццам-бы прачытаўшы мае думкі, ён спакойна сказаў: « Можаш не хваляваціца. Абстаноўка ў Маскве нармальная. Генштаб падзяліўся, але бальшыня за Ельцына. Я зь імі». Ад радасьці я абняў брата. Мы паехалі на яго кватэру, што па Шчолкаўскай шашы. Дабраліся даволі хутка. Барыкадаў і тан каў на нашай дарозе не было.

У хаце мы засталі ў гасьцях сябра брата, палкоўніка сувязі Генштаба. Мы прывіталіся, я адразу запытаў яго, ці не прадбачыцца грамадзянская вайна. Ён, ўсьміхнуўся і сказаў, што крызысная сытуацыя мінула, бо група «Альфа», на якую спакладалі надзеі загаворшчыкі, КДБ не падпарадкавалася і не выканала загаду. Абяцанкі, угаворы, пагрозы — нішто не дало выніку. «Мы-ж мелі час паслаць танкі, змаглі ўзяць у абарону Белы дом» Палкоўнік расказаў шмат дэталяў гэтага перавароту, адна зь іх, што генэрал-палкоўнік Кобец ёсьць староньнік Ельцына і павінен ўзначаліць узбройныя сілы Расеі. Пазьней брат мне сказаў, што гэты палкоўнік быў даверанай асобай генэрала Кобеца, калі той балатаваўся ў Вярхоўны Савет РСФСР, і ягоная інфармацыя даставерная.

У сераду, 21 жніўня, мы зранку паехалі аглядаць Маскву. Танкі і баявыя машыны пяхоты (БМП) сустракалі нас на скрыжаваньнях, Манежная плошча была запруджаная танкамі і БМП. Учора і сёньня тысячы дзяўчат і жанчын на вуліцах размаўлялі з вайскоўцамі, прасілі і прыгражалі, каб тыя не стралялі ў людзей. Прыслухоўваючыся да адной такой размовы зь сяржантам-танкістам, пачуў ягоны беларускі акцэнт. Прадставіўся яму і запытаўся, ці будзе ён страляць у народ, калі атрымае загад. Хлапец, ні хвіліны не раздумваючы, адказаў, што страляць ня будзе. Сам ён з Гомельшчыны, Мазырскага раёна, які моцна пацярпеў ад Чарнобыльскай аварыі. Сяржант злосна прамовіў: «Партыйцы ўсё маюць, а людзі нічога, мінулі часы, калі за партыю ваявалі. Мы зараз з народам». Я запытаўся: «А за незалежнасьць Беларусі ваяваць будзеш?» «Так, за дэмакратычную Беларусь ваяваць пайду».

Я адшпіліў значок зь беларускім нацыянальным сьцягам і паказаў сяржанту, пытаючыся: «Ведаеш, што гэта?» Ён аглядзеў, але нічога не адказаў. «Гэта сьцяг дэмакратычнае Беларусі з 1918 г., якую камуністы паняволілі. Гэта сымбаль барцоў за адраджэньне Беларускай Народнай Рэспублікі. Вазьмі яго сабе,

прышпілі і стань барацьбітом БНР». Хлапец узяў значок і адразу замацаваў яго на гімнасьцёрцы. На мой кліч: «Жыве Беларусь!» —адказаў: «Жыве!».

Дзякуючы брату, мы прайшлі праз ланцуг танкаў да будынку Генштабу арміі. Нас прапусьцілі ў яго сярэдзіну. У вялізарным фае стаялі групкі афіцэраў і ўзрушана размаўлялі. Ад іх я даведаўся, што Язаў ужо не мае ўлады. А таксама, што ў гэтым важную ролю адыгралі афіцэры сувязі, якія стварылі камунікацыйную блякаду Язаву й ягонай групе. Стала зразумела, што «путч» праваліўся, і ўся армія паступова пяройдзе на бок Ельцына. Гэта вельмі ўзрадавала.

Потым мы паехалі да Белага дома Расеі. Мы пабачылі барыкады, заўважылі, што ў стратэгічных пунктах стаіць 6 БМП, каля барыкадаў 10 цяжкіх танкаў. За барыкадамі знаходзіліся дружыньнікі, на вуліцах і плошчы людзі рознага веку. Усе: вайсковыя і цывільныя—абараняпі Белы дом, так званы бастыён Ельцына. Беларус Генадзь Прыбыткаў, які ўсе гэтыя дні быў на барыкадах сказаў нам, што на абарону Белага дома выйшла шмат беларусаў. Ёсьць сярод іх Аляксей Каўка з сынам, Валеры Сядоў, якога нядаўна выпусьцілі зь Менскай турмы.

Мы з братам вырашылі зайсьці ў сярэдзіну Белага дома. Прадставіўся аднаму з дружыньнікаў, што я сябра Беларускага Народнага Фронту, вярнуўся з ЗША. Сказаў, што хачу пагаварыць з дэпутатам Алесям Адамовічам. Нас правялі ў сярэдзіну. Тут мы пачулі апошнія навіны, паслухалі «Свабоду», «Голас Амэрыкі», «Вольную Эўропу», «Эха Масквы», «Расію». Алеся Адамовіча ў гэты момант не аказалася ў будынку, ён некуды на некалькі гадзінаў адʼехаў. Мне запрапанавалі выступіць па радыё, але для выхаду перадачы ў эфір трэба было пачакаць пару гадзінаў. Я-ж сьпяшаўся на цягнік. Мяне запэўнілі, што ў Менску цішыня. Адно толькі Дземяньцея падлавілі, які выказваў сваю салідарнасьць з Янаевым.

У Менск прыехаў 23 жніўня а 7-й раніцы. Як мяне й інфармавалі ў Белым доме, у Менску было спакойна. Адно толькі кідалася адразу ў вочы — людзкія твары. Адныя былі вельмі пахмураныя, іншыя, наадварот, вясёлыя. У той час ужо было вядома, што загавар праваліўся і камуністычная партыя ў апале, яе маёмасьць будзе нацыяналізаваная. Вечарам даведаўся, што 24 жніўня склікаецца ў Менску нечарговая сэсія Вярхоўнага Савету БССР.

На наступны дзень разам з спадчыньцамі мы шлі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі на мітынг, які праводзіўся ў падтрымку апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР. Два дні, пакуль ішла сэсія, народ стаяў на плошчы перад Домам Ураду ў напружаньні. Прамовы на плошчы сьці- халі, толькі калі перадавалася трансляцыя з залі, дзе праходзіла сэсія.

А там з кожнай хвілінай страсьці напальваліся ўсё больш і больш У першы дзень сэсіі запомнілася прамова дэпутата Голубева аб парадку дня надзвычайнай сэсіі. Голубеў выступаў ад імя апазыцыі. Напачатку, ён павіншаваў усіх жыхароў Беларусі зь перамогай над сіламі рэакцыі і падзякаваў масквічоў за вялікі ўклад у перамогу над фашысцка-камуністычнай хунтай. Ад імя апазыцыі ён прапанаваў ў неадкладным парадку разьгледзець на надзвычайнай сэсіі шэраг важных пытаньняў. У першую чаргу— аб забароне дзейнасьці камуністычнае партыі ў Беларусі, як палітычнае

арганізацыі, што падтрымлівала пучыстаў, і неадкладным вызваленьні ад цэнзуры ЦК КПБ радыё, афіцыйнай прэсы, і тэлебачаньня. Апазыцыя БНФ патрабавала ўстанаўленьня на тэрыторыі Беларусі вяршынства Беларускага законадаўства, зьмены артыкула 72 Канстутыцыі БССР, наданьні Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статуса канстатуцыйнага закону.

—Настаў час, — падкрэсьліў прамоўца —ствараць нацыянальнае войска для абароны межаў Беларусі і ворганаў нацыянальнай бясьпекі, падначаленых уладам Беларускай рэспублікі.

Акрамя таго апазыцыя патрабавала разьглядзець пытаньні аб дзеяньні як старшыні Вярхоўнага Савета БССР, так і членаў Прэзыдыюма БССР і службовых асобаў у рэспубліке ў час спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР. Для гэтага апазыцыя прапанавала стварыць камісію па дасьледваньню супрацоўніцтва Старшыні Прэзыдыюма ВС БССР Дземіяньцея са змоўнікамі перавароту.

У заключэньні гэтага ўзрушанага выступленьня прагучаў зварот да менчукоў прыйсьці на плошчу перад Домам Ураду дзеля падтрымкі дэмакртычнай меншасьці ў Вярхоўным Савеце БССР. Пэўна, што камуністычная большасьць у Вярхоўным Савеце выступіла супроць прапановаў апазыцыі і спрабавала адыйсьці ад адказнасьці за удзел камуністычнай партыі ў дзяржаўным перавароце. Але народ на плошчы таскама не спаў. Ён уважліва сачыў за кожнай дыскусыяй. «Далоў Дземіяньцея!», «Далоў КПБ!»—гучала на плошчы. Моцная падтрымка людзей і паймённае галасаваньне па кожнаму пункту павесткі дня вымусілі кансэрватыўны Вярхоўны Савет БССР уключыць у парадак дня прапановы апазыцыі.

Пакуль камуністы змагаліся за выратаваньне сваёй партыі, на плошчы адбывалася сымбалічнае пахаваньне КПБ. Перад Домам Ураду і помнікам Леніну была змайстраваная труна, у якую людзі складалі сымбалі й атрыбуты КПБ. Нехта сыпаў у труну медзякі, нехта не пашкадаваў для такой нагоды рубля, самыя «сердабольныя» кідалі ў труну цукеркі. Народ зь усьмешкай разьвітваўся з сваім мінулым. Потым пахавальная працэсія ўрачыста крочыла да будынка КПБ, дзе й адбылося «захаваньне» былой кіруючай і накіроўваючай сілы савецкага грамадзтва

На другі дзень народ зноў прыйшоў на плошчу. Але камуністы ў Вярхоўным Савеце не зьбіраліся здавацца. Яны спрабавалі загаварыць сэсіію, але указ прэзыдэнта Гарбачова ад 24 жніўня аб спыненьні дзейнасьці КПСС на тэрыторыі СССР вымусіў іх падумаць аб незалежнасьці Беларусі.

Пераломны момант пачаўся пасьля таго, як Дземіяньцей, які веў пасяджэньне сэсіі, вырашыўдаць слова свайму партыйнаму босу, Першаму сакратару ЦК КПБ Анатолю Малафееву. Але народныя дэпутаты БССР рэзка запатрабавалі, каб кіраўнік злачыннай арганізацыі пакінуў трыбуну. У залі ўзнікла суматоха і Дземіяньцей вымушаны быў абвявіць перапынак.

У перапынку адбылося пасяджэньне Прэзыдыюма Вярхоўнага Савету БССР. У час яго 11 членаў Прэзыдыюма прынялі «Зварот ад імя сяброў Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета Беларускай ССР да Старшыні Вярхоўнага Савета Дземіяньцея Мікалая Іванавіча і заступніка старшыні Шаладонава Васіля Іванавіча.

Абставіны, якія склаліся ў рэспубліцы,— запісана ў звароце,— і занятая Вамі пазыцыя ў адносінах да

антыканстытуцыйных дзеяньняў ЦК КПБ, якая фактычна падтрымала пераварот, недавер да Вас шырокіх слаёў насельніцтва патрабуе нас зьвярнуцца да Вас з патрабаваньнем аб неадкладным звальненьні Вас. Мы спадзяемся, што Вы правільна зразумееце нашае патрабаваньне і знойдзіце у сабе грамадзкую мужнасьць паставіць інтарэс народу вышэй сваіх асабістых. Зварот аб звальнені падпісалі сябры Прэзыдыюма ВС БССР Карпенка Генадзь, Сасноў Аляксандр, Міцько Пётр, Слеямнёў Міхал, Булахаў Дзьмітры, Смоляр Іван, Садоўскі Пётр, Сівіцкі Дзьмітры, Курдзюкоў Валеры.

Паступова усё мацьней і мацьней стала падымацца пытаньне аб незалежнасьці. Некаторыя «дзеячы» адразу зразумелі, што незалежансьць Беларусі дазволіць ім захаваць КПБ і ігнараваць загады Прэзыдэнта Гарбачова. У гэтай сытуацыі апазыцыя прапанавала спачатку прыняць пастановы аб дэпартызацыі дзяржаўных органаў і прыпыненьні дзейнасьці КПБ на Беларусі. Пад націскам абставінаў і людзей на плошчы Вярхоўны савет шляхам паіменнага галасаваньня прыняў важнае рашэньне аб дэпартызацыі, прыспыненьні дзейнасьці КПБ, наданьні Дэклярацыі аб сувэрынітэце Статуса канстытуцыйнага закона, а таксама аб палітычнай і эканамічнай незалежнасьці беларусаў. Гэта была вельмі важная перамога дэмакратычных сілаў Беларусі.

А тым часам народ на плошчы зь нецярпеньнем чакаў канца пасяджэньня сэсіі і з радасьцю вітаў выхад на плошчу дэпутатаў ад апазыцыі БНФ. Дэпутаты-камуністы вымушаны былі здымаць свае дэпутацкія значкі і, хаваючыся выходзіць з Дома Ураду. Яны баяліся людзкога гневу і сумнага лёсу сакратара ЦК КПБ па ідэялэгіі, дэпутата Ціхіні. Калі днем дэпутат Ціхіня спрабаваў падыйсьці да людзей на плошчы, ён быў аплёваны народам у самым прамым сэнсе гэтага слова. Ціхіню выратавала толькі тое , што за яго заступіліся дружыньнікі БНФ, якія ўвесь час падтрымлівалі парадак на плошчы разам з толькі што створанай нацыянальнай беларускай гвардыяй.

Бура радасьці разьнеслася на плошчы, калі мы даведаліся пра абвяшчэньне незлаежнасьці Беларусі. Пасьля двух дзён змаганьня акт аб незалежнасьці быў прыняты Сэсіяй Вярхоў нага Савету БССР аднагалосна. Не перадаць тых пачуцьцяў, якія нахлынулі.

Мы шлі зь сьцягамі і харугвамі да парку Янкі Купалы. Людзі плакалі, сьмяяліся, сьпявалі ад шчасьця. І кліч «Жыве Беларусь!» зьвінеў над начным Менскам.

26 жніўня 1991 г.Менск



Яўген Ціхановіч

# Лісты ад Міколы Ермаловіча

Міхась Белямук

7 чэрвеня 1980 г.

«Думкі Васпана, што, магчыма, пад Палямонам[1] можна разумець паварот высланых у Бізантыю полацкіх князёў, вельмі арыгінальная і цікавая. Але я сумняваюся, што яе ў нас прымуць, што зможаце пераканаўча давесьці, бо ў апошні час у навуковай літаратуры робяцца спробы паставіць легенду пра Палямона на іншы грунт. Справа ў тым, што знаходзяць зьвесткі, што нібы-то ў ІУ ст. на Дунаі існавала якаясьці Літва. Пра гэта піша Е.Ахманьскі ў сваёй «Гісторыі Літвы» (стр. 12). Я таксама знайшоў дакумэнтальнае пацьверджаньне таго, што гэта Літва (Kenezar Lytwa) існавала яшчэ там-жа ў сярэдзіне XIII ст. Зыходзячы з гэтых фактаў, дапушчальна лічыць, што нейкая частка дунайскай літвы магла перасяліцца на Нёман. Пры гэтым мушу зазначыць, што побач з Дунайскай Літвой ёсьць шмат латышскіх і прускіх тапонімаў. А гэта можа даказываць, што разам зь літвой перасяляліся латышы і прусы. Аднак я асабіста не падзяляю гэтае думкі аб рэальнасьці міфа пра Палямона. Ён узьнік у сярэдзіне ХУІ ст. ў складаных умовах Лівонскае вайны, так сама ў сувязі зь легендай аб паходжаньні маскоўскіх князёў ад Пруса-сваяцтва з рымскім імпэратарам. Гэтае пытаньне я падрабязна разглядаў у адной з сваіх прац, але, на жаль, пакуль што не надрукавалі. Іншая справа з паведамленьнем Васкрэсенскага летапісу, дзе гаворыцца, што вільняне ўзялі з Царграду сыноў полацкага князя Расьціслава Рагвалодавіча — Маўкалда і Давіла. Пашута лічыць гэта выдумкай. Я згодны з Васпанам, што тут прысутнічае вялікая доля праўды. Ва ўсякім выпадку, гэты факт і дае падставы зьвязываць лёс высланых полацкіх князёў зь гісторыяй Вільні і Вялікім княствам Літоўскім. Не пакутвайце ад зробленых заўвагаў, разьвівайце сваю думку.»

1. У летапісах Альшэўскага, Красінскага, Рачынскага, Рунямцава, у хроніках Быхаўца, Літоўскай і Жамойцкай запісана апавяданьне пра Палямона, што ён на чале чатырох іншых родаў пакінуў Рым і морам прыплыў да Нёману. Па рацэ Нёман паплылі, паколькі ваколіца падабалася аселі, далі пачатак літоўскаму баярству, а пазьней—Вялікаму княству Літоўскаму. Дасьледчыкі летапісаў і хронікаў прыпушчаюць, што М.Стрыйкоўскі быў першым, хто запісаў легенду пра Палямона.

ПСЛР, М.1975, т,32, б15- 16, 128-129.



7 ліпеня 1980 г.

«Пішу гэты ліст пад моцным уражаньнем ад купальскага сьвята, якое праводзілася гэтай ноччу. Як радасна бачыць, што з кожным годам усё больш запальваецца купальскіх агнёў. У гэтым годзе наша Маладэчыншчына палала ад іх. Што-ж, так і павінна быць на нашай зямлі, якая падаравала сьвету Янку Купалу...

Kronika polska, litewska, zmudzka i wszystkiej Rusi Macieja Strujkowskiego, W. 1846, b. 55-85.

Што да камэнтарыяў Радэна адносна Эймундавай сагі, то іх прысылайце, можа й атрымаю. Васпану апрача «Помнікаў» пасылаю ў двух экзэмплярах артыкулы пра Рагвалода і Рагнеду і таскама публікацыю пра беларускія падзеі зь «Истории Российской» В.Тацішчава. «Мову ў гісторыі беларускага пісьменства» і тэкстаў «дошчычкаў» з камэнтарыямі не атрымаў, можа зьлітуюцца й аддадуць.

Якая-ж думка Васпана наконт майго меркаваньня пра паходжаньне назвы крывічоў ад імя «Крэў»? Я закончыў працу пра славянскае засяленьне Беларусі (гэта адзін з разьдзелаў маёй гісторыі), у якой шмат увагі ўдзяляю паходжаньню назваў як крывічоў, так і дрыгавічоў і радзімічаў. Думаю, што ў скарочаным выглядзе я недзе надрукую. Ці шукаў Васпан артыкул С.Кроса, аб якім была ў нас гаворка? Вельмі цікавая заўвага, што амэрыканскі дасьледчык выказвае меркаваньне, што руская княгіня, жонка Ўладзімера, апекавалася над юным Алявам, калі ён быў на Русі. Мажліва, трэба бачыць нікога іншага як Рагнеду, хаця яна запісана як Алогія. А можа там яшчэ ёсьць што-небудзь цікавага наконт Рагнеды ды наогул, што там больш пра нашую старыну напісана? У Лёндане выйшла кніга М.Гімбутаса «Балты». Я, на жаль, яе не маю, але на б.151 ёсьць карта балцкіх «астравоў» Верхняга Падняпроўя. Добра было-б зазірнуць у яе,



29 кастрычніка 1980 г.

«Мы вельмі рэдка лістуемся, таму нашая дыскусія ня ёсьць плённай. Мне, напрыклад, мала вядома, у якіх момантах Васпан лічыць паданьне пра Палямона годным веры й як яго спалучыць зь вяртаньнем полацкіх князёў зь Бізантыі. Калі прыймаць у сур'ёз легенду пра Палямона, то трэба паказаць на падабенства архітэктурных помнікаў Ніжняга Панямоньня (там наступіла высадка рымскіх падарожнікаў) з архітэктурай Беларускага Панямоньня. Пра паданьні аб зьяўленьні ў Ніжнім Панямоньні нейкіх мараходцаў гаворыць і Т. Нарбут. На жаль, яго мяне пад рукой няма і не магу дакладна ўказаць старонкі. Але таксама І. Забелін гаворыць, што гэтыя таямнічыя мараходы былі славянамі і даводзіць гэта тапанімічным матэрыялам. Што да магчымасьці перасяленьня прыдунайскае Літвы ў Панямоньне, то тут няма нічога неверагоднага. Я дапушчаю, што гэта Літва магла пасяліцца на землі яцьвягаў, чым і тлумачыцца ўзаемная варожасьць. Літва ўвесь час адціскала іх на захад. Аб тым, што яцьвягі былі больш даўнімі тут жыхарамі, сьведчыць наяўнасьць гідронімаў, у той час як літоўскіх тут няма.

Міф аб рымскім паходжаньні жмудзінаў, літоўцаў і яцвягаў упершыню зьяўляецца ў Длугаша. Цяжка сказаць, ці ён сам яго выдумаў, ці сапраўды запісаў яго з чыіх-небудзь вуснаў. Калі Нарбут гаворыць пра шырокае бытаваньне падобных легенд, то, магчыма, што яны былі яшчэ і да Длугаша. Але Нарбут не заслугоўвае вялікага даверу, бо сам ён пусьціў у ход нямала выдумак, хаця гэта не выключае ўважлівага разгляду ўсяго таго, што ў яго ёсьць... Аднак пытаньне яцьвягаў вельмі важнае, я ў гэтым згодны, яно важнае ў нашай гісторыі. Галоўнае, што няма адзінае думкі наконт таго, дзе яны жылі. Польскія дасьледчыкі абмяжоўваюць іх Сувалкіяй. Рускія дасьледчыкі бачаць іх жыхарамі Беларускага Панямоньня і Папрыпяцьця. Я на баку апошніх».

22 сьнежня 1980 г.

«Я зь цікавасьцю пазнаёміўся з вашымі довадамі ў карысьць таго, што пад Палямонам і яго спадарожнікам і трэба разумець паварот з Бізанты полацкіх князёў. Шкада, што пазнаёміўся зь імі крыху запозна, бо меў-бы магчымасьць хоць коратка закрануць іх у адным з сваіх артыкулаў (Камэнтары да 32 і 35 тт. ПСРЛ) Але, думаю што яшчэ надарыцца нагода, каб указаць на Вашу гіпотэзу. Яна ва многіх выпадках слушная. Аднак ёсьць у ёй і слабаватыя месцы. Вы-ж самыя сказалі, што летапісы паведамляюць аб вяртаньні ў 1139 —1140 гг. толькі двух полацкіх княжычаў— Івана і Васіля. Апошні — гэта добра вядомы нам Васіль-Рагвалод, камень якога знаходзіўся каля Воршы й у 1934 г. па-варварску зьнішчаны. Як вядома, ён княжыў у Полацку, Менску і Друцку і ня мае непасрэднага дачыненьня да Панямоньня (хаця, як князь менскі ён мог валодаць тагачаснай Літвой, што была побач зь Менскім княствам. Дзе дзеўся Іван—невядома, магчыма, ён і падаўся ў Панямоньне — зараз цяжка сказаць, бо зьвестак пра яго ніякіх няма. Я не археолёг і не магу мець пэўных меркаваньняў наконт знаходак... Аднак і зараз Васпана меркаваньні заслугоўваюць таго, каб быць рабочай гіпотэзай, з чым і віншую...

Прашу прабачэньня, што крыху прыпазьніўся з адказам на ліст. У нас да 100-годзьдзя Я.Купалы рыхтуецца Купалаўская энцыкляпэдыя. Крыху я прыпазьніўся з артыкуламі, таму зараз вялікая сьпешка. Сёньня заканчываю сваю норму — 73 артыкулы. Так што я зваліў зь сябе добры цяжар і змагу вярнуцца наконт Літвы.



15 красавіка 1981 г.

Вялікі дзякуй за прысланы артыкул і за ліст. Артыкул, на мой пагляд, (паўтараю яшчэ раз, я не археоляг) грунтоўны і вывады зь яго вельмі важныя для вытлумачэньня нашай стражытнасьці. Думка, што крывічы ў пачатку УІІІ ст. пранікаюць у Панямоньне, а да іх далучаюцца на мяжы УІІІ—ІХ стст. дрыгавічы, наогул, правільная, але толькі для гэтага рэгіёна. Я усё-ж лічу, што сьпярша дрыгавічы засялілі ўсю тэрыторыю Беларусі (яе ўсходняе часткі), а пасьля сталі расьсяляцца крывічы. Наконт нарманскай тэорыі, то я ў адносінах яе абыякавы. Для мяне не зьяўляецца істотным, якога паходжаньня, напрыклад, літоўскія князі: нарманскага, славянскага, рымскага ці жамойцкага. Важнае тое, што дзяржава, якую яны ўзначальвалі, была беларускай, і яны яе інтарэсам павінны былі спрыяць. Трэба сказаць, што голас пра нарманскае паходжаньне літоўскіх князёў у навуцы вельмі слабы (наколькі мне вядома). Я пра гэту тэорыю даведаўся толькі зь кнігі У.Пашуты «Образование...», але ён пра гэта сказаў мімаходзь. Калі Вам вядома болей пра яе, то трэба даваць бой, нягледзячы на тое ці яе заўзяты прыхільнік жывы, ці нябожчык. Адначасна хачу зьвярнуць увагу сябру, што маецца артыкул В.Юргевіча (здаецца, ён быў беларусам). У артыкуле даказываецца славянскае паходжаньне імёнаў літоўскіх князёў. Мне застаецца невядомым, ці атрымаў сябра бандэроль з маімі артыкуламі. Я да 90-годзьдзя М.Багдановіча напісаў невялікі артыкул пра яго як гісторыка. Мае сябры зрабілі спробу надрукаваць маю працу «Па слядах аднаго міфа», напісаную яшчэ ў 1968 г. і друкаваную ўрыўкамі. Калі раней супроць яе апалчыліся капыскія й ім падобныя, якія ўбачылі ў ёй спробу ўва

скрэсіць, маўляў, даўно пахаваную тэорыю аб беларускай дзяржаўнасьці і мінулым, то гэтым разам яе крэсьліў М. Улашчык, бо ўбачыў у ёй толькі домыслы. Першых я лёгка мог зразумець, але другога цяжэй. Ніводнага аргумэнта супроць мяне ён ня змог прывесьці. Застаецца, толькі меркаваць, што яму было непрыемна убачыць як тое, што ён змог зрабіць сам, было зроблена іншым... Мае сябры не здаюцца і робяць захады, каб усё-такі апублікаваць маю працу. У мяне для такіх клопатаў няма ні сілаў, ні часу. Уся надзея на іх. Я вельмі ўдзячны сябру за тое, што паклапаціўся, не пакінуў маіх прац без увагі. Мне казалі, што ў адной з рэцэнцыяў на кнігу М.Косьмана «Гісторыя Беларусі» невядомы мне сябра грунтаваўся на маіх працах, калі крытыкаваў Косьмана за яго погляд на ўтварэньне Вялікага княства Літоўскага. Хачу я яму шчыра падзякаваць за гэтае. Справа з маімі вачыма пагоршылася. Катаракта пачала расьці на правым воку, тым воку, якое яшчэ крыху бачыць і якім я магу хоць крыху чытаць, бо левым я амаль нічога не бачу. Калі гэтая катаракта высьпее, гэта значыць, калі я канчаткова асьлепну на правае вока, тады мне зробяць апэрацыю, вядома, зь няпэўнымі вынікамі. Але пакуль я бачу яшчэ, трэба нешта рабіць, чытаць і пісаць.»



17 ліпеня 1981 г.

«Я вельмі сумняваюся, што паход Уладзімера на яцьвягаў у 983 г. зьвязаны з полацкімі падзеямі. Справа ў тым, што апошнія занесены ў летапіс толькі ў 980 г., а адбыліся раней. Гэтае пытаньне я закрануў у сваім артыкуле, зьмешчаным у часопісе «Нёман», але яно было скарочаным з-за недахопу месца. Карацей кажучы, паход Уладзімера на Полацак адбыўся недзе ў 975-976 г.,не пазьней гэтых дат. Яраслаў, паводля летапісаў, памёр у 1054 г. ва ўзросьце 76 гадоў. Значыць, што нарадзіўся у 978 г. А ён быў другім сынам Уладзімера ад Рагнеды. Не выключана, што паміж імі магла нарадзіцца дачка, хоць-бы тая-ж самая Прадслава. Такім чынам, зьвязываць паход Уладзімера на Полацак, як сябра робіць, зь яго паходам на яцьвягаў у 983 г. няма сур'ёзных падставаў. Паводля А.Шахматава паход Уладзімера на Полацак адбыўся ў 970 г. Вазьміце на развагу вялікую разьбежнасьць у часе. Згодны, што паход Яраслава на яцьвягаў у 1038 г. напэўна-ж быў паходам у Панямоньне, бо за ім адбыўся паход на літву. Магчыма, што спаленыя паселішчы адносяцца не да канца X ст., а да першай паловы XI ст. Дзіўна тое, што гісторык Беляеў ня ведаючы пра канчатак «да» як яцьвяжскі, але вельмі дакладна акрэсьліў тэрыторыю пражываньня гэтага племяні. Шкада толькі, што ён не ўказаў, чым кіраваўся ў сваіх досьледах. Наогул В.Сядоў пацьвердзіў сваімі артыкуламі тое, што ўжо было даўно вядомым у гістарычнай навуцы пра яцьвяжскую тэрыторыю. Гэтае пытаньне пасьля палякі заблыталі, абмежаваўшы яцьвягаў толькі Сурвілкіяй. Сядову прыйшлося адчыняць даўно адчыненую Амэрыку. Пэўна-ж, што Барыс полацкі мог рабіць паход на яцьвягаў у 1102 г. (калі верыць Тацішчаву) і не далей як у Панямоньне. Некаторыя дасьледчыкі лічаць, што ў паходзе Яраслава на яцьвягаў у 1038 г. прымае удзел Брачыслаў. Усё можа быць. Вядома, дадзеныя археолёгіі трэба ўлічваць, але абапірацца толькі на іх нельга. Мне здаецца, што гэта навука знаходзіцца яшчэ ў стадыі стаўленьня. Ня раю за-

надта на яе спакладацца, у ёй ёсьць шмат супярэчлівага і суб'ектыўнага, вазьміце тыя-ж даўгія курганы. Яны лічыліся (сёньня яшчэ лічацца некаторымі дасьледчыкамі) галоўнай крывіцкай прыналежнасьцю. Аднак зараз у гэтым выявіліся сумненьні. Іх няма там, дзе былі крывічы, прыкладам у Панямоньні. Праўда, Г.Гурэвіч сьцвярджала, што яны ёсьць і там. Паказвала іх месцазнаходжаньне і села... ў галошу. Сядоў праверыў іх і з размовы зь мясцовымі жыхарамі даведаўся, што гэта ніякія не курганы, а ўтварэньні нядаўняга часу, пэрыяду першай і другой сусьветных войнаў. Я не згаджаюся з архэолягамі, калі яны адмаўляюць пісьмовыя паведамленьні, што дрыгавічы расьсяляліся аж да Дзьвіны, і абмяжоўваюць іх паўночнай лініяй Заслаўе— Менск — Барысаў— Ворша. Я лічу болей правільнымі летапісныя зьвесткі, якія пацьвярджаюцца этнаграфіяй, фальклёрам і дыялекталёгіяй. Я дзялю гісторыю на 3 пэрыяды: полацкі, літоўскі і беларускі. Кожны зь іх увабраў у сябе дасягненьні нашай гісторыі. Яны, уступаючы ў новы пэрыяд, мянялі сваю назву. Калі гаварыць канкрэтна пра паходжаньне Міндоўга, то, як вядома Васпану, ён не аўкштоцкага, нарманскага і не жамойцкага паходжаньня, а літоўскага, г. зн. заходнебеларускага, паводле сёняшняй тэрміналёгіі. Тое, што назва Літва замацавалася за сёляшняй «Літвой», факт нярэдкі ў гісторыі. Назоў «Прусія» перайшоў, ўрэшце, на нямецкую дзяржаву. Адсюль нельга атаясамліваць старажытных літвінаў з сучаснымі літоўцамі. Гэта думка павінна настойліва паўтарацца і пацьвярджацца фактамі. З атаясамлеваньня сучаснае Літвы з старажытнай пачалося заблытваньне гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якое было тыповай дзяржавай. У наступным годзе споўніцца 400 год з часу надрукаваньня «Хронікі» М. Стрыйкоўскага, твора, у якім наша гісторыя была нечувана сфальсыфікаваная. «Хроніка» гэта адразу разыйшлася па Эўропе, яе домыслы ўвайшлі як бяспрэчныя факты ва ўсе эўрапейскія падручнікі па гісторыі і зараз прадаўжаюць паўтарацца. Вядома, разьбіваць такую шматвялікую хлусьню нялёгка, але трэба. Нам ужо ўдалося ў нейкай меры зрушыць гэтае пытаньне зь месца і трэба ў гэтым ісьці далей настойліва. Добра было-б, каб усе гэтыя новыя думкі знаходзілі месца ня толькі ў беларускай прэсе, але ў навуковых выданьнях ангельскай мовы. Але ў той час, калі мы вядзем упартую барацьбу з стрыйкоўшчынай, на нас насоўваецца пагроза зь іншага боку. Выпадкова мне трапіў у рукі зборнік (рукапісны), які рыхтуецца да друку. У ім чорным па беламу напісана, што Полацкая зямля была неад'емнай часткай старажытнай Русі і кідае папрок да рэвалюцыйнай гісторыяграфіі, што яна адносіны Полацку з паўднёварасейскімі землямі разглядала ў сувязі бесперапынных княскіх міжусобіц. Баюся, што ў нашай гістарычнай навуцы будзе зроблены сапраўдны пераварот. Па ўсяму відаць, што гэта толькі частка наступаючай апэрацыі, бо адзін драматург ужо піша сцэнарый, дзе паказана, што ніякага гвалту над Рагнедай не было, што яна па сваёй ахвоце выйшла за Уладзімера. Дабаўлю, што Я.Звяруга вызьверыўся супроць маіх тэзісаў, што старажытная Літва была ў Беларускім Панямоньні і гэтак-жа аднёсься П.Лысенка. Баюся, што мой голас будзе «гласом вопиющего в пустыни».



23 сьнежня 1981 г.

«Не разумею, чаму спынілася перапіска. Я высылаў два доўгія лісты і фатаграфію. Будзе вельмі шкада, калі іх не атрымаеце. Я губляюся ў здагадках, ці мае лісты не зайшлі, ці я адказаў Васпана не атрымаў, хтосьці затрымаў. Будзе вельмі шкада, калі мае лісты загубіся. Я, на жаль, копій сваіх лістоў не пакідаю, таму зьмест не магу ўзнавіць...

У нас вельмі шырока быў арганізаваны юбілей М.Багдановіча. Летам было сьвята паэзіі ў Менску, прысьвечанае яму. У сьнежні было адкрыцьцё помніка і літаратурныя вечары. Я ў «Помніках» зьмясьціў артыкул, у якім паказаў М.Багдановіча як гісторыка. Ад сяброў меў кампліментьі, хаця тут заслуга мая малая. Шкада, што мне змагу паслаць гэты надрукаваны артыкул, бо «Помнікі» забараняюць высылаць. Але я ўсё-ж спрабую паслаць.



9 красавіка 1982 г.

«Атрымаў Вашыя лісты ад 9 і 10 сакавіка... Мне больш спадабаўся другі ліст, бо ён зьядлівы, а я люблю, калі мяне сякуць. Праўда, гэта не значыць, што я павінен згадзіцца з сваім апанэнтам, найперш, для мяне ёсьць каштоўным тое, што прымусіў мяне ізноў вярнуцца да прагляду спрэчкі і больш старанна перачытаць свае вывады. Сьведчаньні, што паход Уладзімера на Полацак адбыўся не ў 980 г., знойдзеныя мною даўно і былі выкарыстаныя ў артыкуле «Першыя старонкі», надрукаваным у часопісе «Помнікі» за 1979 г., але ён да сябры, на жаль, не дайшоў.

Сябра абураецца, што мой галоўны клопат, каб даказаць пакрывенства Яраслава з полацкай дынастыяй, ды што тут крамольнага? У палітыцы пакрывенства заўсёды адступае на задні плян. Тое, што сын Ізяслаў сеў у Полацку, апошняму не пашкодзіла жыць сваім незалежным жыцьцём. Той-жа Яраслаў, будучы князем у Ноўгарадзе, не захацеў плаціць дань Кіеву, што выклікала гнеў яго бацькі Ўладзімера, і толькі сьмерць апошняга выратавала ад жорсткай расправы. І што-ж, той-жа Яраслаў, пасьля перамогі над братам Сьвятаполкам, стаўшы кіеўскім князем, на доўгія гады засадзіў у склеп свайго брата Судзіслава за сэпаратысцкія намэры. Бачыце, якія метамарфозы адбыліся зь Яраславам і яны зразумелыя, бо ў першым выпадку ім рухалі інтарэсы Ноўгарада, у другім —Кіева. У такіх абставінах няма месца сваяцкім пачуцьцям. Мала сказаць, што ў Уладзімера магла быць яшчэ адна жонка на імя Рагнедзь, бо трэба гэта даказаць. Калі сябра можа гэта зрабіць, то будзе важнае навуковае адкрцьцё. Вы павінны ведаць, што ў Цьвярскім і Густынскім летапісу пад 988 г. апісываюцца пасольствы Уладзімера да Рагнеды, дзе сказана, што ў яе на руках тады быў не Ізяслаў, а Яраслаў, які па хваробе ня мог хадзіць і раптам змог гэта зрабіць, калі маці сказала, што яна хоча стаць нявестай Хрыста. Вядома, гэта легенда, аднак ў ёй Яраслаў разумеецца як сын Рагнеды. Я яшчэ раз паўтараю, гэта не мае ніякага значэньня, што Яраслаў, будучы сынам Рагнеды, зьяўляецца «ідэялягічнай дывэрсыяй». Повесть вр. лет, як і іншыя крыніцы пад 981 г., паказываюць паход Уладзімера на ляхаў, у выніку чаго былі захопленыя гарады Перамышль і Чэрвень. Я. Длугаш браў толькі паасобныя факты з расейскіх летапісаў, і таму ён мог гэтую падзею апусьціць. Уладзімер у 983 г. хадзіў на пабужскіх яцьвягаў, толькі гэта маё меркаваньне, яно такое-ж, як і

меркаваньне сябры, што паход Уладзімера быў накіраваны на панёманскіх яьцвягаў. Пэўных доказаў як аднаму паходу, так і другому няма. І тое, што Ваўкавыск ў 980-990 гг быў спалены ня доказ, бо вельмі вялікая разьбежнасьць —цэлае дзесяцігодзьдзе. Наогул, архэолягічныя дадзеныя рызыкоўныя і карыстацца трэба асьцярожна. Зьдзівіла Вас, што Наваградак заснаваны Яраславам у 1044 г. Я роўна 10 год як аб гэтым пісаў у артыкуле «Из истории Новогрудка», зьмешчаным у зб. «Беларускія старажытнасьці», які ёсьць у сябры. Раю яшчэ раз перачытаць. Апроч прыведзеных там зьвстак з летапісаў Сафійскай 1, Наўгародзкай ІУ, пра гэта гаворыцца ў Саафійскім Врэменьніку, Ніканаўскім зводзе. Чаму сябра нэрвуецца, што Яраслаў збудаваў Наваградак, які стаў апорай Кіева над Літвой? Што-ж тут за крамола? Яраслаў у 1030 г. хадзіў на Чудзь і затым збудаваў Юр'еў (Тарту). Дык ці-ж гэта не эстонскі горад? Вы спасылаецеся на Ф.Гурэвіч, што заснаваньне Наваградка адбылося ў канцы Х-пачатку XI ст. Я лічу, што памылка, Гурэвіч тэндэнцыйна замаўчала прыведзеныя мною дадзеныя летапісаў аб заснаваньні Наваградка, бо яны праліваюць сьвятло на сапраўднае месцазнаходжаньне старажытнае Літвы, якую яна атаясамлівае з сучаснай Літвой. Ужо ў пачатку XII ст., калі ствралася ПВЛ, Літва названая паміж іншых плямёнаў, якія давалі дань Русі. Менавіта паходамі Яраслава на Літву ў 1040 і 1044 гг. прыпадае заснаваньне Наваградка і пачатак падпарадкаваньня яго Кіеву. Гісторыя Панямоньня вельмі складаная. Гэтая зямля доўга і цяжка крочыла да таго, як стала суб'ектам гісторыі. Доўга яна цярпела спачатку кіеўскую, а пасьля галіцка-валынскую ўладу (яшчэ пад 1235 г гаворыцца: *«Данил возведе Литву Миндвга и Изяслава Новгородского на Кондрата Мазовецкого»*). Аднак вызвалíўшыйся, Наваградак адразу паказаў свае патэнцыяльныя сілы, якія ў ім захоўваліся, і адыграў найвялікшую ролю ў нашай гісторыі. Заўвага, што ніхто іншы, як я давёў, што летапісная Літва — не сучасная Літва. Сябра мяне папракае, што я раблю «Мендаўга летувісам». Згодзен, што Мендаўга—славянскае імя, але сдавянскае імя меў Транята —жамойцкі князь, забойца Міндоўга. Славянскае імя ў Жывібунта — старэйшага літоўскага князя, які ўпамінаецца ва ўмове 1219 г. Але імя ня доказ этнічнай прыналежнасьці. Этнічнае паходжаньне, як і сваяцкія адносіны, ня мелі істотнага значэньня. Міндоўг мог быць славянскага паходжаньня, але мог быць князем у Літве, а пасьля ў Наваградку. Даўмонт быў літоўскага паходжаньня, а верна служыў Пскову і аб'яўлены сьвятым. Я павінен сказаць, што этнічная прыналежнасьць Літвы — спрэчнае пытаньне. У мяне ёсьць некаторыя інфармацыі ў карысьць яе славянства, але яны яшчэ не дастаткова пераканаўчыя. Паколькі наша гісторыя вельмі сфальсыфікаваная, таму патрэбная праўдзівая гісторыя, якую павінны пісаць. Я стараюся яе пісаць, але ахапіць усе факты цяжка. Ворагі мае вельмі пільна сочаць за тым, дзе я магу штосьці замаўчаць, яны тады сякуць, нічога не даруюць. Яны пакуль абмяжоўваюцца толькі вуснымі пагрозамі. Паклонаў я нікому не біў і не зьбіраюся біць ім цяпер.

(Працяг у наступным нумары)






Я ўвесь час спрабую ўспомніць, калі і дзе ў апошні раз бачыў Галубка. А ні ў час арышта, ні ў Гомелі пры вобыску ў яго аднапакаёвай кватэры нікога з нас не было. Адсюль цяжка назваць дзень і месяц яго арышта. Мабыць, усё-такі бачыліся мы ў час яго апошняга прыезду ў Менск, калі разам хадзілі ў БДТ-1 за шынялём для маёй карціны (Арджанікідзе). У той вечар ішоў «Скупы» Мальера. Галоўную ролю Гарпагена выконваў Глебаў. Мы сядзелі ў дырэктарскай ложы і ўвесь час Галубок дзівіўся майстэрству Глебава, зь якім той вёў сваю ролю. Ціха, амаль шэптам ён мне казаў: «Бачыш, акцёр толькі выйшаў на сцэну, а гледачы ўжо рагочуць. Вось гэта майстэрства. Яшчэ ніводнага слова, толькі выхад, два крокі, а колькі ў гэтым сэнсу, колькі хараства! Вялікім талентам валодае гэты артыст. Мабыць, у Беларусі другога такога цяжка знайсьці». Так казаў Галубок, які і сам быў добрым майстрам выканаўцам камэдыйных роляў. Аб таленце іншых ён заўсёды судзіў грунтоўна, з павагай. Ніколі ў яго не было зайздрасьці, толькі шчырае захапленьне. Але вернемся да 1939 году, часу, калі Галубок быў ужо арыштаваны.[1]

Зь вялікай цяжкасьцю мне з жонкай удалося знайсьці кватэру. Дапамог мастак Валянтын Камінскі. Алена Круталевіч,маці вядомага прафэсара Аляксандра Круталевіча, арыштаванага ў 1936 г, пасьля доўгіх меркаваньняў дазволіла нам зьняць адзін маленькі пакойчык у хаце, па Нізкаму завулку на Камароўцы. Яе сын, складальнік падручнікаў па матэматыцы, выкладчык ў Дзяржаўным Беларускім унівэрсытэце, — быў палітычны шкоднік —прафэсар, які быццам-бы ў падручніку па матэматыцы прыводзіў у прыкладах колькасць лапцёў у калгасе і ботаў у аднаасобнікаў. Вядома, гэта была хлусьня, якой, аднак, хапіла, каб загнаць за краты інтэлігента-беларуса.

Алена Круталевіч увесь час успамінала свайго сына. Аднойчы яна спытала маю жонку:

—А каго вы, мілая, зараз малюеце?

—Партрэт народнага камісара Унутраных справаў Яжова.

—А, дык гэта ён майго Сашаньку забіў ды вашага бацьку таксама!

Што магла адказаць жонка на тое слушнае запытаньне? Толькі тое, што іншай працы ёй не даюць у нашых мастацкіх майстэрнях, і ты мусіш маляваць, каго скажуць, інакш...

У адзін з тых дзён зайшоў да нас

1. Працяг. Пачатак у № 5

энкэвэдэшнік высокага рангу (на пятліцах меў дзьве шпалы). Не вітаючыся, прайшоў туды, дзе я працаваў. Неяк з грэблівасьцю паглядзеў спачатку на мяне, потым на карціны і рэзка, у выглядзе загаду, запытаў: «Где ключи, где техпаспорт?!» Гэто было рабаўніцтва сярод белага дня. Машына М-1, падараваная Беларускім урадам у дзень 15-годзьдзя Галубкоўскага тэатра Ул. Галубку на асабістае карыстаньне, хаця і лічылася ўласнасьцю, не выкарыстоўвалася яе гаспадаром. Галубок быў увесь час у Гомелі, а машына знаходзілася ў гаражы Саўнаркама. Уласных гаражоў у той час ніхто ня меў. Нават Галадзед ставіў машыну ў гаражы СНК — хаця сам яе вадзіў. (Машына Янкі Купалы знаходзілася там-жа).

Пад такім ціскам і чаканьнем нечага больш жахлівага жыла ўся сям'я Галубка. Эдуард пісаў Сталіну, пісаў Калініну, але ад іх не было ні дыху, ні слыху. Сумна і непрытульна было і таму, што некаторыя казалі: «Если арестовали, так было за что». Звычайна, пры сустрэчы такія пераходзілі на другі бок вуліцы. То быў вельмі складаны час. Шмат падзей адбывалася тады.

...Восеньню 1939 мы ехалі ў Беласток, на вялікі Народны сход, які мусіў зацьвердзіць зварот народу Заходніх беларускіх зямель да ўрада БССР, каб увайсьці ў склад Савецкай Беларусі.

Мы ехалі ў Беласток ў вялікім саставе таварных вагонаў, у якіх везьлі кароў ды іншую хатнюю жывёлу. Нас, двух мастакоў, як спазьніўшыхся, далучылі да артыстаў БДТ-1, якія таксама ехалі на сход. Цягнік рабіў шмат прыпынкаў. У Баранавічах мы наведалі кірмаш. Там убачылі вялікую колькасьць прадуктаў сялянскага вырабу. Усё падавалася ў чысьціні, сяляне ў чыстым адзеньні, хутчэй за ўсё ў нацыянальных строях. Усюль чулася беларуская мова.

Беласток зьдзівіў сваёй велічынёй і колькасьцю жыхароў. Усюды чэргі. Людзі ў нейкім незвычайным дзеля нашага вока адзеньні. Гэта былі ўцекачы з Варшавы. Больш за ўсё яўрэйскай нацыянальнасьці. Тлумачылася гэта тым, што ўцекачы кідалі ўсё, што было ў іх абы хутчэй пазьбегнуць фашысцкай няволі і гета, якое магло стаць апошнім іх прытулкам. У горадзе былі зачыненыя крамы, але гандаль ішоў поўным ходам праз кватэры ўласьнікаў, якія ня мелі адбою ад пакупнікоў, так званых таварышаў з Усходу, як яны нас называлі. Таварышы куплялі ўсё што было, нават дзьвёркі для комінаў, не кажучы пра кожанкі, капелюшы, гаржэткі, парасоны ды іншыя каштоўныя рэчы. Грошы бралі больш савецкія, а ня злотыя, на якія ўжо не спакладаліся. Над горадам кружылі зьнішчальнікі, па вуліцах можна было ўбачыць, як калёна вайсковых палякаў ідзе строем. Наперадзе ехала палутарка з кулямётам, накіраваным на калёну палонных. Увечары, у новым тэатры, ладзіліся сіламі артыстаў з Масквы і Ленінграда канцэрты. У тэатры шла падрыхтоўка да Народнага Сходу.

Мне і майму сябру тэрмінова даручылі напісаць вялікага памеру партрэт з двайным профілям Леніна-Сталіна. Трэба гэта было зрабіць так, каб на першым пляне быў профіль таварыша Сталіна, а потым Леніна. У такім разьмяшчэньні бачыўся вялікі зьмест: «Сталін — гэта Ленін сёньня». Як толькі мы скончылі працаваць і далі апошнія парады накот экспазыцыі, нечакана зьявіўся энкавэдэшнік, і вывеў нас абодух прэч з тэатра, дзе ўжо пачалі зьбірацца дэлегаты. Было агідна. Мы-ж ехалі сюды, каб убачыць вачыма мастака ўсё, што тут будзе

адбываецца, каб занатаваць гэтую падзею ў жыцьці беларускага народу на хальсьце.

А праз месяц пасьля сходу, мы атрымалі заказ напісаць вялікае пано на тэму «Зьяднаньне Заходняй Беларусі з БССР». Прыйшлося карыстацца фотаматэрыяламі і з слоў сьведак рабіць тое, што маглі пабачыць самі. Пад вялікім уражаньнем убачанага ў Беластоку, мы вырашылі напісаць яшчэ адну карціну «Беласток савецкі». Хацелася адлюстраваць, як сустракалі жыхары Беластока Чырвоную армію.

...На тым палатне казакі едуць на конях па галоўнай вуліцы горада. Людзі вітаюць іх, дзеці з кветкамі, ўсюду ўсьмешкі і весялосьць на тварах. З правага боку, на балконе, дыван з партрэтам таварыша Сталіна.

*Зусім нядаўна я пераглядаў альбомы па мастацтву Беларусі і ў альбоме выдавецтва «Советский художник» 1950 г. убачыў на рэпрадукцыі нашую карціну, але з другой назвай «Освобождение Западной Белоруссии». Карціна была зь «кіпюрамі». На балконе не было таго дывану і партрэта Сталіна. Уся гэтая рэтушоўка стане зразумелай, калі ўспомніць, што пасьля вайны Беласток захаваўся за Польшчай...*

*Складальнікі альбома Аладава, Васілеўская і Туроўнікаў ў тэксце (ён на расейскай мове), каб паказаць вернасьць беларускіх мастакоў партыі і Сталіну, зьмясьцілі ня толькі творы, прысьвечаныя яму, але і пяць радкоў, верша Янкі Купалы «Я Сталіну мудрому песню слагаю...»*

*Гэты верш зьявіўся ўжо пасьля спробы Купалы пакончыць жыцьцё самагубствам. Тады па Менску хадзіла чутка, што Купалу нехта параніў з ворагаў. Але другая, больш верагодная версія, была тая, што ён сам хацеў сябе пазбавіць жыцьця. Памятаю, як маці варнулася з бальніцы і зь перасьцярагай, каб мы з братам нікому нічога не пераказалі, сказала, што Купала спрабаваў пазбавіць сябе жыцьця і моцна параніўся. Маці працавала хірургічнай сястрой у бальніцы, што па Ленінскай вуліцы. Ёй загадалі сядзець ля Купалы перад і пасьля апэрацыі (Яна была кандыдатам у члены партыі), а па-за шырмай сядзеў чэкіст. Аб тым, што прымусіла Купалу расквітацца з жыцьцём, ведалі ў суседняй Польшчы, але не ў Беларусі. Хаця Купала выжыў, але ён памёр як паэт. Вымушаны пісаць фальшывыя хваласьпевы, ён назаўсёды пахаваў сваю музу. Вайна-ж схавала тайну яго сьмерці. Але яна прыадчыніла іншыя.*

У першыя дні вайны партыйныя ўцекачы кінулі будынак ЦК КПБ з ўсімі партыйнымі дакумэнтамі. Будынкі ЦК КПБ, Дома ўраду таксама стаялі цалёханькія з сваімі паперамі, ніхто ня меў часу, каб спаліць іх, як гэта зрабіла Менская гарадзкая ўправа. Больш того, будынак НКУС, на чале якога быў тады Цанава, таксама застаўся стаяць пакінуты ўсімі, набіты тымі сакрэтамі, што ў першыя дні безуладнага часу хацелі знайсьці тыя, хто шукаў сьляды сваіх бацькоў ці сваякоў. Так, аднойчы нам прынесьлі шкляны негатыў, дзе Уладзіслаў Галубок засьняты ў профіль і ў анфас зь нейкімі лічбамі на плячах. Мая жонка пазнала свайго бацьку, — хай сабе і схудалага, аброслага барадою. Але яна ўтрымалася паказваць негатыў маці, не хацела, каб хворая яшчэ раз хвалявалася.

У той час у акупіраваным Менску апынуліся жонка Галубка Ядзьвіга, старэйшая дачка—Багуслава, сярэдняя—Вільгельміна, малодшая — Эмілія й іх дзеці: Слава—дачка Багуславы, Гена-сын Вільгельміны, Сярожа і Ларыса—дзеці Эміліі. Тры сына Галубка —Эдуард, Леапольд і Сыгізмунд загінулі на франтах Айчыннай вайны. У Леапольда засталася дачка Іза з жонкаю Марыяй. У Эдуарда, а таксама ў малодшага сына сям'ей яшчэ не было.

У першыя дні вайны ў ЦК была склікана група пісьменьнікаў і мастакоў, каб кожны з нас сваімі сродкамі: мастакі - плякатамі, пісьменьнікі - лістоўкамі — супакойвалі насельніцтва, каб не было панікі. Нашае пасяджэньне адбывалася на верхнім паверсе ЦК, з вокнаў якога было бачна, як на даху суседняга новага будынку ЦК ішла тэрміновая ўстаноўка зэнітных кулямётаў. Чулася нарастаньне выбухаў нямецкай авіяцыі. Выбухі і спынілі тую гаворку — трэба было ўцякаць па дамах. Мы з скульптарам Бембелям мусілі бегчы праз парк на Камароўку, да хаты. Потым з мастаком Давідовічам дарэмна саваліся, то ў адзін, то ў другі ваенкамат. Нідзе нікога не было — усюды беглі людзі, каб трапіць хутчэй за горад ці да сваіх, каб разам нешта рабіць. Сказаць, што гэта была эвакуацыя, нельга, як нельга казаць, што людзі заставаліся ў горадзе па сваёй волі. Менавіта гэта потым і стала ярлыком на ўсё жыцьцё, бо нават пашпарт меў нейкую закавыку, па якой міліцыянер мог ведаць, хто перад ім стаіць.

Я знарок не пішу, як нас падхапіла машына, якая магла браць толькі афіцэрскія сем'і, як мяне схавалі пад целагрэйкамі, але давезьлі толькі за Ўручча, бо машыну пад пагрозай зброі спынілі... Гэтак было з усімі. Паніку рабілі дэсантнікі, што былі скінутыя на парашутах у адзеньні нашай міліцыі. Нямецкі дэсант захапіў Смаленскую чыгунку, так што з Калодзішчаў ні адзін эшалон з уцекачамі ня мог крануцца ўперад.

Потым пацягнуліся калёны стомленых, зьнясіленых палоных, амаль без ахо вы. Немцы сталі панаваць у Менску. Адра зу зьявіліся вартавыя на ахове складаў, патрулі . Немцы шлі на Маскву.

...Праз Менск па Савецкай вуліцы няспынна грахоча нямецкая збройная тэхніка. Чаго толькі ў ёй няма, усё на дзіва прыладжана, усё на прыцэпах. У адкрытых машынах сядзяць з закасанымі рукавамі немцы, яны нешта пяюць ці граюць на губных гармошках, як на пара дзе, весела рагочуць. Ім радасна, яны вераць, што праз тыдзень яны будуць у Маскве.

«Давайце, Жэня, пройдзем на Савецкую вуліцу, паглядзім што там і як», — кажа мне Багуслава Галубок. Мы ідзем, хаця лепш-бы нам сядзець дома.

На вуліцы мяне схапілі, сунулі ў натоўп мужыкоў майго ўзросту, а потым пачалі прапускаць кожнага пад кантроль, выварочваць кішэні. Адбіралі сьцізорыкі і ўсё, што нагадвала халодную зброю. Частку людзей атагналі ўбок і ўвялі пад канвоем за бугор. Адтуль пачуліся стрэлы.

Як потым стала вядома, гэты кантроль рабілі войскі СС. Пасьля яго нас пагналі ў раён Весялоўкі, на ўскраіну Менска, на былыя старыя могілкі, за высокі плот. Збоку, дзе не было плоту, паставілі ручныя кулямёты. Нам забаранялася ўставаць ва ўвесь рост. Можна было толькі ляжаць ці стаяць на каленях. Ежу дазволілі прыносіць толькі на 4 дзень, але таксама пад вялікім кантролям. Сярод нас, менчукоў, было шмат пераапранутых іншагародніх, якім ніхто нічога не прыносіў з харчоў. Пачаліся выпадкі, калі людзі не прасыналіся пасьля халоднае ночы. Паміраў менавіта той, хто ня меў ніякіх прадуктаў.

Праз тыдзень з гэтага лягера пачалі адбіраць па 15 чалавек на выхад, да хаты, але толькі менчукоў. Вядома, што з намі выйшлі жыхары й іншых гарадоў, але меўшыя спэцыяльнасьці электрыкаў, водаправодчыкаў, бляхараў, якія былі патрэбныя ў першую чаргу немцам для горада, што ляжаў у руінах. Нямецкія

будаўнічыя ці саперныя часьці аднаўлялі ўсё, што было патрэбна для тылу перад зімою. Яны працягнулі да Дома ўраду рэйкі, каб падводзіць каменны вугаль, па заходняму масту пралажылі трэцюю каляіну, пры вакзале адчынілі вайсковы лазарэт і г.д. Левая частка Дома ўраду адыйшла пад чыгуначнае кіраўніцтва для ўсяго Ўсходу. Кіраўніцтва вялікае, шмат аддзелаў зь вялікім штатам спэцыялістаў у чорнай уніформе, якая нагадвала гестапаўскую. Менавіта яны назвалі Дом Ураду Ленінгаўз. Але пасьля таго, як прыгналі яўрэяў да помніка Леніну і тыя канатамі сьцягнулі яго ўніз, заставіўшы толькі пьедыстал з бронзавым гарэльефам, Дом пачалі называць проста Гохгаўз (Высокі дом).

Не адразу, а праз нейкі час было праведзена перасяленьне яўрэйскага насельніцтва ў гета, бліжэйшая мяжа якога праходзіла па вул. Нямізе. У часы пагромаў людзі хаваліся ў вялікай бетоннай трубе, па якой цякла як мелкі ручэй былая Няміга. Так, рака стала сьведкаю тых драматычных падзей. Часта можна было бачыць, як паміж руінаў вядуць яўрэяў на працу ці на рыцьцё акопаў. Гэта было цяжкае відовішча. На цябе глядзелі вочы з трагічным дакорам, быццам-бы ты вінаваты ў іх сьмяротным прысудзе і ад цябе залежыць іх ратаваньне.

Праз гарадзкую Ўправу і яго аддзел мастацтва зноў пачалі складаць гарадзкі тэатр з артыстаў радыё, тэатра Юнага гледача ды зь іншых, хто не пасьпеў уцякчы з Менска. Вядома, патрабаваўся новы рэпертуар. Ставілі абы што, перараблялі нанава старыя п'есы. Іншы раз ставілі п'есы Ф.Аляхновіча й адну зь яго апошніх п'есаў «Круці не вярці — трэба памерці». Сам драматург наездамі бываў у Менску. Таму нядзіўна, што рэпертуар тэатра меў антысавецкую накіраванасьць. Тэатр ставіў таксама і канцэрты, але ўсё гэта было не надта прафэсыйна, бо кадры засталіся слабыя і выпадковыя. Запомніўся толькі Уладамірскі—сын славутага артыста У.Уладамірскага. Гэта, відаць, быў пачатак тэатральнай дзейнасьці маладога артыста.

Усе мастакі, хто апынуўся ў эвакуацыі, мусілі стаць на ўлік Ўправы. Кожны, хто меў даведку-аўсвай, мусіў адзін раз на тыдзень зьяўляцца ў аддзел мастацтва для засьведчаньня, што ён жывы і сядзіць дома. Галоўным там быў Панін, яго намесьнікам — Ільінскі, родны брат вядомага артыста А.Ільінскага. Аднойчы, ідучы ва Ўправу, я сустрэўся па дарозе з мастаком Дучыцам. Ён быў пэйзажыстам і старэйшым за мяне. Памятаю, як усхвалявана ён сказаў мне: «Будзіце мяне ратаваць: я даў згоду працаваць у аддзеле мастацтваў ва Ўправе» Неўзабаве Дучыц прыйшоў да мяне ў хату, што на Нізкім завулку і пачаў угаварваць даць на выстаўку ня меней чым тры творы выяўленчага мастацтва. Так загадалі «шэфы» ўсім мастакам, што стаялі ў іх на ўліку. Я даў партрэт жонкі, адзін краявід і нацюрморт. Тут-жа мастак Антон Каржанеўскі просіць мяне глянуць на тое, што ён прынёс Дучыцу. «Многа, вельмі многа,— кажу.— Знайшоў час, калі выстаўляцца». Той-жа ў адказ: «Вы на дэкадзе літаратуры і мастацтва ў Маскве прымалі ўдзел у выстаўцы, а я ў той час служыў у войску і толькі зараз ёсьць магчымасьці заявіць аб сабе».

Карацей кажучы, не паслухаў ён парадаў, выставіў болей чым за 40 малюнкаў вуглём, алоўкам, свае акварэлі. Былі там краявіды, могілкі, Белая вежа, рэчкі да вазёры. Ніякіх тэматычных карцін не было. Калі зноў сустрэліся ля нямецкага кінатэатра, ён мне кажа: «Ня ведаю Жэня, ці радавацца мне, ці плакаць». «А

што здарылася?» —пытаюся яго. «Немцы ўзнагародзілі мяне медалём для Ўсходу за актыўны ўдзел у мастацкай выстаўцы. Ведаеш, гэтай самай, што ўзнагароджваюць власаўцаў, паліцаяў ды бургамістраў.» «Плакаць, — кажу, — трэба. Што ты скажаш нашым?». (*Гэтак яно потым і выйшла —выслалі яго на 10 гадоў, а потым забаранілі жыць у сталіцы. Жонка яго была партыйная, працавала ў канцэлярыі Вярхоўнага Савета БССР. Перад ёй паставілі ўмову — развод з мужам — застанешся ў партыі, калі не — сключэньне і звальненьне з працы. Жанчына засталася з сям'ёй і паехала у Віцебск. Знайшліся людзі, а сярод іх быў і мастак Яўген Нікалаеў зь Віцебску, які ўсё сваё жыццё не даваў ходу Каржанеўскаму ў мастацтве, нават яго юбілейныя выстаўкі не дазваляў рабіць, хаця Антон і заставаўся членам саюза мастакоў СССР. Нікалаеў быў членам Віцебскага гаркама партыі і гэтая акалічнасьць вельмі спрыяла яму ў мастацкай кар'еры. Ён за кароткі час атрымаў ганаровае званьне заслужанага дзея ча мастацтва БССР, потым і народнага мастака БССР.*)

Пасьля заканчэньня выстаўкі немцы ведалі, хто з нас чаго варты. Я на яе вернісаж не пайшоў, але тыя мастакі, якія былі на выстаўцы, расказвалі мне, што немцы куплялі пэйзажы і цікавіліся адрасамі мастакоў, якіх пры гэтым не было. Выстаўка экспанавалася ў некалькіх пакойчыках тэатра оперы і балета.

*...Памятаю, як па традыцыі ў пачатку новага сэзону ў файе тэатра Галубка вось так-жа выстаўляліся творы жывапісу, зробленыя за час адпачынку Ул. Галубком. Значэньне тых выставак перааценіць цяжка. Яшчэ і зараз сустракаю людзей, якія кажуць, што першы твор жывапісу ўбачылі менавіта ў тэатры Галубка. Увесь вольны ад працы час Галубок пісаў краявіды. Жывапісам ён займаўся так грунтоўна, што для каго іншага такая праца магла стаць асноўным заняткам, прафэсыяй.*

*Галубок меў сваю тэму. Ён, напрыклад, ня раз казаў мне, што прыроду трэба назіраць штодзённа, але браць ад яе толькі тое, што здараецца нячаста і непрацяглы час, а толькі нейкае імгненьне, як скажам, непаўторнае неба перад навальніцай, лірычны веснавы разьліў рэк, ці крыгаход, буйны вецер, буралом, туманы Палесься. Трэба, казаў ён, упарта шукаць не ў майстэрні, а ў жыцьці. У самой прыродзе шукаць таго адзінства працілегласцяў, без чаго ня можа быць ніводнага мастацкага твора. Ягоныя словы зыходзілі з творчай практыкі мастака і былі падмацаваныя тымі палотнамі, што насілі назвы «Разьліў», «Раніца», «Буралом», «Туманы», «На рацэ Бярозе», «Верасы», «Плытагоны», «Першы сьнег», «Ад ліга», «Сакавік», «Пахмурны дзень» і г.д. Цікава, што як пейзажыст ён не паўтараў знаёмыя матывы, а кожны раз знаходзіў новыя. Галубок на дзіва ўдала абіраў сюжэт і краявіды, ніколі не затрымліваючы сваю ўвагу на другарадных ці фрагментарных «куточках», заўсёды даючы ландшафтны позірк на шырокія рэкі, палі, вазёры. Эпічнасьць, размах і манумэнтальнасьць добра спалучаліся ў мастака зь лірычнасьцю, цеплынёй і нават пяшчотнасьцю. Усё залежыла ад задумы. Не відаць было ў яго пэйзажах чалавечых постацей, але заўсёды адчувалася прысутнасьць людзей. Нейкі час існавала думка, што Галубок быў мастаком-дылетантам. Але гэтае не так. Бо не дыплём вызначае мастака, а яго працы і тая настойлівая студыя-школа, якую можна атрымаць пры жаданьні і настойлівай працы. Галубок вучыўся ў дарэвалюцыйны час у мастака-прафэсыянла Пракоф'ева, а трохі пазьней пад кіраўніцтвам мастакоў Сухоўскага й Яромінкі. Рука Галубка ўпэўнена прымала пэндзаль і мастэхін. Прыёмы зьмя-*

*шэньня фарбаў, як мазаіка з разьлікам на адлегласьць, майстэрскі «схоплены» эцюдны матэрыял і іншыя прыкметы прафэсыйнасьці таксама гаварылі за сябе. Галубок вучыўся ва ўсіх і ўсюды, дзе толькі мог. Ён езьдзіў часта ў Маскву і Ленінград, дзе вечарамі наведваў тэатры, а ў дзень вучыўся ў музэях, падоўгу прастойваючы каля прац любімых мастакоў—Крыжыцкага, Левітана, Шышкіна.*

Пасьля выстаўкі, арганізаванай Ўправай, ў «Менскай газэце» зьвіўся артыкул, сэнс якога быў наступным: пры Гітлеру-вызваліцелю склаліся магчымасьці развою выяўленчага мастацтва беларусаў, што зараз кожны мастак вольны рабіць, што ён хоча, што ўжо няма бальшавікоў—гэтых злыдняў, што душылі беларускі народ, няма яўряў, якія панавалі на ўсіх кіруючых пасадах і заціскалі беларускую культуру. У газеце надрукавалі прозьвішчы мастакоў-удзельнікаў. Мастак самавука Казлоўскі даў інтэрв'ю, дзе казаў, што ён толькі зараз упершыню выставіў свае творы, бо раней яго заціскалі. На самой справе на прафэсыйных выстаўках такіх гора-мастакоў не было таму, што ўзровень іх твораў быў вельмі нізкі. Зараз іх уцягвалі, каб была колькасьць мастакоў, якія быццам-бы і заставаліся, каб дачакацца Гітлера. Гэта ўсё рабілася для прапаганды, а з другога боку, каб немцы набылі мастацкія творы за маркі, за якія нічога не купіш.

У акупацыйным Менску выходзілі некалькі газэтаў, адна зь іх—«Беларуская газэта». У ёй прымаў удзел Юрка Віцьбіч, які ў вершаванай форме высьмейваў савецкія, а больш партыйныя ўлады, што пакінулі свой народ, як здраднікі, спасаючы свае скуры. У газэце з працягам і ў скарочаным выглядзе друкавалася кніга Аляхновіча «У капцюрах ГПУ». Сам аўтар кнігі прайшоў праз усе зьдзекі і пакуты ГПУ, адсядзеў на Салаўках. Яго-ныя ўспаміны пакінулі моцнае ўражаньне. Цяжка было паверыць, што гэта усё адбывалася, і што людзі змаглі выжыць пасьля чэкісцкага пекла. Праз некаторы час Аляхновіч быў застрэляны ў Вільне ў сваёй хаце. Казалі, што гэтая акцыя на лежыць беларускім партызанам. Але чым быў так небясьпечны для іх драматург? Спрэчнасьць гэтай драмы ўвачавідкі.

Тэрарыстычныя акцыі сталі звычайным мэтадам барацьбы. Што ні дзень — у розных канцах Менску здараліся выбухі. У сталоўцы гестапа ў комінах былі закладзеныя міны з гадзіньнікавым механізмам, выбух якіх адбыўся зь нямецкай дакладнасьцю: роўна а 14 гадзіне, у час абеду. Моцны выбух прагучаў у будынку гарадзкога тэатра, дзе загінула і была паранена выключна беларуская моладзь. Яе сабралі на вечар, з урачыстай часткаю і канцэртам у канцы імпрэзы, нямецкія шэфы з дражджывога і спірта-гарэлачнага заводаў. У першай, афіцыйнай частцы вечара немцы прысутнічалі і нават сядзелі на сцэне, як гаспадары. У перапынку яны выйшлі з тэатра, а свае білеты раздалі маладым хлапцам, што хацелі трапіць на канцэрт. Няхітрая правакацыя была скарыстана наўмысна, каб нацкаваць на партызанаў тую частку жыхароў, што працавалі на заводах Менска.

Вельмі цяжкае жыцьцё наступіла, калі ў Менску апынулася смаленскае гестапа, бо Смаленск зноў стаў нашым. Побач з смаленскім гестапам, якое складалася часьцей усяго з расейскіх уцекачоў, азвярэлых антысэмітаў, пачалі дзейнічаць атрады карнікаў супроць партызанаў. Гэта былі воінскія згуртаваньні з ліку літоўскіх, фінскіх вайскоўцаў і нават салдатаў іспанскай блакітнай дывізіі. Мне таксама давялося зьведаць, што такое смаленскае гестапа.

(Працяг у наступным нумары)



«Веру, братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон:
На свет божы шырэй глянем,
Век напіша нам закон...»

Цётка

 1876-1916 

Полацак
Кліўленд ЗША часопіс

*Да 115-годзьдзя з часу нараджэньня*

# Алёйза Пашкевічанка — Цётка

Юльяна Дубяйкоўская

Алёйза Пашкевічанка (Цётка) нарадзілася 3-га ліпеня 1876 г. ў вёсцы Пешчына Лідзкага павету. Пазьней аж да 17 году жыла ў вёсцы Стары Двор. У сям'і было 5 дачок і два сыны. Вучылася яна ў расейскай гімназіі Прозаравай у Вільні і пасьля сканчэньня з найлепшымі адзнакамі паехала ў Пецярбург далей вучыцца. Там спаткалася із сваім будучым му жам Кэйрысам, каторы падае наступнае із сваіх успамінаў пра Цётку.

«У Пецярбург Алёйза Пашкевічанка запісалася на вышэйшыя пэдагагічныя курсы прафэсара Лезгафта й адразу трапіла ў самы вір рэвалюцыйнага руху акадэмічнай моладзі. У гэтым асяродзьдзі яна пачулася адразу «як у сябе дома». Уважала за свой абавязак і гонар быць усюды там, дзе так ці гэтак выяўляўся нарастаючы супраць існуючага ла ду настрой. Яна наведвала сходкі, брала ўдзел у дэманстрацыях, рупілася пра арыштаваных сяброў. Чулася Беларускай і гэткаю засталася назаўсёды.»

У тагачасным Пецярбургу Пашкевічанка знайшла сьціплае сваё нацыянальнае асяродзьдзе. На тэхналягічным інсты туце студыяваў тады Вацлаў Іваноўскі, Цётчын сусед з двара Лябёдка, пазьнейшыя гады ейны доўгагодні супрацоўнік. З блізкіх Цёткі прыяцеляў прыпамінаю Сабіну Ячыноўскую, якая пасьля выйшла замуж за Вацлава Іваноўскага.

Нязвычайна жывога характару, няштодзённая, яна вырозьнівалася і ў шматкалёрным асяродзьдзі ды адразу зрабіла на мяне ўражаньне «чалавека з жывой душой». Калі з прычыны студэнцкіх страйкаў школы зачынілі, Цётка вярнулася дамоў. У Вільні ад 1903 году дзеіла Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. У 1906 г. пачынаюць выходзіць у Вільні беларускія тыднёвікі, спачатку «Наша Доля», а пасьля «Наша Ніва». Для Цёткі была гэта ці не найбольш інтэнсыўная пара ейнай палітычна-грамадзкай працы. Поўна было яе ўсюды. Першы раз я яе спаткала зусім неспадзявана на сацыялістычным мітынгу і дзівілася, як яна зьмянілася. Я-ж яе знала як малагаваркую, спакойную жанчыну, а тутака перад аўдыторыяй была аратарка, якая зь вялікай сілай і перакананьнем будзіла ў слухачоў запал і любасьць да прыгнечанага работніцкага люду і беларускага сялянства, за вызваленьне і лепшую долю якога трэба ахвяраваць усе свае сілы і жыцьцё. Слухаючы Алёйзу Пашкевічанку, я разумела, што яна ўзапраўды адчувае тое, да чаго ўсіх заклікае, і дзеля таго, што гэта плыло ў яе ад душы, яна мела вялікі ўплыў на ўсю вялікую аўдыторыю. Працавала яна ў газэце, брала ўдзел у сходах, выступала як прадстаўніца Беларускай сацыялістычнай Грамады на нарадах дэлегатаў рэвалюцыйных партыяў. Як мне здаецца, тады яна пачынала прабаваць свае паэтычныя здольнасьці. Прынамся яе верш «Хрэст на свабоду» быў адным з найпапулярней шых з публічна дэклямаваных вершаў. У васобе Цёткі малады беларускі рух зда-

быў ня толькі адданаю ўсёй душой працаўніцу, але і няўтомную ініцыятарку самога руху.

Жывучы тады ў Вільні, Цётка жыла сярод свае сям'і. Ейныя два браты, абодва ахвіцэры Маладэчынскага пяхотнага палку, нежанатыя, мелі супольнае памешканьне на Сьніпішках. Братоў наведвалі прыездам старэйшая сястра Стэфанія і маладзейшая Каміла. У братоў жыла й Алёйза. Дзейнага падтрыманьня сваёй беларускай нацыянальнай працы ад сяброў свае сям'і яна ня мела. Але й ейны ўдзел у беларускім руху не ўважаўся ў сям'і за нейкае няшчасьце.

У 1905 годзе, калі заламалася рэвалюцыйная дзейнасьць, Цётка выехала ў Кракаў, каб ня быць арыштаванай і пачала студыяваць літаратуру на Кракаўскім унівэрсытэце. Наведвала там таксама драматычную студыю артысткі Сольскай. Ужо значна пазьней, 1913 г., калі яна стала жыла ў Вільні, Пашкевічанка-Кэйрыс пакладала шмат натугаў, каб зарганізаваць і рыхтаваць трупу беларускіх артыстаў-аматараў для гастроляў па меншых мястэчках Віленшчыны.

Алёйза Пашкевічанка, якая кожнай працы аддавалася ўсёй сваёй душой, ня ўмела сьцерагчы свайго здароўя. Яна ня знала супачынку, калі трэба было нешта тэрмінова выканаць. За працаю часта забывалася, што трэба й есьці. Калі была студэнткаю ў Кракаве, не хацела звярачвацца да блізкіх па дапамогу, дык часта галадавала. Як найменш рупілася яна пра свае ўборы—ёй усё ішло. Калі ў 1907 г. Кэйрыс па дарозе завярнуў у Закапанае, у гуральскай хаціне знайшоў хворую на лёгкія Цётку. Нядбайнасьць пра здароўе з часам памсьцілася. Аднак Цётка была як заўсёды жвавая, чуйная на падзеі, і найменш дбайная пра сябе.

Калі яна паправілася зь лёгкімі, перабралася на студыі ў Львоўскі ўнівэрсытэт, на гістарычна-філёлягічны факультэт. Цікавілася моцна гісторыяй, таму для свае дыплёмнае працы яна ўзяла гістарчную тэму: «Паўстаньне Сьвідрыгайлы». Пазьней тэму зьмяніла і пачала зьбіраць матэрыял пра беларускую батлейку. Гэтага матарыялу назьбірала даволі шмат, працы аднак не напісала. На Львоўскім унівэрсытэце Пашкевічанка студыявала да 1911 г .

У 1906-9 г., калі спадае рэвалюцыйны рух у Расеі, Цётка на даўжэйшы час адмяжавалася ад палітычнай дзейнасьці ды аддавалася нацыянальна—культурнай працы. Новы кірунак набыла ад гэтага часу й ейная паэтычная творчасьць. Заўсёды яна верыла ў сьвятлейшую будучыню свайго народу. Найбольш працы і цёплай рупнасьці аддала тады выданьню часопіса для моладзі «Лучынка».

У лютым 1912 г. Пашкевічака выйшла замуж за інжынера Кэйрыса і ад гэтай пары жыла ўвесь час у Вільні, наведваючы рэдчас Менск, сваё да Кэйрысава роднае месца і Віленшчыну.

Цётка тады ня мела ніякай працы, што зьязвала-б яе. Увесь свой час аддавала справам беларускага руху. Шмат пісала. У сваю творчасьць яна заўсёды ўкладала душу. Не заўсёды было ёй лёгка выказаць словамі перажываньні, пачуцьці і думкі. Чарнавікі ейных друкаваных твораў паказваюць, што часта патрэбная была марудная праца, пакуль выражаныя думкі знаходзілі сабе адпаведную форму на паперы. Можа дзеля гэтага Цётка не пасьпела стварыць гэтулькі, колькі абяцаў ейны, перажываньнямі назьдзіў багаты, нутраны сьвет.

Першая сусьветная вайна прывяла Цётку на новы шлях працы. Віленскія шпіталі запоўніліся раненымі і хворымі на заразныя хваробы. Цётка ня ўмела

быць абыякавай да падзеяў, і ў вясну 1915 г. пачала працаваць як сястра міласэрдзя ў бараку заразных хваробаў. Працавала да позняй восені. У восені гэтага-ж году загінуў у франатавых баёх каля Горадні Цётчын брат Язэп. І гэта быў пачатак ідучых на яе няшчасьцяў.

Я спаткалася з Алёйзай Пашкевічанкай, па мужу Кэйрыс у тым-жа 1915 годзе ў гасподзе Івана Луцкевіча. Іван Луцкевіч мяне запрасіў на паседжаньне Беларускага Камітэту Помачы Пацярпелым ад вайны. Яна казала, што жыве з мужам у Вільні і працуе ў шпіталі. Я расказала, што дзеля ваенных падзеяў я засталася ў Вільні, бо не хацела пакінуць маю радзіму і гэтым перапыніла сваю навуковую працу. «Нічога», казала Алёйза Пашкевічанка, «будзем працаваць у роднай Вільні, тут твая веда і праца будуць больш прыдатныя. Асабліва мяне цешыць, што ты знайшла дарогу да нашага Камітэту». Мы пераклалі ў нямецкую мову мэмарыял у справе беларускіх школаў. Яна зь нязломнай сваёй энэргіяй горача бралася за справу і была ў духу й энэргіі найлепшай сяброўкай Івана Луцкевіча. Яна асабліва рупілася аб адчыненьні беларускіх школаў, і памагала знайсьці памешканьне й інвэнтар. Хадзіла з роспытамі па раёне, вышукавала беларускія сем'і і заклікала бацькоў запісываць дзяцей у свае школы. І як мы ўсе цешыліся, калі ў лістападзе 1915 году была адчыненая першая беларуская пачатковая школа ў Вільні. Дзеля таго, што ня было настаўнікаў, супольным стараньнем Цёткі й Івана Луцкевіча былі адчыненыя Беларускія настаўніцкія курсы. Цётка не выкладала, але вельмі цешылася, што калі 3-х месячныя курсы закончацца, дык можна будзе адчыніць беларускія школы на ўсіх прадмесьцях, дзе больш жыве Беларусаў. Калі Вільня апынулася пад пагрозай голаду і трэба было ратаваць ад галоднай сьмерці дзяцей і арганізаваць публічныя сталоўкі і прытулкі для дзяцей, Цётка адразу ўключылася ў гэту працу. Ды ненадоўга. У канцы 1915 г. захварэў на тыфус яе бацька й яго павезьлі ў шпіталь у Ліду. У студзені ён памёр. Цётка паехала з мужам на паховіны ў Ліду, а стуль на родную сялібу ў Стары Двор. Там лютавала эпідэмія тыфусу й Алёйза пачала хадзіць па хатах дапамагаць хворым, сама яна не ўсьцераглася, таксама захварэла, і ўначы з 3-4 лютага 1916 году памерла, маючы 40 гадоў. Перад сьмерцяй прасіла, каб пахавалі яе на бацькоўшчыне паміж родных палёў.

Цётка была арганічна зьліўшаяся зь беларускім народам, і яе як у творчасьці, так і ў жыцьці — заўсёды цягнула туды, дзе было больш гора, больш крыўды. Гэта ня выпадкова: у сваёй творчасьці Цётка шмат сэрца аддавала вясковаму асяродзьдзю, самой гаротнай, самай прыбітай істоце — вясковай жанчыне.

Да яе магілы ў вёсцы Стары Двор ідуць людзі. Ідуць вясковыя жанчыны, а на помніку на ейнай магіле вырытыя словы зь яе вершу:

*На магіле ўзыду дубам,*
*Пачну шаптаць братнім губам*
*Аб іх долі, аб свабодзе.*
*Стану песьняй у народзе!*

(Беларус, № 223-224, 1975)





# «Абяздолены мой стромы шлях...»

Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок

*Ён пісаў свае вершы:*
*У адны радкі — укладаў радасьць,*
*у другія — ўспаміны,*
*у трэція — смутак,*
*І ва ўсе —сваю Душу.*

*Ён пісаў свае вершы:*
*Не друкуй іх —казалі адныя.*
*Схавай —раілі іншыя.*
*Спалі —папярэджвалі трэція.*
*Ён забіў сябе, а не вершы.*

*Так загінуў, памёр Паэта.*
*Толькі вершы яго засталіся.*
*І ня зьгінулі радасьць,*
*І яго ўспаміны,*
*І такі ціхі смутак...*
*Засталася душа Паэта.*

*І яна даляцела да нас.*



*Мабыць, адным з самых нечаканых адкрыцьцяў на паэтычным небасьхіле для беларусаў Бацькаўшчыны стала імя Анатоля Бярозкі. Невялічкі зборнік паэзіі «Адзінаццаць вершаў», па-мастацку аформлены і выдадзены шчырым аматарам беларускай літаратуры і мастацтва др. Мацьвеям Рэпкай-Смаршчком з Мантысэля ў Мінэсоце, быў сапраўднай сэнсацыяй у 1989 годзе.*

*Вершы Анатоля Бярозкі кранаюць да глыбіні душы тонкім лірызмам, бязьмежнай шчырасьцю, а яшчэ прадбачлівасьцю, адчуваньнем трагізму свайго народу. Кніга «Адзінаццаць вершаў» уражвае ня толькі зьместам, але і мастацкім афармленьнем. Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок— аўтар самабытнага беларускага шрыфта, распрацаванага ім самім.*

*Паколькі асоба Анатоля Бярозкі доўгі час была невядома на Бацькаўшчыне, рэдакцыя часопіса «Полацак» зьвярнуліся да выдаўца з просьбай, каб ён расказаў пра гэтага таленавітага паэта. Шаноўны сп. Мацьвей згадзіўся і разам з кніжкай «Адзінаццаць вершаў» даслаў у рэдакцыю здымак зь вечара беларускае паэзіі і песьні ў залі Сьнядэцкіх Віленскага ўнівэрсытэту, які быў арганізаваны Беларускім студэнцкім саюзам ў Вільні 15 сакавіка 1936 года.*



«Анатоль Бярозка нарадзіўся 19 лютага 1915 года ў вёсцы Падлесьсе Ляхавіцкай вобласьці Слуцкага ўезду (сёньня Ляхавіцкі раён Берасьцейскай вобласьці). Вучыўся ў пачатковых школах спачатку ў Падлесьсі, потым ў Ляхавічах. Пасьля скончыў Баранавіцкую гімназію і ліцэй, а ў 1939 годзе — Віленскі ўнівэрсытэт.

Ягоны творчы шлях быў вельмі кароткі і трагічны. Анатоль Бярозка памёр прыблізна ў тым часе, калі ў верасьні 1939 года, пасьля вызваленьня Заходняе Беларусі, паэты пачалі пісаць творы, падобныя на слаўны «Ліст беларускага народу вялікаму Сталіну»

*«Ты сонца для нас, што зямлю*
*асьвяціла*
*і ласкай пакрыла палі-гарады...*
*Ты рэк паўнаводных імклівая сіла —*
*празрыстасьць крыніц, дарагі Правадыр!»*



Сярод тых, што падпісалі гэты ліст не было Бярозкі. Ён не захацеў пісаць падобныя хваласьпевы. Ды толькі не хапіла яму мужнасьці ды адвагі, каб насуперак плыні *«уславіць ўсё тое, што*

*вартае славы, хоць целам павіснуць на вострым паркане...»*

І Бярозка зьнік зь літаратурнай сцэны. Памёр. (Самагубства.) Сьледчыя НКУСа дапытваліся, дзе Бярозка. Сам я адказаў ім, што Бярозка памёр. Тыя паверылі. Якраз тады яны да віленскіх крыніцаў ня мелі часова доступу, бо шчодры бацька народаў падараваў Вільню Жамойціі. Хоць і сказаў Молатаў пры гэтай нагодзе: «Мы знаем, што Вільня не літоўскі горад...»

Зборнік «Адзінаццаць вершаў» — гэта пасьмяротнае выданьне і, наколькі мне вядома, адзінае. Праўда, было няматла вершаў, раськіданых па розных часопісах Заходняй Беларусі, пачынаючы ад «Заранкі» праз «Шлях моладзі», «Маладую Беларусь» ды «Калосьсе» аж да рукапіснага часопісу «З-за плоту», што выходзіў ў адным экзэмпляры. Ёсьць яшчэ незакончаныя літаратурныя спробы, але невядома, ці пабачаць яны калі сьвет Божы...»



Зьлева направа сядзяць: Станіслаў Станкевіч, Міхась Машара, Рыгор Шырма, Міхась Васілёк, Мікола Шчорс.

Стаяць: Хведар Ільяшэвіч, Маскім Танк, *Анатоль Бярозка*, Вітаўт Тумаш, мастак Пётр Сяргіевіч.

Віленскі беларускі літаратурна-навуковы часопіс «Калосьсе» ў сваім №2 (6) надрукаваў пра гэты вечар зацемку:

*«15 сакавіка ў залі Сьнядэцкіх Віленскага ўнівэрсытэта адбыўся вечар беларускай паэзіі й песьні. У праграму ўходзілі аўтарэцытацыі й рэцытацыі твораў перадавых заходня-беларускіх паэтаў Міхася Машары, Максіма Танка, Натальлі Арсеньневай, Міхася Васілька, А.Бярозкі й Хведара Ільяшэвіча, рэфэрат магістра Станіслава Станкевіча аб маладой беларускай паэзіі і канцэрт беларускай песьні, выкананы хорам Р. Шырмы й салісткамі. Вечар удаўся. Усе пералічамыя паэты, апроч Н.Арсеньневай, на вечары былі прысутнымі».*

'вядучы матыў.

/пазыка ад 'я.'пушчы./

'эх, вёска...
верасьнёвая прозалаць-кроў...
'ну, чагож так зайшліся цымбалы?
'ці ня высеяць хочуць мінулага боль
палыном што у сэрца запала?

'яе выпіў я поўную чару
ў застаронку сялянскіх сяліб.
'мне тады усьміхаліся чары
калі сонца цадзілася з ліп.

'мае вусны ня ведалі сьмеху;
ён у прочках блукаў бязь мяне.
'бывала, як едзеш з начлегу
ён шопагам ціхім каня абміне.

'дык мае залатыя цымбалы —
высявайце балючыя зыкі!
'ня ўзыйсьці ім у новую весну.
'гэтак грае апошні музыка
ля вясковых паломаных весьніц.

1925.

'сягоньня патухла тваё акно...
'ціхі вечар ізноў, як учора;
але сёньня патухла тваё акно...

'гэтак сама неба начное глыбока,
гэтак сама іскрацца воды у месячным зьзяньні
і нязьменна хвалі цалуюць пясок
і хіляцца вербы над ціхай 'вяльлёю;
гэтак сама вецер шасьціць ў аерах ды лозах
і сьвецяцца зоры – сягоньня, як учора.

'сярод россыпі вокан
патухла толькі адно.

'дык чамуж зашчаміла мне сэрца журба
адзіноты бяздоньнем
ды чаму на грудзёх цяжкі камень улёгся
з балючым дакорам?

'ад далёкага лесу – ад цёмнага бору
песьня чуецца дзесьці далёка-далёка...
'а ці песьня аб шчасьці і долі?
'а мо' папараць-кветка мая расьцьвітае ды вяне?

'ў гэты вечар патухла тваё акно;
зь ім яшчэ адна кволая іскра што грэла мяне
датлела у цемры сягоньня...

'вецер вербы цалуе; аеры шумяць над вадою...

'сярод россыпі вокан
патухла адно...

## ліст да маці.

/пераклад з забытага/

на схіле восені дзён
к табе імкнуся у думах —
а думы ня знаюць запынаў.
хочаш - абое ў сутоньні вячэрнім
ў вусьмешку твар
як у бэзу рукі
ахінем...

ты там, у вёсцы маёй убогай
дзе восень залоціць кляны
а ўранні туман
засьцілае лугі ды папары;
ты прадзеш сваё горкае зрэб'е,
ўспамінаеш падзеі а дні
калі выпіла горычы чару —
і мо плачаш. ня вернецца сын
з далёкай дарогі...

а я тут, у месьце чужым і далёкім
пад хмарным восені небам
ў мітусьні парожняга дня
ды зьнясільлі дарэмных узьлётаў
адзін, бязмоўна стаю
а ўдыхаю павевы зімы
і гляджу на лісьцё што пад вокнамі гіне
і веру
што вусьмешку маю
данясуць табе хмары.




# Пачатак

Міхась Белямук

У пачатку жніўня 1950 г. прыйшла вестка ад Аўгена Каханоўскага (Галубовіча), што ён шчасьліва прайшоў камісіі, быў у консула і хутка атрымае візу. Азначала, што ў сярэдзіне жніўня ён прыедзе ў Кліўленд. Аднак, атрымаў я лісты ад Я.Ніхаёнка і М.Гарошкі, дзе яны казалі, каб я падпісаў паперу аб адмове спонсэрства, бо Аўген Каханоўскі вельмі патрэбны ў Нью Ёрку. Я ім адпісаў, што ніякіх папераў падпісываць ня буду без атрыманьня на гэта згоды сп.Каханоўскага.

12-га жніўня атрымаў ліст ад М.Абрамчыка: «Вы крыўдуеце, што не напісалі Вам раней аб дэцызіі затрымаць сп. Каханоўскага ў Н.Е. Справа ў тым, што раней, як запала гэта дэцызія, я і сам быў схілены да таго, каб ён ехаў да Вас, з поглядам на тое, што яму было-б лягчэй уладзіцца ў Кліўлендзе, бо-ж там зьбіраюцца ягоныя вучні й актыў моладзі. Пазьней аднак выявілася, што ўладкавацца і тут можна з кватэрай і працай. Вось я вырашыў яго тут і затрымаць, бо гэтага наша справа вымагае. Калі Вы маеце да мяне рэспэкт як Старшыні Рады, прашу неадкладна падпісаць залічаныя паперы. Спачуваю Вам, што тут ня толькі аб самога сп. Каханоўскага ходзіць, але пачуцьці трэба прымірыць і выканаць, чаго патрабуе грамадзкі абавязак.»

Аўген Каханоўскі прыяжджаў у Нью Ёрк разам з сям'ёй 16-га жніўня. Я задумаў зачакаць два дні, паперы падпісаць і выслаць з надзеяй, што іх атрымаюць 18-га, найраней 17-га, калі Каханоўскія выедуць зь Нью Ёрку цягніком у Кліўленд. Сталася інакш.

Позьнім вечарам пазваніў М.Абрамчык. Ён загадаў неадкладна падпісаць паперы і выслаць іх Я.Ніхаёнку, які перабіраў спонсэрства.

23-га жніўня прыйшоў ліст ад Яні Каханоўскай: «Ваш ліст усхваляваў мяне да глыбіні душы. У мяне сьлёзы навярнуліся на вочы, што Вы ахвяроўваеце сваё жыцьцё, гэткіх людзей ў нас мала. Каб вы толькі ведалі, як мы ўсе не хацелі заставацца ў Нью Ёрку. Юлька вельмі плакала, кожны вечар яна дакарае мяне. Кватэра ў нас вельмі дрэнная, яна ў негрыцянскім раёне, пануе шум да самай раніцы. Поўна пьяных, страшны бруд. У кватэры поўна прусакоў, пасьля працы абсалютна нельга адпачыць».



Да паловы верасьня ў Кліўленд беспасрэдна зь Нямеччыны і транзытным шляхам *Нямеччына-Амэрыканскія фэрмэры—Кліўленд* прыехала каля 40 асобаў. Карэйская вайна, пачатая 25 чэрвеня 1950 г., спрычынілася, што аблегчыла пошукі працы. Прадпрыемствы патрабавалі рабочых, адчуваўся недахоп працоўных рук. Калі ў 1949 г. на дзьверы вывешвалі абвесткі: «Не турбуйце нас, працы ня маем», то ў жніўні 1950 зьяўляюцца шыльды: «Патрабуем дапамогі». Пагоршылася справа з закватэраваньнем.

Раён вакол парку Лінкольна з 1900 г. пачаў засяляцца эмігрантамі з Усходняй Эўропы, тут жылі палякі, беларусы, украінцы, лэмкі (карпата-русыны), славакі і чэхі. На вуліцы, у крамах, у аўтобусах чуваць было толькі славянскую мову, шыльды ў крамах, у аўтобусах бы

лі славянскія. Гэтае славянскае гета налічывала недзе 40 тысяч жыхароў. Яно было не адзінае ў Кліўлендзе.

Сьвятыні сьведчылі, што раней тут жылі немцы, мадзяры, румыны, а да іх прыходу былі ірляндцы, ангельцы, сырыйцы і грэкі. Сьвятыні іхнія засталіся, але ў нядзелю і сьвяты напаўняліся, накол іх было шмат аўтаў, а пасьля багаслужэньняў чуваць было на славянскую мову. Кожная сьвятыня, збудаваная сугучна з народнымі стылям, які разьвіўся на зямлі, што прыйшлося з розных прычынаў пакінуць. У кожным квартале сьвятыня рознае нацыянальнасьці і веравызнаньня, было тут 8 праваслаўных цэркваў, больш дзесятка каталіцкіх і вялікая колькасьць, ня меней дваццаці пратэстанцкіх. Гэтая цудоўная мазаіка сьвятыняў выразна прамаўляла аб талерантнасьці гістарычнай міграцыі. Адсюль становіцца зразумелым, чаму маглі дзед і іншыя, хто прыехаў і пасяліўся ў гэтым раёне, пражыўшы 30-50 гадоў, не навучыліся ангельскай мове. Навокал гучала славянская мова, выдаваліся ў Кліўлендзе газэты на польскай, украінскай, лэмкіўскай, славацкай і расейскай мовах. Слухалі радыёперадачы на розных мовах. Нашыя старыя эміграны не адчувалі патрэбы вывучаць ангельскую мову, яны мелі пачатковую асьвету, прыехалі падзарабіць і засталіся, бо вайна і рэвалюцыя пакрыжавала іхнія намеры павароту на Бацькаўшчыну. Новая хваля эміграцыі шукала прытулку, шукала кватэраў у славянскім асяродку, бо й яна не ведала ангельскае мовы. Таму з закватэраваньнем была праблема. Мы былі сьведкамі, што іншыя нацыянальнасьці спрытней лагодзілі праблемы, бо мелі царкоўныя і грамадзкія арганізацыі. Мы вырашылі залажыць беларускую арганізацыю таксама.

Мы разьлічвалі на прыезд Аўгена Кахаًоўскага, што ён узначаліць нашую арганізацыю. Прыпушчалі, што жыцьцёвыя ўмовы ў Нью Ёрку спрычыняцца, што ён прыедзе ў Кліўленд, але атрымаў ад 10 верасьня ліст ад А.Каханоўскага: «Змушаны падпарадкавацца Прэзыдэнту, ён хоча, каб я застаўся ў Нью Ёрку.



Калі я 6 жніўня 1949 г. прыехаў у Нью Ёрк, то ў парту сустрэў мяне Ян Станкевіч. Ён паведаміў, што ў Нью Ёрку хочуць залажыць Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Амэрыцы (БАЗА). Ці згодны я быць сябрам БАЗА? Я даў сваю згоду. Праз некалькі дзён па прыезьдзе ў Кліўленд атрымаў ад Я.Ніхаёнка ліст з аплікацыяй, якую запоўніў і адаслаў. У той час да БАЗА належыла каля 15 асобаў. Прыступаючы да закладкі беларускае арганізацыі ў Кліўлендзе, я хацеў, каб ў нас паўстаў аддзел БАЗА. Аднак, калі я паведаміў аб сваім намеры Кастусю Калошу, Янку Раковічу і Хведару Пагудзе, яны радзілі не гарачыцца з скліканьнем сходу, бо знайшлася група людзей, якую ўзначальвае Лявон Харытановіч, што варожа ставяцца да БАЗА.

Я вырашыў асабіста пагаварыць зь Лявонам Харытановічам і Тамашам Ламакам. Ад Тамаша Ламакі я атрымаў каля 20 лістоў патрыятычнага зьместу і крытыкай «зарубежнікаў», калі ён працаваў у фэрме. Размова з Т.Ламакам высьветліла, што ён нічога супроць ня мае, каб закласьці аддзел БАЗА і згадзіўся быць сябрам управы. Харытановіч засьведчыў што ён будзе супроць «крывіцкае» БАЗА.

У пятніцу, 22 верасьня сабраліся ў мяне Кастусь Калоша, Янка Раковіч, Кастусь Семянчук, Сьцяпан Кісель, Хведар

Пагуда і пастанавілі, каб я ў суботу паехаў у Мэнтар, там жылі Апацкія, Лягушы, Ерыкі, і Шчэрбакі—9 дарослых асобаў. Залежыла нам на Амельяна Апацкага, якога «дзядзькам» мэнтарцы называлі й адпаведна рэспэктавалі. У Нямеччыне ён ня жыў у беларускім лягеры, мы не сустракаліся зь ім, ня ведалі ягоны погляд адносна «крывічоў» і «зарубéжнікаў». Да часу арганізацыі БАЗА мы не карысталіся мянушкай «крывіч» і «зарубежнік» — усе мы былі беларусы, і я дапамагаў кожнаму, не пытаючы да якой групоўкі належыў ён у Нямеччыне. Цяпер, пад узьдзеяньнем некаторых асобаў, гэтыя ярлыкі пачалі навешываць таму ці іншаму.

Мой вызыт у Мэнтары быў нечаканасьцю. Вечарам у хаце «дзядзькі» Амельяна сабраліся і пачалі распытваць пра навіны. Калі я папытаўся іхнюю думку адносна БАЗА, усе зьдзівіліся, што яна паўстала ў Нью Ёрку, а ў Кліўлендзе яшчэ ніякай беларускай арганізацыі няма. На маё пытаньне, ці пагаджаюцца яны, каб у Кліўлендзе закласьці аддзел БАЗА, атрымаў адказ: «Думаем, што ўсе мы тут падтрымаем гэтую прапанову». Сапраўды, ніхто не выказаўся супроць, кожны гаварыў, што няма патрэбы закладаць асобую, незалежную арганізацыю ў Кліўлендзе. Мы дамовіліся, што ў наступную нядзелю, 1-га кастрычніка зробім агульны сход беларусаў Кліўленда, каб афіцыйна залажыць аддзел БАЗА. У нядзелю аўтобусам вярнуўся ў Кліўленд.

Ведаючы з папярэдняе размовы з Л.Харытановічам, што ён адмоўна ставіцца да БАЗА, я вырашыў зь ім неадкладна спаткацца і дамовіцца, каб агульны сход ня быў бурлівым. Паводля майго падліку, прыхільнікі арганізацыі аддзелу БАЗА мелі бальшыню, але магло стацца, што апазыцыя пасьля галасаваньня ў знак пратэсту пакіне залю. Я, вярнуўшыся з Мэнтару, пайшоў да Харытановіча. У яго хаце застаў Ламаку. Пачалася размова аб скліканьні сходу, і я прапанаваў, каб склікаць яго ў наступную нядзелю. Харытановіч спачатку не пагаджаўся, але я, ведаючы, што ягоны бацька быў удзельнікам Слуцкага паўстаньня, сказаў, што трэба адзначыць гадавіну паўстаньня. Адкладаньне сходу затармозіць сьвяткаваньне. Харытановіч пагадзіўся на скліканьне сходу на 1- га кастрычніка. Я вырашыў запрапанаваць яму, ці згодны быць старшынёй сходу. Мая прапанова была вялікай нечаканасьцю яму, ён разгубіўся. Ламака так сама быў зьдзіўлены, пару разоў перапытваў, ці буду я прапаноўваць кандыдатуру Харытановіча на старшыню сходу. Запэўніў я Ламаку і Харытановіча, што не жартую, што буду старацца пераканаць людзей, каб абралі старшынёй сходу Харытановіча.

Ідучы ад Харытановіча дамоў, сустрэў у парку Лінкольна Кастуся Калошу, Янку Раковіча, Кастуся Семенчука, Міхася Шыкалюка, Сьцяпана Кіселя, Хведара Пагуду і братоў Кузьміцкіх. Падзяліўся інфармацыямі з сваёй паездкі ў Мэнтар. Яны зь цікавасьцю выслухалі, але, калі я сказаў ім аб размове з Харытановічам, пачалі мяне крытыкаваць. Усе аднагалосна папракалі, што зрабіў неразвжна, прапануючы Харытановіча на старшыню сходу. Я стараўся пераканаць сяброў, што мая прапанова Харытановіча ашчасьлівіла, праўдападобна ён пагадзіцца на аддзел БАЗА ў Кліўлендзе. Тады іншыя паўстрымаюцца галасаваць супроць, калі пабачаць, што Харытановіч галасуе разам з намі. Адносна маёй прапановы, каб Т.Ламаку выбраць на сакратара сходу апазыцыі не было, адно нас-

тойліва запатрабавалі, каб я быў сябрам прэзыдыюма, сядзеў побач з Харытановічам і быў яго ным дарадчыкам. Кожны з нас забавязаўся паведаміць іншых адносна сходу. Харытановіч у чацьвер пасьля працы прыйшоў да мяне. Я яго запытаў, ці ён нічога супроць ня мае, каб выбраць Ламаку на сакратара. Ён адобрыў прапанову і тут-жа папытаў: «Каго ты хочаш узяць у камітэт?» Я яму адказаў, што здыму сваю кандыдатуру, калі мяне запрапануюць на старшыню. Харытановіч не чакаў такога адказу. Пачаў дапытвацца, чаму я не хачу быць старшынёю. Я адказаў, што людзі ня будуць мець да каго прыйсьці за дапамогаю і саветам, калі пачуюцца пакрыўджаныя старшынёй або сябрамі камітэту. «Мне і табе трэба ўвайсьці ў кантрольную камісію, — сказаў я Харытановічу. Вочы яго заблішчэлі, відаць было, што ён на гэтае не спадзяваўся. На ягонае запытаньне, каго я буду рэкамэндаваць на старшыню камітэту, адказаў, што сход выбярэ старшыню і сябраў камітэту.

У суботу сабраліся ў мяне сябры, каб даведацца, ці праўду Харытановіч гаворыць, што я здыму сваю кандыдатуру на старшыню. Я пацьвердзіў чутку і запрапанаваў кандыдатуру Кастуся Калошы. Кастусь пачаў катэгарычна адмаўляцца. Сябры былі разгубленыя. Я растлумачыў, што дзеля арганізацыі напачатак трэба выбраць Калошу. Пачалі яго прасіць, і ён пагадзіўся пры ўмове, што я буду дапамагаць яму. Я прыабяцаў.



Сход быў назначаны на 3-ю гадзіну ва ўкраінскім народным доме. Зь невялікім спазьненьнем я адчыніў сход і запрапанаваў выбраць прэзыдыюм, на старшыню праз аклямацыю выбраць Харытановіча. Гэтага ён не чакаў. Раздаліся воплескі, Лявон Харытановіч быў расчулены. На сакратара было дзьве кандыдатуры: Міхась Шыкалюк і Тамаш Ламака. Выбралі Ламаку. Харытановіч запрапанаваў праз аклямацыю выбраць мяне як сябра прэзыдыюму.

На агульным арганізацыйным сходзе было 50 асобаў. Харытановіч прывітаў сход, падзякаваў за абраньне яго старшынёй, папрасіў а. Аляксандра Лічко прачытаць малітву, каб сход прайшоў памыслова. Пасьля малітвы зьвярнуўся да мяне, каб я высьвятліў прычыну скліканьня сходу й якую арганізацыю я маю на ўвеце. Я паведаміў, што дзесяткі нашых людзей працуюць у фэрмэраў і просяць дапамогі ў пераезьдзе, шмат людзей у Нямеччыне, якім патрэбная дапамога, маем сярод нас людзей, што незадаволеныя памяшканьнем і працай, дзеля гэтага патрэбна арганізацыя. У Нью Ёрку ўжо паўстала беларуская арганізацыя пад назовам БАЗА, яе зелегалізавалі амэрыканскія ўлады. Калі мы закладзем аддзел БАЗА ў Кліўлендзе, мы не патрабуем браць адвакатаў, каб зь ім апрацаваць статут і праводзіць легалізацыю арганізацыі. Я зачытаў статут БАЗА і запрапанаваў праз галасаваньне прыняць. Харытановіч не запярэчыў, а наадварот, паставіў на галасаваньне, папарасіў падняць рукі, хто за прачытаны мною статут. Пакольki падняло каля 40 асобаў, Харытановіч асьведчыў :«Статут прыняты». Прыступілі да выбару камітэту, хтосьці з прысутных падае маю кандыдатуру. Я падняўся й асьведчыў, што здымаю яе і прапаную на старшыню

Кастуся Калошу. Пакольki некаторыя патрабавалі высьненьня, чаму здымаю кандыдатуру, прыйшлося тлумачыць і адначасна апеляваць, каб Кастуся Калошу выбралі старшынёй. Нехта падаў кандыдатуру Харытановіча, але ён таксама адмовіўся, падавалі прозьвішчы іншых асоб, яны адмовіліся. Пачуліся галасы: «Хутчэй стаўце на галасаваньне, пакуль не адмовіўся Калоша». Амаль усе паднялі рукі за Кастуся. Заступнікам яго выбралі Тамаша Ламаку, сакратаром Міхася Шыкалюка, скарбнікам Сьцяпана Кісяля. У кантрольную камісію ўвайшлі Міхась Белямук - старшыня, сябры — Лявон Харытановіч і а. Аляксандр Лічко.

14-га кастрычніка 1950 г. А.Каханоўскі пісаў: *«Твой сёняшні ліст у БАЗА мяне бязьмежна усьцешыў. Скажу шчыра: такія лісты мяне дадаюць сілаў і настрою. Больш-бы нам такіх як Ты. У Вас трэба многім вучыцца, як працаваць, а не барабаніць языком. Ліст, заява ў БАЗА цэлага аддзелу ў 45 сябраў, таксама пратакол, сьпіс сяброў— так акуратна, умела, салідна. Няма слоў, каб пахваліць Цябе і Вас усіх. Мне як мае вучні Вы зрабілі вялікі гонар. Цешуся! Зрабілі Вы дужа шмат, дай Бог, каб зрабілі яшчэ болей. У гэтым я не суміваюся. Дужа рады, што паміж Вамі знайшоўся а.Аляксандр!»*



На здымку: справа налева сядзяць—

у першым радзе: Кастусь Семянчук, Аўген Калубовіч (Каханоўскі), Міхась Белямук.

У другім радзе: Аўген Якубовіч, Мікола Стасевіч.

Стаіць: Аўген Кайко

Здымак зроблены ў нямецкім лягеры Міхельсдорф ў 1947 годзе.

# Апокрыфы мінулых дзён

Сьвятлана Белая



*«...Калі скончылася сем тысяч год ад стварэньня сьвету, Хрыстос зноў зышоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым казалі прарокі... І разам зь ім былі сьвяты Пётра і сьвяты Юры. Але ніхто зь людзей не пазнаў яго...[1]»*

*Толькі адзін музыка пазнаў Хрыста і пажаліўся на сваю нікчэмнасьць. І спытаўся тады апостал Пётра Хрыста:*

*«Вучыцелю, у гэтай старонцы ёсьць людзі, каторым няма чаго есьці. Ці-ж не сьцісьнецца ад сораму сэрца гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючы скарынкі хлеба, прыйдзе зь песьняй сваёй?*

*...І, адказваючы яму, сказаў Хрыстос: Так, жыцьцё гэтых людзей цяжкое, беднае і прыгнечанае. Чаму-ж ты хочаш яшчэ і красу адабраць у іх? Мала дадзена ім — няўжо -ж трэба, каб было яшчэ менш?... Ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.*

*І далей ужо моўчкі ішлі яны. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пылу дарогі сьляды. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх.».*

**Калі скончылася 20 год ад сканчэньня сьвету, Сатана зноў зышоў на тую адваяваную ім зямлю і хадзіў па ёй, аглядаючы свае падзелы. І пачуў раптам песьню ён з далёкага, няпрызнанага і непакаронага яму Замежжа, песьню выгнаньніка, ад якой сэрца плакала. І загарэліся ліхаманкава ад гневу ягоныя вочы, пачалі метаць яны свае стрэлы: ашуканства, падману і паклёпу. І асудзіў ён тую песьню. А музыкі і тыя хто яе сьпяваў, таксама былі асуджаныя.**

**Але не выракліся людзі з Бацькаўшчыны той песьні, у якой надзея і боль па роднай, скалечанай і пакінутай Богам зямлі гучала. Не адхіліся яны ад музыкаў, паверылі ім. Усё мацьней і велічней загучала песьня з далёкага Замежжа. І не было ўжо сілаў стрымаць яе. Бо былі ў яе крылы і мэлёдыя праўды...**

**І пачуў тую песьню Сын Божы. І сказаў: «Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым. Але калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе».**

**І песьня спаталіла і выратавала яе.**
**Шануйце-ж песьні свае.**
**Амін.**

1. Максім Багдановіч, Апокрыф.

Сёньня вольналюбівую песьню Беларускага Замежжа ўжо не спыніць і не стрымаць. Яна, нарэшце, становіцца часткай нашай нацыянальнай спадчыны. Нават акадэмічныя інстытуты, якія раней і слухаць не хацелі пра мастацкую, літаратурную, навуковую, тэхнічную творчасьць эміграцыі сёньня пачынаюць выпраўляць свае і чужыя памылкі.

Дырэктар інстытута літаратуры АН БССР Віктар Каваленка, характэрызуючы гэты працэс, адзначыў: *«Так, сярод за межных беларускіх пісьменнікаў ёсць людзі са складанымі палітычнымі лёсамі, але гэта акалічнасць не павінна варожа адхіляць ад іх творчасьці, якая таксама зьяўляецца часткай духоўнага жыцця беларускага народа. Акрамя таго, час пачаць улічваць, што зламанасць лёсаў у многіх з іх адбылася далёка не заўсёды па іх уласнай волі. Творчасьць эмігрантаў-пісьменнікаў безумоўна патрабуе аб'ектыўнага вывучэньня нескажонай ацэнкі. На фоне сучаснай замеж най беларускай літаратуры асабліва пры кметныя фігуры Н.Арсеньневай і М.Сяд нёва. Не толькі па абавязку прафэсыйнага доўгу, але і па загаду сацыялістычных сьветапоглядных пераканаўньняў, што прызнаюць прынцып сапраўднага гістарызму, мы павінны імкнуцца да аб'ектыўнай паўнаты ўзнаўленьня усёй духоўнай спадчыны, якая маецца ў гістарычным распараджэньні беларускага народу». («Голас Радзімы», 20. 09. 90)*

Дай Божа, гэтым словам хутчэй збыцца, пакуль яшчэ жывыя самі творцы, пакуль палаюць нашыя душы. Мы павінны сьпяшацца. І ня толькі па прафэсыйнаму абавязку, а па загаду сэрца, доўгу перад тымі людзьмі, якія, данеслі да нас свае песьні.

Зараз на Бацькаўшчыне, мабыць, няма ніводнага сур'ёзнага і паважанага выданьня, якое-б не пазнаёміла свайго чытача з эміграцкай літаратурай. Пасьлядоўна і зь любоўю распачалі гэтую справу добрыя сябры «Полацака» часопісы «Полымя» і «Спадчына», газэты «Роднае слова», «ЛІМ». Так, «Полымя», пачынаючы з чацьвёртага нумара гэтага г., друкуе падборку вершаў паэтаў-эмігрантаў. Чытачы змаглі пазнаёміцца з творчасьцю Алеся Змагара, Янкі Золака, Міхася Кавыля й іншых майстроў слова. «Спадчына» зьмясьціла «Айцы» БССР і іхны лёс» Аўгена Галубовіча. «Роднае слова» ад 15-21 травеня 1991 г.— апавяданьне Аляксандры Саковіч «Пра тое, што ў сэрцы». Успаміны Іны Рытар пра Купалу надрукавала «ЛІМ» ад 26.04.91 У жнівеньскім нумары (32 ) газэты зьмешчаны артыкул Л. Савік пра творчасьць Масея Сяднёва. (Чытачы «Полацака» маглі прачытаць яго ў скарочаным варыянце ў ліпеньскім (4) нумары часопіса). І гэты сьпісак далёка няпоўны.

Сэньня мы працягваем знаёмства з творчасьцю паэтаў-эмігрантаў. Наш пастаянны аўтар Масей Сяднёў на гэты раз выносіць на суд чытача новы біблейска-гіранічны цыкл. У ім сабраныя вершы, якія ўзьніклі на памежжы паэзіі і прозы, у тым магічна-чарадзейным полі, дзе будзённае, звычайнае, звыклае сустракаецца з узвышаным. Дзе сёньняшняе пранікае ў далёкае мінулае, мінуласьць ператвараецца ў наш час. Увесь цыкл аб'ядноўвае адвечны матыў пошукаў суладнасьці паміж чалавекам і Богам. Зьвяртаньне да біблейскае тэмы, да якой прыходзяць ўсе Майстры, гэта ня толькі жаданьне асэнсаваць нашу мінуўшчыну або пакінуць свае сьляды на дарозе, што вядзе ў храм. Гэта—ў нечым асэнсаваньне свайго шляху ў сусьветнай гісторыі, асэнсаваньне сваіх, Масеевых , і Маісеевых законаў жыцьця..»

# Творчасьць

Масей Сяднёў

*З цыклу «Біблейска- гіранічныя вершы»*



Стварыўшы неба і зямлю,
задаволены, Бог сказаў: *гэта* добра.
У небе запаліў сьвятла ліхтар,
каб гнаў зь зямлі ён цемру,
каб кіраваць начой і днём,
выразна адзьдзяляць сьвятло ад цемры.
І Бог усклікнуў: *гэта* добра.
Зямлю ў зяленіва ён апрануў,
разьвёў на ёй жывёл, зьвяроў усякіх.
І дрэва, што прыносіць плён,
Ён пасадзіў. Таксама не забыў
Ён гадаў пасяліць на цьвердзі земнай,
сказаў: і *гэта* добра.
Нарэшце, Бог, паводля вобліку свайго,—
у творстве сваім найвялікшым—
стварыў на цьвердзі земнай чалавека.
Ды толькі не падумаў ён,
ці *гэта* добра.

# Маісей міласэрны

Калі будзеш жаць на полі тваім
і забудзеш сноп на полі,
не вяртайся ўзяць яго—
няхай ён застанецца прышламу,
удаве,
сіраце.
У нас калгасы куды больш міласэрныя за Маісея:
на полі застаецца ня толькі сноп—
кнопы снапоў застаюццца нязьвезенымі.

1991

# Адкуль мы пайшлі

І стварыў Бог жанчыну з рабра чалавека,
каб яму аднаму ня было сумна.
І назваў Бог тую жанчыну Евай,
што пабеларуску азанчае: Жыцьцё.
Строга наказаў Еве Бог ня есьці пладоў
з дрэва пазнаньня дабра і зла.
Але тое дрэва ў Эдэме
было такое прыгожае і прынаднае!
А тут яшчэ і зьмей падначыў:
«Ня бойся —еж».
і не ўцярпела Ева: пакаштавала ад таго дрэва.
Мала таго — і мужа свайго спакусіла пакаштаваць.
Голыя — у раю-ж —яны пазналі адзін аднога:
сagрашылі.
За гэты грэх Бог выгнаў іх з раю.
сказаўшы Еве: за непаслухмянасьць будзеш
у муках страшэнных раджаць дзяцей.
І Ева раджала.
Адсюль во і пайшлі мы,
непаслухмяныя дзеці.
Як толькі Бог церпіць нас , непаслухмяных?

# Саляны слуп

Калі Бог вырашыў зьнішчыць — за грахі—
Садом і Гамору разам з насельніцтвам,
Ён усё-ткі дбаў, каб праведнікі
засталіся жывымі.
Гэтак праз сваіх ангелаў ён наказаў
Лоту і ягонай жонцы ўцякаць
з Садому і Гаморы, але нагадаў,
каб уцякаючы, не спыняцца
і не аглядацца назад.
Жонка Лотава, уцякаючы, усё-ж аглянулася
І нявідочна ўвасобілася ў саляны слуп.
Я ня веру ў гэта:
я ўвесь час аглядаюся назад, у мінулае і— не слупянею.





# У вянок нашай мовы

Уладзімір Бакуновіч



## Родзічы і суродзічы

Гэтыя словы розьняцца толькі адценьнямі. Асноўное ёсьць «Родзічы», калі-б ня было родзіча, не магло-б быць «суродзіча». Слова «родзіч» ёсьць вельмі старое, адказвае расейскаму «земляк». «*Старыя пройдзены дарогі і сьцежак тысячы людзкіх, Дзе і мае хадзілі ногі і ногі родзічаў маіх».* (*Я.Колас*). Суродзіч ёсьць маладзейшае, адказвае расейскаму «соотечественник». Калі мы хочам падкрэсьліць блізкасьць з родзічамі, скажам «суродзічы» або «суродзіч».

## Памагаць або дапамагаць?

Варта зьвярнуць увагу на гэтыя словы. Калі, прыкладам, у Сьцяпана перакуліўся воз з снапамі, ён кліча Рыгора: *«Браток, хадзі, памажы мне падняць мой воз!»* Спрабавалі падняць і не даюць рады. Клічуць тады Кастуся: *«Кастусь, хадзі дапамажы нам падняць воз»!* Калі газэце ці часопісу пагражае банкроцтва, бо цэны павысіліся, то газэта зварочваецца да чытачоў за помаччу, а не за дапамогай, бо каму гэта газэта або часопіс памагае, што просіць дапамогі?

## «Дзеля», «для» або «для чаго дзеля»?

«Для», «дзеля»—гэта розныя формы аднаго і таго-ж слова. «Дзеля»—форма старэйшая, больш арыгінальная ды характэрная нашай мове. Рэзкай розьніцы ў значэньні гэтых словаў ў нашай мове дасюль не разьвілі. Можна сказаць, што заміж «для» ўсюду ў нашай мове можна ўжываць «дзеля» і можа, з увагі на большую арыгінальнасьць і характэрнасьць апошняга, гэтак варта было-б рабіць. Затое «для» заміж «дзеля» можна ўжываць не заўсёды, ці лепш сказаць — не заўсёды гэтая замена гучэла-б прыродна ў нашай мове: «Ён зрабіў гэта дзеля мяне» або «Нельга дзеля розных прычынаў». Тут «для» гучэла-б і непрыродна і не зусім выразна ў сэнсе. Трэба адзначыць, што «дзеля» можа ўжывацца і пасьля слова, да якога датычыць: «Хлеба дзеля», «чаго дзеля», «бацькоў дзеля». Такое ўжываньне ўзмацьняе выказваньне.

Каб больш узмацьніць сэнс, можна ўжываць «для», «дзеля» адначасова, але першае «для»—перад словам, а другое «дзеля» пасьля, да якога яны датычаць «для цяпла дзеля», «для чаго дзеля.»

Нашая мова часта абходзіцца без пасярэдніцтва «для» і «дзеля» і таму заўсёды, калі хочацца ўжыць гэтыя словы, пажадана памеркаваць, ці ня можна абыйсьціся бязь іх: «Даю вам», «пасылаю вам», тут «для» і «дзеля» гучыць блага.

У сувязі з закранутымі словамі «для» і «дзеля» паводля нашага правапісу маюць канчатак **я**, а не **е**. Дзеля гэтага трэба пісаць *подля, паводля, паде元ля, наводля, водля,* бо яны аднае групы, нельга пісаць *подле, паводле.*

У народнай мове «для» бывае скарочаным у «ля». У літаратурнай мове «ля» ўжываецца замест «каля»: «ля мяне» і тут «ля» абазначае крыху большую блізасьць чымсьці каля.

1.2.3 Finale

во - ка - я ўцё - ха ма - я... 2. На пра-
ўбу - рах згу - бі - ла за - ра. 3. Не знай
кнуў - ся на во - лю, ўбла - кіць! 4. Край кра-
во - ка - я ўцё - ха ма - я...

1.2.3 Finale

Край красы, Беларусь-чараўніца,
Песьняў хто аб цябе не пяяў?
У забыцьці мне цябе не забыцца
І ў магіле ты будзеш мне сьніцца,
Сінявокая ўцеха мая,
Сінявокая ўцеха мая.

Не знайшоў я тых скарбаў багатых:
Іх вартуюць стальныя замкі...
*І з араваю сьмелых, крылатых,*
*Праз жалезныя чорныя краты**
Я імкнуўся на волю, ў блакіт,
Я імкнуўся на волю, ў блакіт.

На прасторах тваіх васільковых.
Я сьмяяўся і плакаў ня раз;
На кані ў іскрамётных падковах,
Гойсаў ветрам, шукаючы ў сховах
Скарб, што ў бурах згубіла зара,
Скарб, што ў бурах згубіла зара.

Край красы, Беларусь-чараўніца,
Пра цябе буду вечна пяяць.
У забыцьці мне цябе не забыцца
І ў магіле ты будзеш мне сьніцца,
Сінявокая ўцеха мая,
Сінявокая ўцеха мая.



Мастак Сямён Герус

---

* іншы варыянт 3 і 4 радка наступны:
І да чыну адважных, крылатых,
Праз стальныя варожыя краты

# Максімава Яраслаўія

Сьвятлана Белая
«Ўчора толькі шчасьце глянула нясьмела... »

Аня ўвайшла ў яго жыцьцё нечакана. Вось так-жа, пасьля навальніцы, якая разарве сваімі стрэламі чорнае неба, раптам успыхне над горадам вясёлка, і адроджаная зямля запахне палын-травою.

...Максім прабудзіўся разам з сонцам. Нечакана адчуў, што дзень будзе незвычайны. Шчасьлівая ўсьмешка расплылася на ягоным твары. Сёньня ён чытае на літаратурным гуртку даклад па беларускай літаратуры.

У хаце ціха. Чутна, як на суседнім ложку пасапвае Лёва. Максім ціхенька, каб не пабудзіць брата, прабегся босы да стала. Узяў зборнічак Купалы і зноў прылёг. З «Жалейкі» ён і пачне свой агляд. Праўда, трэба будзе падкрэсьліць, што гэта не самы ўдалы томік Купалы, бо шмат у ім яшчэ шурпатых вершаў, што амаль зусім зьліваюцца з тагачасным слоям беларускай паэзіі. Толькі ці можна вінаваціць Янку за тое, што пісаліся тыя вершы пад Багушэвіча?



Сямен Герус

Што зьяўляліся яны найчасьцей перапевамі толькі некалькіх тэмаў? Безумоўна, не. Бо Янка Купала, таксама як і ён, поўнасьцю захоплены вобразамі роднай Беларусі. І яго цікавіць больш сама зьява, а не як, у якую форму выліваюцца думкі. Але што не кажы, як дробязна не прыглядайся, а Купала будзіць душы чытачоў. Максім адчуў гэтае на сабе. Вершы, напісаныя на беларускай мове, нібы льюцца з шчырага сэрца паэта ў тваю душу. І ўжо ў першым зборнічку адчуваецца вялікі талент Янкі. Яго «Жалейка» сваім мастацкім словам гучна апавясьціла ўсяму сьвету, што беларусы ёсьць, што падняліся яны на вялікую бітву за свабоду і роўнасьць, што яны, як і усе, хочуць «людзьмі звацца». А гэта ня можа не захапляць.

Максім перастаў гартаць кніжку і задумаўся, што яшчэ трэба будзе ўзяць з сабой у гімназію. Даклад быў напісаны даўно, але ўчора, калі ён пераглядаў яго, падумалася: для слухачоў больш карысным будзе пачуць вершы-галасы беларускіх паэтаў, чым агляд іхняй творчасьці. Таму ён абавязкова прачытае на гуртку купалаўскія «Жніво», «Адгукніся, душа». Буйны, шпаркі рытм вершаў павінен захапіць слухачоў, загіпнатызаваць іх. А вось які ўзяць яму зборнічак Якуба Коласа? Той-жа на працягу чатырох гадоў не зрабіў значнага кроку ўперад. І ў самых апошніх вершах сьпявае аб тым-жа, што і ў пачатку сваёй творчасьці. Тэм у Коласа няшмат: бедныя краявіды роднага краю, доля беларускага народу, турэмныя думкі і жыцьцё на волі. Ня зьбіцца тут на старое амаль немагчыма. Таму ў Коласа паўтараецца ня толькі агульны зьмест вершаў, але й асобныя фразы, вобразы. Але, усё роўна, ягоныя вершы нікога не пакінуць абыякавым. Трэба будзе пакласьці з сабою «Песьні жальбы». Яна выглядае больш цэлай па сьветапогляду, роднымі па зьместу здаюцца яе вершы. Так, не забыцца-б пра Гаруна, Леўчыка і Буйло. Добра-б было прачытаць па 2-3 творы кожнага аўтара. Але ці пасьпее ён за гадзіну, адведзеную для даклада? Хацелася-б пазнаёміць гурткоўцаў і зь беларускай прозай. Вунь на стале які стос кніг ляжыць. Тут і бойкія казкі-апавяданьні Ядвігіна Ш., і драмы Каганца, і апавяданьні Гурло, Окліча, Коласа. Хоць і невялічкія гэтыя здабыткі, але бязь іх нельга паказаць агульны ўзрост беларускай пісьменнасьці.

Максім разважаў, не заўважаючы, што ў доме ўсе прачнуліся. Пачаў тупаць ў суседнім пакойчыку бацька, зьбіраючыся на працу. Загудзеў самавар, які паставіла Аляксандра Апанасаўна. Сонечнае сьвятло зрабіла хату ўтульнай, ўнесла ў ранішнюю мітусьню нейкі прыўзьняты настрой. Нават бацька, які ў апошні час рэдка быў вясёлы зранку, нешта сьпяваў за сьценкай. Раптам песьня абарвалася і пачулася :

—Максім, Лёва! У гімназію будзеце сёньня зьбірацца або думаеце ляжаць да апошняй хвіліны ў ложку?

Усё, трэба ўставаць. А то можна і не пасьпець. Багдановічы здымалі кватэры заўсёды недалёка ад гімназіі. Толькі браты ўсё роўна часьценька прыбягалі ў кляс за некалькі хвілінаў да пачатку заняткаў. Так атрымалася і на гэты раз.

Першы вурок — закон божы. За ім арытметыка. Прадмет не зь любімых. Лёва яго не разумее. Ён гадзінамі можа займацца матэматыкай і рашаць складаныя задачкі, якія зьмяшчаюць спэцыяльныя навуковыя часопісы. Бацька хоча, каб Лёва паступаў у Маскоўскі ўнівэрсытэт. Але меньшы брат, які мае надзвычайны матэматычны талент і яко-

му ўсе дакладныя навукі даюцца вельмі лёгка, асабліва ня дбае пра будучыню. Яму пакуль што ўсё роўна. А вось Максім ужо вырашыў свой далейшы шлях. Ён хоча прысьвяціць сябе беларускай філялёгіі. І сёняшні даклад — гэта адзін крок да запаветнай мэты.

Задачкі не выходзяць. Усе думкі аб выступленьні. Як перадаць у невялічкім аглядзе ўсю прыгажосьць твораў беларускіх аўтараў? Як зачараваць сяброў іх талентам? Вельмі хочацца, каб і яны адчулі самабытнасьць яго роднай літаратуры.

Праз некалькі гадзінаў усе хваляваньні, трывогі — усё шчасьліва мінула. Максім хацеў скончыць свой даклад вершам Янкі Купалы «А хто там ідзе?». Але не пасьпеў прачытаць: «А чаго-ж, чаго захацелася ім, Пагарджаным век, ім, глухім, сьляпым?— Людзьмі звацца»,— як з ўсіх бакоў пачулася: «Чытай яшчэ, працягвай далей!»

І ён, расчырванеўшыся ад хвалявань ня, стаў дэклямаваць вершы безь перапынку. Максім быў па-сапраўднаму горды за беларускую літаратуру й яе паэтаў. Тады-ж ён упершыню адважыўся прачытаць перад гурткоўцамі свае творы.

Выступленьне Максіма спадабаліся ўсім. А сябра Дзябольскі папрасіў прынесьці яму пару зборнічкаў беларускіх аўтараў.

—Прыходзь сёньня да мяне вечарам. Разам пойдзем на канцэрт.

—Які канцэрт?— зьдзіўлена запытаў Максім. —Нічога ня чуў.

—Я сам, браце, сёньня ўпершыню ад Рафаіла Какуева даведаўся. Аб'яваў я нідзе ня бачыў. Але Рафаіл сказаў, што ў Яраслаўлі сёньня праездам адзін нейкі дужа вядомы скрыпач з Польшчы. Адзіны канцэрт прызначаны на вечар. Адбудзецца у нашай гімназычнай залі. Так што прыходзь да мяне а шостай гадзіне. І не забудзь, калі ласка, пра беларускія кніжкі.

Сябры разьвіталіся на нейкі час. Дзябольскі сьпяшаўся дамоў, а Максім, пад уражаньнем выступленьня, выра шыў крыху прайсьціся па вуліцах.

Сэрца радасна сьціскалася і ўсё сьпявала ў душы, калі ўспамінаў зычлівыя твары сяброў, што ўважліва слухалі ягоныя вершы. Максім вельмі хваляваўся, калі выносіў на суд гурткоўцаў свае творы. Можа, нават болей, чым калі паказаў першую пробу пяра сваёй хроснай маці Вользе Епіфанаўне Сёмавай. Сталася гэтае ў 1901 годзе, у Ніжнім Ноўгарадзе, калі Сёмава прыяжджала адведаць свайго хросьніка зь Бацькаўшчыны. Хросная стала яго першым чытачом і крытыкам. Зь яе лёгкае рукі Максім пачаў атрымоўваць газэту «Наша ніва», у якую і даслаў адзін з сваіх твораў. Божа мой, колькі радасьці было, калі ў ліпеньскім нумары газэты за 1907 года пабачыў ён свайго «Музыку». І нядзіва. Усю душу ўклаў Максім у гэтае невялічкае апавяданьне. Першы надрукаваны твор Максіма Багдановіча стаў яго праграмай на жыцьцё.

Так, ён быў за мастацтва, якое «*...як гром, гудзіць і грозна будзіць ад сну і завець... народ*». Ён ставіў яго лёс у залежнасьці ад таго, зь кім яно — зь беднымі ці багатымі. Калі душа Музыкі ведала ўсё тое гора, што бачыў ён па людзях, то гэтае гора і грала на скрыпцы, «*...гэта яно вадзіла смыкам па струнах; і ніводны сыты ня мог так граць, як грала народнае гора.*» Гэтым апавяданьнем Максім сцьвярджаў, што мастацтва толькі тады мае сваю дзейсную, неадольную сілу, калі выражае народныя спадзяваньні, думкі люду, яго

лёс. Інакш не заб'еცца моцна сэрца ў грудзях народу, не заблішчаць вялікім гневам ягоныя вочы, не прачнецца ён ад цяжкага сну.

Дэбют Максіма Багдановіча заўважылі ня толькі на Бацькаўшчыне, але й у суседняй Украіне. Літаратуразнаўца Іларыён Сьвянціцкі ў сваёй кнізе «Відраджэньне білоруського пісьменства» другі разьдзел, прысьвечаны агляду беларускай літаратуры пачатку XX стагодзьдзя, пачынае радкамі яго «Музыкі». Кніга выйшла прыкладна праз год пасьля зьяўленьня апавяданьня Багдановіча ў газэце. І калі-б літаратуразнаўца больш уважліва сачыў за беларускім друкам, ён пэўна зацікавіўся-б: чаму гэты таленавіты аўтар больш нідзе не друкуецца. Адкуль яму было ведаць, што ўсе дасланыя Максімам у газэту «Наша ніва» рукапісы адкладаюцца ў папку для архіва. Складаюцца туды таму, што некаторым супрацоўнікам газэты яны здаліся штучнымі і ненароднымі. Змагаючыся за радкі ў «Нашай ніве», яны называлі ягоныя вершы бязглуздзіцай. А самі, праз некаторы час спрабавалі пісаць ў яго «філязофска-дэкадэнцкім» стылі. Пэўна, што з гэтага нічога не атрымалася. Акрамя таленту ім не хапала таго пакутлівага настальгічнага болю па Бацькаўшчыне, які пранізваў ўсе ягоныя творы, дасланыя ў газэту». Дзякуй Богу, трапілі тыя вершы аднойчы ў рукі Янкі Купалы і Сяргея Палуяна, якія і настаялі на тым, каб іх надрукавалі. Так, амаль пасьля паўтарагадовага перапынку творы Максіма Багдановіча зноў зьявіліся на старонках «Нашай нівы».

Асноўная тэматыка творчасьці Багдановіча была наскорзь беларуская. Апрача асабістых перажываньняў, разважаньняў на агульначалавечыя тэмы, паэт чуйна рэагаваў на падзеі, што адбываліся на Бацькаўшчыне. Ён захапляўся народнай паэтычнай творчасьцю беларусаў і выкарыстоўваў у сваіх вершах матывы народнага эпасу, зьвяртаўся да гістарычнай мінуўшчыны Беларусі. Ён, паэт Адраджэньня, хацеў ахапіць усё. Але яго адарванасьць ад радзімай старонкі і стала галоўнай прычынай таго, што ў раньніх ягоных творах Беларусь не набыла выразна канкрэтнага характару. Яна прадставала ў Багдановічаўскіх вершах такой, якой толькі ўяўлялася яму.

Паэты, якія жылі ў той час на Бацькаўшчыне, сваё веданьне беларускага народнага жыцьця і мовы вынесьлі з роднае хаты. Пазьней яны паглыбілі веды. дзякуючы цеснай сувязі зь беларускім народам. Зусім інакш было з Максімам. Слоўнік І. Насовіча стаў адзіным зялёным куточкам Беларусі ў далёкай чужыне. Здавалася-б, яму лягчэй было-б пісаць па-расейску, перадаваць свае ўражаньні аб шырокіх прасторах Паволжа, прыуральскага стэпу, дзе ён некалькі разоў летаваў, апяваць прыгожыя расейскія гарады. Але ён амаль ня вяртаўся да тых блізкіх і чужых яму краявідаў. Усё сваё жыцьцё ён цалкам прысьвяціў Бацькаўшчыне. Знаходзячыся за сотні кіламэтраў ад яе, ён быў разам зь ёю.

Вось і зараз ён праходзіць велічны храм Міколы Мокрага, а думае пра беларускія цэрквы. Гучаць звонкія галасы званоў. Колькі-ж ён блукаў па вуліцах? Няўжо дзьве гадзіны? Трэба хутчэй ісьці дамоў, бо бацька ня любіць, калі нехта спазьняецца на вячэру.

Калі Максім зайшоў у хату, усе ўжо сядзелі за сталом.

—Чаму так позна, браце? —строга запытаўся бацька. Адчувалася, што ён

зноў без настрою прыйшоў з працы.—Так можна і безь вячэры застацца. Распранайся і сядай есьці, пакуль не астыла ўсё.

За сталом нават малыя сядзелі моўчкі, дрэнны настрой бацькі быццамбы перадаўся ўсёй сям'і. Гаварыла толькі мачаха. Яна расказвала аб новым спэктаклі Воўкаўскага тэатру. Бацька нешта адказваў на яе словы. Але, адчувалася, ён думаў аб нечым сваім.

Нарэшце, вячэра скончылася. Усе падзякавалі Аляксандру Апанасаўну і пасьпешліва разыйшліся па пакоях.

—Як прачытаў даклад?—пацікавіўся Лёва, гартаючы часопіс па матэматыцы. У думках, ён, як і бацька, быў недзе далёка. Максім адчуў гэта і таму без усякага энтузіязму адказаў:

—Добра. Здаецца, спадабалася ўсім. Прачытаў нават свае вершы.

—Вось бачыш,—быццам-бы ўзрадаваўся Лёва. — А ты хваляваўся.— І памаўчаўшы, дадаў.—У мяне, Максім, неш та задачка адна не выходзіць. Другі дзень не дае мне спакою. Ты сёньня некуды пойдзеш?

—На канцэрт, у гімназію.

—Добра, схадзі разьвейся. А я тады вечарам папрацую. —Лёва пачаў раскладаць на стале кнігі і канспэкты. Ён не заўважыў, як Максім ўзяў з паліцы тоненькую кніжку ў сьціплай вокладцы, на якой было напісана «Жалейка» і выйшаў з пакою. Праз некалькі хвілінаў яго высокая, крышку сутулая постаць, прамільгнула ў вокнах хаты.

Максім сьпяшаўся на Пятніцкі спуск, да Дзябольскага або, як яго называлі сябры, да Добіка. Ён любіў наведваць гасьцёўны дом сябра, дзе яго прыходу заўсёды былі рады. З Добікам Максім пасябраваў адразу, як толькі прыехаў у Яраслаўль і пайшоў у гімназію. Дзябольскі быў першы зь гімназыстаў, каму юнак прызнаўся, што піша вершы на беларускай мове. То быў шчыры, разумны і разважлівы хлапец, які любіў літаратуру, музыку. Ён зь цікавасьцю чытаў «Нашу ніву» і навінкі беларускай літаратуры, якія Максім разам зь іншымі кнігамі прыносіў яму зь бібліятэкі бацькі. З Добікам паэт дзяліўся усімі сваімі перажываньнямі і думкамі. Менавіта яму ён прысьвяціў верш «Быць можа, пуціна жыцьця Лягла пярсьцёнкам друг...», які потым назваў «Д.Д.Дзябольскаму».

Дзябольскія ўжо чакалі Максіма.

—Махім прыйшоў, Махім прыйшоў,—шчасьліва закрычала маленькая пляменьніца сябра, Вераніка. Яна цягнулася да Максіма, які вельмі любіў дзяцей, і заўсёды прасіла, каб ён расказаў ёй цікавую казку. Максім ня мог пайсьці ад Дзябольскіх, каб не паслухаць вясёлую шчабятушку. Ён любіў гэтую маленькую істоту ня меньш, чым любіўбы сваё дзіця. Але на гэты раз пагутарыць зь Веранікай не давялося. Трэба было сьпяшацца на канцэрт.

У іх мужчынскай гімназіі была лепшая ў Яраслаўлі канцэртная заля. Часта ў ёй праходзілі кацэрты прыежджых гастралёраў. Гімназысты маглі заўжды наведваць іх. Праўда, іх кантрамаркі сідзячых месцаў не гарантавалі і канцэрт даводзілася іншы раз слухаць стоячы. Толькі на гэтае ніхто ўвагі не зьвяртаў.

Максім зь дзяцінства любіў музыку. У ягонай сям'і да яе былі здольныя ўсе, асабліва маці, якая цудоўна грала на раялі і мела прыемны голас. Пасьля сьмерці матулі за выхаваньне дзяцей узяліся сёстры бацькі — Магдалена і Маша. Калі ў цёткі Машы было сумна на сэрцы або наадварот, вясёлай птушкай сьпявала ў грудзях радасьць, яна выконвала свае любімыя: «А дзе-ж тая

крынічанька, што голуб купаўся» або «Перапёлачку». Простыя мэлёды1 песьняў нарадзілі ў Максіма вялікую любоў да народнай музыкі. Яго захапленьне падтрымоўваў і бацька. Той лічыў, што музыку павінен ведаць і разумець кожны. Калі Адам Ягоравіч езьдзіў па службовых справах па губэрні, то браў з сабою невялікі грамафон і набор кружэлак. Ён ня толькі даваў сялянам слухаць музыку, але расказваў аб яе аўтарах. Ягоная апантаннасьць перадалася ўсім дзецям. Старэйшыя заўсёды сачылі за апошнімі музычнымі навінкамі. Як і на кнігі, грошаў на кружэлкі не шкадавалі. А Лёва нават спэцыяльнае дасьледваньне правёў, каб палепшыць акустычныя якасьці грамафоннага запісу. Па яго чарцяжах у хатняга грамафона перарабілі рупар. Амаль кожнаму музычнаму твору падбіралі спэцыяльную іглу.

Максім ішоў на скрыпічны канцэрт зь нейкім незразумелым яму хваляваньнем. Ён вельмі любіў скрыпку, асабліва творы Р.Веняўскага. Праўда, яму падабалася і гітара. Сын цёткі Машы Артур быў сапраўдным віртуёзам гэтага інструмэнта. Ён сам перакладаў клавісінную і фартэп'янную музыку Баха, Бетховена для гітары. Цудоўна выконваў ён і народныя творы. Максім быў у захапленьні ад яго музычнага таленту. І ўсё-такі скрыпцы ён аддаваў перавагу.

Сябры крышку спазьніліся. Музыкант ужо стаяў на сцэне і рыхтаваўся пачаць канцэрт. Заля, на дзіва, была амаль пустая. І Максім з Добікам зручна ўселіся на свабодных месцах.

—Пашчасьціла як... —Добік не пасьпеў скончыць фразы, бо, як зачараваны, стаў услухоўвацца ў чароўную мэлёдыю, якая палілася ў залю. Скрыпка сьпявала. Яна то плакала, быццам-бы ўбітая горам, то сьмяялася, нібы дзіця. Але такая была ў той песьні нуда, што аж за сэрца хапала. І ўявілася Максіму, што гэта не скрыпач на сцэне, а ягоны Музыка. *«Плача скрыпка, льюць людзі слёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласьней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачам сьлёзы: так і ўдарыўся-б грудзьдзю аб зямлю ды ўсё слухаў-бы музыку, усё плакаў-бы па сваёй долі..».*

Раптам Музыка зайграў мелодыю, да болі знаёмую Максіму. То была калыханка, якую ў дзяцінстве маці сьпявала яму. Словы яе ён прызабыў, але мэлёдыя ўрэзалася ў памяць на ўсё жыцьцё. Максім быццам-бы ўвачавідкі ўбачыў маці, сьхілёную над ім. Ён бачыць усьмешку яе вуснай, што напяваюць яму калыханку, пяшчотныя рукі, што туга сьплятаюць касу. Ён чуе яе звонкі чысты голас...

Песьня абарвалася на самай высокай ноце. Маці так і ня скончыла яе. Апошні гук зазьвінеў у ціішыні залі і застыў у паветры. Ніхто ня мог паверыць, што Музыка скончыў. І ў гэтай зьвінячай цішы Максім пачуў голас маці. Яе голас, яе інтанацыі: «Брава!» Ён міжволі павярнуў галаву ў той бок, адкуль ішоў гук і ўбачыў прыгожую стройную дзяўчыну, якая паднялася з свайго месца. Яе вочы, нібы зоркі, сьвяціліся ў застылай залі. І тады яму здалося, што гэта яго маці, маладая і шчасьлівая, вярнулася да яго.

Пляск удзячных далоняў перапоўніў залю. Публіка доўга не хацела адпускаць скрыпача з сцэны. А ў Максіма не выходзіў з галавы вобраз дзяўчыны. Добік таксама знаходзіўся пад уражаньнем ад пачутага. Моўчкі сябры выйшлі на вуліцу і павольна пайшлі на наберажную Волгі. І тут Максім убачыў Яе. Прыгожа і лёгка яна крочыла насус-

трач. Разам зь ёй шоў знаёмы Максіму па гімназіі Рафаіл Какуеў. Яны параўняліся. У чорных як ноч, вялікіх вачах дзяўчыны гучала музыка. Чаму гэта сэрца так моцна забілася? Што робіцца зь ім?

—Вось так сустрэча,—чуе ён голас Добіка.— Як вам спадабаўся канцэрт? Дзяўчына ўважліва глядзіць на Дзяболь скага, потым пераводзіць погляд на Максіма.

— Выбачайце, я не прадставіў Вам майго сябру. Знаёмціся, паэт Максім Багдановіч.

Іх позіркі сустрэліся. І ён адчуў: здарылася нешта незнаёмае. Але чаму ён разгубіўся, быццам-бы ўбачыў дзіва?



Аня Какуева

—Аня Какуева.—Пяшчотная тонкая рука яе лягла ў Максімаву далонь.

—Вельмы рады бачыць Вас. — Голас Максіма чамусьці асекся. Вы, пэўна, любіце музыку? Я палюбіў яе зь дзяцінства. Мая маці вельмі прыгожа сьпявала. Я тады маленькі быў, але ўсе яе песьні памятаю.

— А зараз маці сьпявае? — умешваецца ў размову Рафаіл.

—Маці памерла, калі мне не было і пяці гадоў.

—Мая матулечка таксама мела добры голас. — Аня на хвіліну замаўчала, а потым нечакана для ўсіх і, мабыць для самой сябе, дадала. — Калі Вы любіце музыку, то прыходзьце да нас заўтра. У нас будзе невялічкі сямейны канцэрт.

... На крыльлях Максім ляцеў дамоў. Усё сьпявала навокал. І аднекуль здалёк ліліся вершы.

*Ўжо позна. Мрок вясеньняй ночы.*
*На вузкіх вуліцах ляжыць.*
*А мне весела. Блішчаць вочы,*
*І кроў ад шчасьця аж кіпіць.*

*Іду я радасны, харошы,*
*Зьнікае з сэрца пустата...*
*А пад рызінавай калошай*
*Ціхутка хлюпае слата.*

Каля набережнай ён затрымаўся. Даўно ўжо сышла на зямлю ноч, і залацісты стоўп ад поўнага месяца ўжо лёг на люстраную гладзь Волгі. Ён дрыжаў, пераліваўся агнямі і, папаўшы раптам пад хвалі, шырыўся, драбіўся. Здавалася, быцам на вадзе зіяе залатая кальчуга калісьці ўтопшага тут велікалюда, або быццам залаты невад калышыцца на цёмнай гладзі ракі , а ў ім кішма кішыць залатой-жа рыбы. «*Але патроху рассыплюцца зьвеньні кальчугі, распадзецца залаты невад на безьліч паблутаных, узьвіваючыхся сьветлых ніцей, ды зьліюцца паміж сабой пераліўчатыя ніткі, — і зноў будзе дрыжаць на рацэ ясны, бліскучы стоўп, быццам залаты шлях да блізкага шчасьця...*»

*(Максім Багдановіч, Шаман)*

 ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ 

# Чарнобыль: спроба аналізу сітуацыі

Ірына Кісялёва

Мабыць,[1] самай цікавай падзеяй другога пасьлячарнобыльскага года стаў агульнарэспубліканскі сход партыйна-гаспадарчага актыву з удзелам міністра аховы здароўя СССР Чазава, які спэцыяльна прыехаў у Беларусь. На сходзе выступіў былы І-шы сакратар ЦК КПБ Я.Сакалоў. «Міністр аховы здароўя СССР, — сказаў ён,—зрабіў грунтоўны даклад, унёс шмат прапановаў, за што яму паклон».

«У рэспубліцы,— працягваў былы І-шы сакратар ЦК КПБ,— яшчэ вострымі застаюцца праблемы... стаматалёгіі і зубапратэзаваньня.., штодзённа не выходзіць на працу 120 тыс. чалавек, высокім застаецца ўзровень захворваньняў. Але шмат праблемаў можна было-б вырашыць, калі мінздраў, аддзелы Дзяржпляна і Саўміна рэспублікі былі больш клапатлівымі і ўважлівымі... Пры наяўнасьці ў рэспубліцы такога прамысловага патэнцыяла ужо даўно можна было-б вырашыць пытаньне з вытворачасьцю, напрыклад, столікаў для немаўлятак, возікаў для перавозкі ежы, мэдыцынскіх вагаў...»

Абодва міністра аховы здароўя — Чазаў (СССР) і Улашчык (БССР) гаварылі аб атмасфэрным паветры Наваполацка і Салігорска, аб гігіене і санітарыі, аб барацьбе зь пьянствам...

Ці не цынізм разважаць у той час пра возікі для перавозкі ежы і мэдыцынскія вагі?.. Няўжо міністр аховы здароўя БССР Улашчык спадзяваўся, што усё тайнае з Чарнобылям ня стане яўным?

1. Заканчэньне. Пачатак у № 2-5.

Можа таму, нават тады, калі прымалася Праграма па ліквідацыі вынікаў аварыі, калі ужо было вырашана, што з тэрыторыі, дзе звыш 15 кюры на км $^2$ неабходна адсяляць людзей, кіраўнік урадавай Камісі па праблемах Чарнобыля Еўтух зрабіў заяву што магла сарваць арганізаванае перасяленьне з забруджаных тэрыторыяў: «..по оценке специалистов, проживание в этих населенных пунктах (гутарка ідзе аб тэрыторыі з шчыльнасьцю забруджаньня ад 15 да 40 кюры на кв. м, у якіх жыве 96 508 людзей — І.К.) в общем, *не опасно для здоровья людей,* но связано с соблюдением *личной гигены,* ведения сельскохозяйственного производства, возможного приобретения отдельных продуктов питания..» («Советская Белоруссия» 2610. 89.)

«Этим жителям,—казаў далей Еўтух, — предоставляется право свободного вы-бора — уезжать или оставаться и получать соответстующие финансовые и социальные льготы за дополнительные не-удобства и определенный риск».

Пад словамі «*личная гигиена*» Еўтух, мабыць меў на ўвазе «чысьціць зубы», бо штодзённы душ раскоша не для савецкага селяніна, які ў большасьці ня мае ў хаце вадаправода. Таму зусім нядзіўнае тое, што пасьля такіх заяваў перасяленьне было сарванае.

У студзені 1990 г. у тых раёнах Расеі, Украіны і Беларусі, якія пацярпелі ад ядзернай катастрофы, працавала экспэртная камісія Дзяржаўнага пляна СССР. У яе заключным дакумэнце запіса-

на: «Галоўнай задачай лічылася ўтрыманьне ў рэгіёне (уключаючы 30-км зону) па мажлівасьці вялікую колькасьць людзей і разьвіцьцё сельскагаспадарчай вытворчасьці. Па сутнасьці, гэта адыход ад галоўнай задачы —стварэньня усяму насельніцтву паўнацэнных умоваў для жыцьця... Больш маральнай зьяўляецца стратэгія перасяленьня на чыстыя тэрыторыі усіх жыхароў забруджаных раёнаў... Далейшая тэндэнцыя схаваньня маштабаў бяды можа катастрафічна пагоршыць становішча...» (*Заключение экспертной подкомисии Госплана СССР от 27. 02. 199, с. 24-25*)

Усе 86 чалавек, якія падпісалі гэты дакумэнт (сярод іх 7 акадэмікаў, 27 дактароў і 31 кандыдат навук), лічаць неабходным прызнаць Чарнобыльскую катастрофу агульнацыянальнай бядой, а зону катастрофы — адчыненай для шырокага міжнароднага супрацоўніцтва. Усе яны лічаць недапушчальным усякае прамядленьне ў вырашэньні пытаньняў, якія зьвязаныя зь ліквідацыяй вынікаў, у першую чаргу, перасяленьня. Калі-б рашэньне аб перасяленьні перакладецца на саміх жыхароў, неабходна абавязкова выканаць дзьве ўмовы: па-першае, праінфармаваць насельніцтва аб стэпені рызыкі, што пагражае ім і іхнім дзяцям, калі яны застаюцца на забруджанай тэрыторыі, па-другое, праінфармаваць аб умовах жыцьця на новым месцы.

Беларускі ўрад павінен пераключыцца з клопатаў аб вытворчасьці сельскагаспадарчай прадукцыі на забруджаных тэрыторыях на клопаты аб людзях — рэальныя клопаты, якія забесьпечваюцца матэрыяламі і грашыма, а не безадказ-нымі пастановамі. Для гэтага асноўная маса расходаў павінна быць напраўле-ная на дапамогу ахвярам Чарнобыля — на будаўніцтва жыльля на чыстых землях, прадукты харчаваньня, мэдыцынскую дапамогу.

Мы просім у Цэнтра каля 18 млрд. рублёў. Але куды па нашай Праграме прадугледжваецца накіраваць іх?

*<u>Капітальныя ўкладаньні (млн. руб.)</u>*

| | |
|---|---|
| *Аграпрамысловы комплекс:* | *4150, 6* |
| *Жыльлёвае будаўніцтва:* | *2321,6* |
| *Ахова здароўя:* | *1563, 4* |

*<u>Бюджэтныя асыгнаваньні:</u>*

| | |
|---|---|
| *Ахова здароўя* | *162, 6* |
| *Пакрыцьцё дапаўняльных затратаў калгасаў і саўгасаў для атрыманьня чыстай вытворчасьці:* | *1212, 0* |
| *матэрыяльныя і фінансавыя льготы:* | *2821,7* |

Выходзіць, што на аграпрамысловы комплекс, ачыстку прадукцыі, льготы за вытворчасьць забруджанай прадукцыі прызначана **8184, 3** млн. руб.

На жыльлёвае будаўніцтва — **2321, 1**, г. зн. амаль у 4 раза меньш.

На ахову здароўя —**1726 ,0** болей чым у 2,5 раза меньш.

Ці можна лічыць праблемы чалавека ў лічбах гэтага дакумэнта галоўнымі? Не. На гэтае таксама ўказвае й экспэртная камісія Дзяржпляна СССР.

Катастрофа на ЧАЭС адбылася на фоне прававо неабаранённасьці людзей і зямлі. Няма закона аб адказнасьці дзяржавы перад чалавекам, ведамстваў і дзяржаўных асобаў перад дзяржавай. Такі закон патрэбны нам. Чарнобыльскія катастрофы чакаюць нашых дзяцей ува ўсіх прамысловых гарадах, і мы павінны абараніць іх будучае.

А можа гэтая планэтная катастрофа, якая больш за ўсё адбілася ў Беларусі, прымусіць нас, нарэшце, аглянуцца і задумацца?

Хто мы? Ці ёсьць у нас чалавечая годнасьць, калі мы дазваляем сябе ашукваць, абкрадаць, падкупаць?

Ці зможам мы ў далейшым самастойна думаць і рашаць або здольныя толькі паслухмяна падпарадкоўвацца загадам і ісьці, куды вядзе пуга пастуха? Калі мы зараз не задумаемся, нам ужо ніколі не выплыць. Не выратавацца. Ня выжыць. І гэтае павінен зразумець кожны.




## Мёртвая зона

Анатоль Цыркуноў

Шмат слёз было праліта горкіх,
Як ад'язджалі ўсе, хто мог.
І на пакінутых падворках
Расьце палын-трава і мох.

Сёй-той і сёньня лезе з кожы,
Каб утаіць памер бяды...
Хто жыў на «грабавыя» грошы,
Той памірае малады.



# Вясёлыя блакітныя вочкі...

 Кастусь Акула 

У Тароньце гарачыня дапаўзла да трыццаці трох Цэльсія. Душна, быццам у фінскай лазьні. Едзем у Полацак, што ля Кліўленду. Летась не давялося мне быць на 19-й сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі таму, што ў хаце былі госьці зь Менску.

Прыяжджаем туды позна, дзесьці ка ля 11-ай. Гэта-ж за брамай яркія лямпы лашчаць сьвятлом новага прыгажуна, у якім летась гула тая гістарычная сустрэча... Мінаем «палац» і прыглядаемся, ці ёсць сьвятло ў доме Сяргея і Кастуся Алесь з Таронта, — ён-жа за рулём хуткага аўтамабіля Фольксвагена, —запэўні вае нас, што гаспадары чакаюць.

Дзьверы адчыніла нам жанчына, як неўзабаве я даведаўся, з Рэчыцы, што ля Мазыра. Каля яе трэцца маленькі хлопчык. Ён усьцешыўся, калі на прывітаньне пагладзілі яго па галоўцы. Матка Вера і хлопчык Раман, якому адно 21 месяц ад нараджэньня, як неўзабаве я даведаўся, ня ёсьць сваякамі гаспадароў гэтай раскошнай хаты.

Сядзелі й гутарылі дзесьці да паловы другой. Падчас гэтай гутаркі і назаўтра пачуў я пра Веру і Рамана. Хлопчык заражаны Чарнобылям. Вера шукала лекароў і лекаў. Хадзіла, бегала, езьдзіла, стукала ў нязьлічаныя дзьверы малых і вялікіх чыноўнікаў. Дыягназ хвораба Рамана—рак крыві ці леўкэмія—наканавала яму сьмерць. На працягу васьмі месяцаў матка цярпела ў шпіталі разам з сынком. Савецкія мэдыкі сказалі Веры, што ў сына ёсьць два працэнты шансу, што выжыве.

Вера шукала для сынка ратунку ўва ўсіх урадавых канторах і арганізацыях. І ніхто не абяцаў помачы. «Перадавая ў сьвеце» савецкая мэдыцына перад чарнобыльскай заразай бясьсільная. Вера напісала ліст да Раісы Гарбачовай. І адтуль, зьверху, прыйшоў адказ, што ў Савецкім Саюзе ня могуць Рамана вылечыць, адно трэба шукаць помачы за мяжою. А за мяжу беднай матцы з сынком ня могуць памагчы паехаць, бо «ішчэрпана валюта». Во як!

Пачула пра распачлівыя намаганьні маткі, каб выратаваць сынка, адна асоба, якая пастанавіла памагчы. Пасьля кантактаў з мэдыкамі ў Кліўленьдзе, жоўценькі выглядам, зьняможаны, блізкі да сьмерці Раман і матка апынуліся ў Кліў лендзе. Цяпер Рамана лечаць хімічнай тэрапіяй раз у тыдзень. Лечаць бясплатна. Хвароба адступае.

Прыглядаюся Раману. Ён надта рухавы і непаседлівы. Мае вясёлыя блакітныя вочкі. Цяжка верыць, што ня так даўно ў іх ужо гаспадарылі зьвястуны сьмерці. Кажуць лекары, што Раман мае адно 20% шансу, што вернецца назад леў кэмія. Матка Вера хваліць Полацак і доб рых суродзічаў, што далі ім прытулак.

У нядзелю ў Полацку быў пікнік. Саб ралася шмат людзей. У тым «грамадзкім цэнтры»-палацы мастакі рабілі выстаўку свайго майстэрства. Зь нейкай патрэбай зайшоўся я ў дом Сяргея і Кастуся. Застаў там аднаго Рамана. Ускарабкаўшыся на вялікі стол, ён з паважнай мінай лістаў вялікую кнігу-альбом. Пабачыўшы мяне, прыбег. Блакітныя вочкі зьзялі радасьцю, калі я пагладзіў ягоную галоўку і прыгарнуў да сябе. Дзякуй Богу за добрых людзей, што памаглі яму!

А колькі-ж у Беларусі матак у роспачы, колькі дзетак ужо ў магілах! І «перадавая ў сьвеце» мэдыцына ім не паможа, і за мяжу не паедуць, бо «валюта ішчэрпана». «Імпэрыя зла» распадаецца. Прысьпяшы, Госпадзе, гэты працэс распаду! Выратуй наш і іншыя народы ад будучых духовых і фізычных чарнобыляў!





# Аднаўленьне Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі

Алесь Анціпенка

*За гады панаваньня таталітарнай камуністычнай сыстэмы наш народ зазнаў цяжкія выпрабаваньні: пад забаронай апынулася рэлігія, разбураліся выдатныя помнікі беларускай культуры, ганьбілася спрадвечная народная мараль, выкарчоўвалася родная мова, народ губляў сваю гістарычную памяць. Зараз, калі беларусы пачалі барацьбу за людзкое, боскае выратаваньне пачаў узьнімацца нацыянальна-рэлігійны рух. Паўстаюць рэлігійныя партыі, адчыняюцца новыя парафіі, ідзе рэстаўрацыя, адраджэньне цэркваў у Беларусі, перадача вернікам божых храмаў.*

*Так, у 1990 г. створаны Беларускі Экзархат на чале з Высокапрэасьвяшчэньнейшым Філарэтам, Мітрапалітам Менскім і Горадзенксім, Патрыяршым Экзархам Усяе Беларусі, з наданьнем гэтаму Экзархату і другое назвы Беларуская Праваслаўная Царква. Былі адроджаныя Менская Духоўнай Сэмінарыя ў Жыровічах і жаночы Спаса-Еўфрасіньнеўскі манастыр у Полацку. Адчынена болей чым 200 цэркваў, якія раней выкарыстоўваліся ў сьвецкіх мэтах.*

*21 верасьня 1990 г. ў Менску на ўстаноўчым сходзе грэка-католікаў ,была абраная Царкоўная Рада менскай грэка-каталіцкай абшчыны. На працягу восені грэка-каталіцкія абшчыны паўсталі ў Гомелі, Полацку, Наваполацку, Віцебску, Горадні й іншых гарадах Беларусі.*

*16 чэрвеня 1990 г. ў Менску адбыўся сход Менскай каталіцкай грамады, які абраў касьцёльную Раду й Арганізацыйны камітэт па стварэньню Беларускай Каталіцкай Грамады (БПГ). 13 красавіка 1991 года БПГ правяла свой устаноўчы зьезд, на якім сабралося 107 дэлегатаў з Менску і пераважна заходніх частак Беларусі. Зьезду папярэднічала богаслужэньне ў касьцёле сьв. Роха. Упершыню за доўгія гады каталіцкая абшчына атрымала мажлівасьць праводзіць богаслужэньні ў гэтым храме, раней ператоранцым у канцэртную залю. На зьездзе БПГ адзначалася, што каталіцкія абшчыны выдаюць тры беларускамоўныя выданьні: «Беларуская крыніца», «Беларуская сьвятыня», «Голас душы». На зьездзе быў зацьверджаны статут і абрана кіраўніцтва БПГ. Старшынёй стаў мастак Фелікс Янушкевіч. Таксама было падкрэсьлена, што надыйшоў час аб'ядноўваць намаганьні ўсіх вернікаў ў агульнай барацьбе за нацыянальнае выратаваньне.*

*І вось 1 чэрвеня 1991 г. ў Менску прайшла канфэрэнцыя Беларускае Хрысьціянска—Дэмакратычнае Злучнасьці (БХДЗ). 69 дэлегатаў зь Менску, Гомеля, Наваполацку й іншых гарадоў Беларусі прадстаўлялі ўсе хрысьціянскія канфэсіі. Прапануем чытачам часопіса нататкі дэлегата канфэрэнцыі Алеся Анціпенкі.*

Пастарскім благаславеньнем канфэрэнцыю адкрыў пратэстанцкі сьвятар Э.Сабіла. Ад імя арганізацыйнага камітэту прысутных вітаў сп. П.Сілка. Пасьля абраньня працоўнае групы канфэрэнцыя перайшла да разгляду пытаньняў парадку дня. З справаздачным словам ад аргамітэту выступіў сябра А. Бембель (Зьніч). Ён адзначыў тую асаблівасьць, што гаворка ідзе не пра стварэньне новае партыі, а пра аднаўленьне гвалтоўна разбуранай арганізацыі Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі, створанай у травені 1917 г. Потым прамоўца спыніўся на асноўных сьветапоглядных прынцыпах дзейнасьці БХДЗ. На яго думку, БХДЗ — гэта не традыцыйная сьвецкая партыя, а сьвецкі працяг Хрыстовай Царквы, Адзінае, Сьвятое, Саборнае й Апостальскае. Негвалтоўнае ўдасканаленьне розных бакоў грамадзкага жыцьця з улікам нацыянальных традыцыяў і нормаў міжнароднага права па вінна стацца той падвалінай дзейнасьці БХДЗ, якая ня толькі загарантуе захаваньне правоў кожнае чалавечае асобы, але-ж і паспрыяе зьліквідаваньню небясьпечнай для далейшага разьвіцьця грамадства канфрантацыі паміж рознымі сацыяльна-палітычнымі сіламі.

Палітытны даклад аргамітэту прадставіў сп. М. Арэшкаў. Ахарактарызаваўшы стан сучаснага беларускага грамадзтва як прадапакаліпстычны, ён адзначыў, што вытокі крызысу найперш трэба шукаць у навязанай грамадзтву атэістычнай ідэялёгіі сацыяльнага дзікунства і нялюдзкіх экспэрымэнтаў над чалавечай асобай. Таму ўзнаўленьне высокай духоўнасьці ёсьць адзін з найважнейшых накірункаў дзейнасьці, што ніяк не адмаўляе шляху парлямэнцкай палітычнай барацьбы выключна негвалтоўнымі сродкамі.

Як і ў папярэдняй прамове выразна гучала думка, пра тое, што БХДЗ — гэта партыя нацыянальнае, міжканфэсыйнае і міжпартыйнае згоды, якая павінна адлюстроўваць зацікаўленасьць людзей ў памяркоўным і негвалтоўным вырашэньні складаных праблемаў сучаснага беларускага грамадзтва. Выканальнік абавязкаў галоўнага рэдактара «Беларускае крыніцы» (орган БХДЗ) сп. А.Траяноўскі зрабіў агляд гісторыі Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі.

Сябра аргкамітэту М.Якімовіч выказаў шэраг цікавых меркаваньняў на карысьць неабходнасьці разьвіцьця хрысьціянска-дэмакратычнага накірунку палітычнае дзейнасьці ў агульнай плыні палітычнага жыцьця грамадзтва. Прамоўца ахарактарызаваў камунізм як скрайнюю, сатанінскую ідэю і зазначыў, што абавязак кожнага сапраўднага хрысьціяніна любіць камуністаў гэта-жа, як і ўсіх людзей, маліцца за іх.

У абмеркаваньні праэктаў Праграмных прынцыпаў і Статуту БХДЗ бралі ўдзел В.Злобіна (Наваполацак), А.Яўсеенка (Гомель), С.Вітушка, Я.Гучок, І.Багдановіч, Ф.Янушкевіч, Э.Сабіла (Менск). Канфэрэнцыю віталі прадстаўнікі іншых партыяў: ад Нацыянальна—Дэмакратычнае партыі Беларусі — сп. А. Астапенка, ад Аб'яднанай Дэмакратычнай партыі Беларусі — сп. Ул. Афанасьеў, ад Беларускага Экалягічнага саюзу — сп. Ул Сацэвіч. Канфэрэнцыя абрала кіруючыя органы: Раду й Управу БХДЗ. Выконваючы абавязкі сустаршыні —каардынатара абраны сп. П.Сілка.





# «... к тому месту великую ласку имають»



Сьвятлана Менская



Адразу хачу папярэдзіць чытача: гэтыя зацемкі аб сёляшнім (ліпень-жнівень) падарожжы 9 беларусаў Амэрыкі ў Беларусь толькі спроба перадаць, хоць сотую частку таго, што адчулі, перажылі, зразумелі яны за 26 дзён сустрэчы з Бацькаўшчынай. Гэта толькі эскіз да падзей тых часоў, калі ўпершыню ўступілі яны на родную зямлю, калі ўбачылі сваіх родных, калі ўваскрэсілі іх у сваім сэрцы і самі ўваскрэсьлі для іх. Каб зразумець іх, трэба прайсьці іхні шлях з таго самага дня, калі апошні раз пабачылі яны з вагона цягніка родную зямлю, калі разьвіталіся зь ёю. Яны ад'яжджалі ў невядомасць, Бацькаўшчына засталася ўдалечыні. І ўсе гэтыя гады яны жылі толькі ўспамінамі, якія былі разнакалёрнымі адбіткамі іх памяці.

Недзе ў снах яны бачылі бацькаву хату, суседку, што заўсёды частавала іх нечым смачным, магутны дуб, пад якім хаваліся ад дажджу. Напэўна, ў падсьвядомасьці захаваўся водар сонечных суніц і смак сырадою з пахучым акрайчыкам сьвежага ржаного хлеба. Дзесьці такой сваёй, па-хатняму роднай, і хацелася ім пабачыць Бацькаўшчыну. Каб на імгненьне ўваскрэсіць той час.

І вось, нарэшце, яна дарагая зямля. На лётнішчы, не пасьпелі яны яшчэ зразумець, што стаяць на цьвердым беларускім грунце, іх акружыла вялікая (за 30 асобаў) грамада людзей зь бел-чырвона-белым сьцягам. Сваякі, сябры і проста незнаёмыя людзі,— усе былі ўзрушаныя, ня меньш, чым самі падарожнікі. Столькі было радасьці і шчырасьці ў той першай сустрэчы, што забыўся ўвесь няблізкі шлях на радзіму.

Першыя дні ў Менку яны прысьвяцілі знаёмству з жыцьцём, культурай, гісторыяй горада. Былі таксама ў іх выезды ў Вязанку, Хатынь, Коласаўскія мясьціны, сустрэчы ў таварыстве «Бацькаўчына», па запрашэньню якога і прыехала група, і на паседжаньні Беларускага Народнага Фронту. Рытм жыцьця быў настолькі напружаны, што нават журналісты не пасьпявалі за імі. І некаторыя інтэрв'ю даводзілася даваць у час абеду. Увесь час іх група некуды сьпяшалася. А потым, хто раней, хто крышку пазьней, яны разьехаліся. Кожны на сваю малую радзіму.

Міхась Мітраховіч прыехаў на Бацькаўшчыну разам з сынам Андрэям. Меншчына, Гомельшчына, Магілёўшчына праплылі перад вачыма за некалькі дзён падарожжа па гарадах Беларусі як дзіўны сон. Потым яны блукалі па старажытных завулках Вільні і нават пасьпелі удыхнуць водар Петэрбургскіх туманоў. Але прыгожая архітэктура не змаглі засланіць прыгажосьці беларускай душы.

—Самае моцнае ўражаньне пакінулі беларускія людзі, — кажа Міхась Мітраховіч.—Такія шчодрыя, адкрытыя, зычлівыя, такіх пашукаць трэба. Езьдзіў я на сваю вёску Скалку, што на Гомельшчыне. Першы раз пасьля 50 гадоў. Вельмі цёплыя ўспаміны засталіся ад сустрэч з сваякамі. На наступны год зноў паеду. І жонка мая зьбіраецца ехаць...»

Андрэй Мітраховіч, які прызнаўся мне, што толькі крышку разумее беларускую мову, першае, што адзначыў, перадаючы свае ўражаньні аб падарожжы: «Людзі ў Беларусі вельмі ветлівыя, зыч-

лівыя». Людзі сапдабаліся яму, мабыць, больш за ўсё. А яшчэ ўразіў дух беларускіх гарадоў.

«Калі я пабачыў Вільню, адчуў яе старажытны эўрапэйскі стыль. Спадабаліся мне таксама Менск, Петэрбург, Скалка, дзе мае сваякі. Я яшчэ вярнуся ў Беларусь. Мажліва, праз год.»

Тацьцяна Дубаневіч пачала зьбірацца на Бацькаўчыну яшчэ зімою. «У мяне там-жа брат у Косава жыве. Вось паеду ў Косава, брата пагляджу. Ён у мяне адзін застаўся. Мабыць і не пазнаем адзін аднога, 50 гадоў-жа мінула». Але пазналі, адразу, як толькі ўба-чыліся. Мабыць, сэрца падказала.

«З братам мы разьмінуліся ў першы дзень у Менску. Ён прыехаў сустракаць мяне на стары аэрапорт, а мы прыляцелі на новы. Нашая сустрэча адбылася на трэці дзень нечакана. Я размаўляла з журналістам, раптам да мяне падыходзіць мужчына (а гэта, як потым высьветлілася мой пляменьнік) і гаварыць: «Вы Тацьцяна Дубаневіч?» «Так, —кажу, — я». Потым гляджу, брат мой да мяне падыходзіць. Я так і ўпала на яго.

Мы расталіся зь ім зусім дзяцьмі. Яму 5 гадоў было, а мне 10. Колькі ўспамінаў... Прыгадваалі нашае дзяцінства, я ўсё плакала. Потым паехалі да яго ў Косава. Маленькі такі гарадок — сапраўдная вёска. І пабачыла я, што беларускія вёскі амаль не зьмяніліся. Як і 50 гадоў назад усё такія-ж. І людзі такія-ж працавітыя. У майго брата сапраўдная гаспадарка. Бульба ўва гародзе, і буракі, і цыбуля. А якой жыў насьці у яго няма... І парсюкі, і трусы, і куры, і качкі... Ён мяне пытаецца: «А што у цябе расьце?» Я кажу: «Трава». Бачу, ён мне ня верыць, ён не разумее, што гэта звычайна для Амэрыкі карціна. Потым кажа мне: «Добра, паедзем да цябе ў госьці і бульбу пасадзем». Ён мне і з сабой хацеў мех бульбы даць... Добрыя ў нас у Беларусі людзі.

Крышку пазьней прыехала з-пад Масквы сястра з сынам. Ёй 81 год. Я ня ведала, што яна жывая. Расказвала яна мне пра дзяцінства маё. Цяжка было зноў перажыць усё гэтае, але трэба было. Вось так, думала пабачыць брата, а сустрэла сям'ю. Вялікая ў мяне сям'я».

Эва Яраховіч таксама не здагадвалася, што яна такая багатая на сваякоў. Яна зьбіралася ў свае Вулькі II, што у Лунінецкім раёне, каб пабачыць тую старонку, дзе яна нарадзілася, знайсьці тое месца, дзе некалі стаяла яе хаты, пакланіцца на вясковых могілках сваім продкам. Яна знайшла і сваю вёску, і той горб-магілку, дзе некалі стаяў яе дом. І, мабыць, самае галоўнае,яна адшукала сваіх шматлікіх кузінак, сваякоў, суседзяў, якія былі вельмі рады, што іх даражэнькая Эва жыва. (Хаця адзін кузін знайшоў яе сам. Даведаўшыся з газэт, што яна вярнулася ў Беларусь, ён прыляцеў на спатканьне зь ёю зь Сібіры). Самае дзіўнае было, што яе, пакінуўшую родны кут зусім маленькай дзяўчынкай пазналі. «Ты пэўнна Эўка будзеш, — павясковаму проста зьвярнулася да яе старэйшага веку жанчына.— Як дзьве кроплі вады на свайго бацьку падобная. А памятаеш, як ты спадніцу да мяне тайком прыносіла?.. Забылася, пэўна. Ты-ж тады зусім дзеўчынё была.»

«Ад'яжджала я з Бацькаўшчыны з складанымі пачуцьцямі, — расказвала Эва Яраховіч па прыездзе.— Столькі новага пабачыла, стольківх людзей пазнала. У Жыровіцкім манастыры была. Ваду сьвятую з калодзежа піла. А потым паехала на сваё Палесьсе. Як пабачыла ўсё тое гора, што прынёс Чарнобыль на беларускую зямлю, так сэрца ў мяне і

зашчаміла. Ведала, што Чарнобыль прынёс нам вялікую бяду, але да канца я зразумела ўвесь гэты жах, усю трагедыю народу толькі там. Бачыла я сваіх кузінак, прыгожанькія дзяўчынкі, галоўкі беленькія, што лянок, а вочкі бла кітныя, як васілёчкі. І ў іх ужо другая ступэнь шчытападобнай залозы. Што далей будзе зь ім, ня ведаю. Як успомню маю вёску, маіх сваякоў—плачу. Вельмі цяжка ўспамінаць Бацькаўшчыну».

Зося Шымчык таксама вельмі хацела пабачыць сваю хату, адкуль іх сям'ю выслалі ў Сібір. Дом іх быў вялікі, сьветлы. Яго потым у Маладэчна перавезьлі і доўгі час збожжа захоўвалі. А пасьля— хату вартаўнік сабе прыбраў. Стаў жыць у ёй з сваёй сям'ёй. Тады мець такія харомы ўжо не лічылася перажыткамі капіталізму.

«Усё зьмянілася на Бацькаўшчыне,— дзялілася сваімі ўражаньнямі яна. Маладэчна маё і не пазнаць. Пабудавалі выскокія гмахі, а з рэчак нашых паўнаводных парабіліся канаўкі, што перасскочыць можна. Толькі царкву, у якоую раней мы хадзілі ўспомніла і некалькі хатак, што каля яе стаялі. Царква не зьмянілася. Яна так усе 50 гадоў і прастаяла і ніколі не зачынялася. Зайшла я ў яе. Сьвечкі паставіла, і быццам-бы ў тыя часы вярнулася. Праяжджала я вёскі. Домікі чорныя, увайшлі ў зямлю, цяжка было глядзець на гэтае. Адно толькі парадавала: нашыя лясы. Вось лясы — гэта прыгажосьць. Як лён, такія гладзенькія. Роўненькія, ніякага сухоцьця, толькі на вяршыні пушыстая мяцёлка. Лясы мне вельмі спадабаліся. Ды і наогул, падарожжа было вельмі добрае. Мае і майго мужа Янкі сваякі вельмі добра заапекаваліся мною. Паказалі мне ўсё, што маглі. У Маладэчна прывялі мяне да дома, дзе я раней жыла. Зьмяніўся ён, стаіць такі перафарбаваны...Але пазнала я яго і ў сярэдзіне пазнала. Усё мае дзяцінства перад вачыма прайшло...

Сяргей Карніловіч, ініцыятар і арганізатар гэтай паездкі, ехаў у Беларусь ня першы раз. Гэта была яго 4 сустрэча з Бацькаўшчынай. Пэўна, што таго хваляваньня, якое ў самы першы раз адчуў, ужо не было. Але і для яго гэтая паездка запомніцца надоўга.

«Бацькаўшчына стала больш свабоднай. Усюль бел-чырвона-белыя сьцягі, выявы Пагоні. Гэта ўзьнімае патрыятычны дух беларусаў. Калі я ў пачатку 70-х гадоў ўпершыню наведаў Беларусь, то здавалася, што і яе сьцены маюць вушы. Усюль мяне суправаджалі позіркі, якія не пераблытаеш ні з чым. У гатэлі, у рэстаране, нават проста на вуліцы я заўважаў, як за мной сачыла пільнае вока. Зараз усё інакш. Мяняецца Беларусь і, дай Божа, нарэшце яна стане вольнай і незалежнай».

На адваротным шляху, яны завіталі ў Беласточчыну. Два дні правялі на гасьцёўнай Беластоцкай зямлі. А потым усе ўдзельнікі гэтага падарожжа: Янка Азарка, Таццяна Дубаневіч, Сяргей Карніловіч, Марыя Любыш, Андрэй і Міхась Мітраховічы, Адольф Субота, Эва Ярахові — сказалі беларускай зямлі й яе лю дзям: «Да пабачыньня». Яны так і не разьвіталіся з Бацькаўшчнай, бо ведалі, што яны яшчэ сюды вернуцца. Бо гэта і пра іх казаў вялікі Скарына:

***«Тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».***



# Letter to Bush and to Baker*

BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Branch of Cleveland
3517 West 25th Street, Cleveland, Ohio 44109
Tel. (216) 749-5756, 781-7231

Septemver 4, 1991

President Bush
White House
Washington, D.C.

Dear President Bush:

The Byelorussian -American Association of Cleveland, Ohio, and its descendents are writing this letter to request that the United States not only acknowledges the independence of the Baltic Republics but also recognizes the historic truth of the original borders of these countries which existed in October, 1939. We emphatically support the Baltic States declaration of freedom and independence and encourage dialogue in regards to the dispute of the borders claimed by Lithuania and Latvia since much of Byelorussia was seized and given to the these countries after October, 1939, by Stalin. The study of historical borders clearly indicates that Kaunas not Vilnius was originally the capital of Lithuania. Vilnius was part of Byelorussia until the pact between Stalin and Hitler removed it from its territory. If borders are to be disputed now when these republics declare their independence this vital fact should be considered and dealt with.

Sincerely yours,
John Chanenka, President

* Тэксты лістоў да прэзыдэнта ЗША Буша і сакратара замежных справаў ЗША Бекера — ідэнтычныя.

# Дзень беларускіх сустрэчаў

адбыўся 21 жніўня ў цэнтры «Полацак». З чатырох краінаў сьвету зьехаліся на яе беларусы. Зь Беларусі прыехала дэлегацыя сацыяльна-экалягічнага Саюза «Чарнобыль» у складзе старшыні Саюза, пісьменьніка, рэдактара газэты «Набат» **Васіля Якавенкі**, фізыка-ядзершчыка, кансультанта газэты «Набат», публіцыста **Аляксандра Люцко**, старшыні клюба «Спадчына», ганаровага сябра часопіса «Полацак» **Анатоля Белага.** Гасьцямі зь Вільні былі старшыня таварыства «Сябрына» **Валянтын Стэх**, радыё-журналіт **Ігар Раўнаполец**. З Рыгі завітала спадарства Целешаў, а з Канады пісьменьнік, рэдактар часопіса «Зважай» **Кастусь Акула**, актывіст руху за вольны і незалежны друк **Алесь Палескі.** З шчырасьцю сустрэлі кліўлендцы і гасьцей з Дэтройта: прэзыдэнта Рады БНР **Язэпа Сажыча** і сп. **Уладзіміра Бакуновіча.**

Пасьля абеду ў малой залі «Полацка» адбыўся сход беларусаў. Яго веў **Янка Ханенка**. З прывітальным словам да ўсіх зьвярнуўся **Язэп Сажыч**. Ён пажадаў кліўлендцам і гасьцям, якія зьехаліся на сустрэчу, посьпехаў на шляху Адраджэньня Бацькаўшчыны. Зь цёплым пранікнёным словам ад імя беларускіх Калюмбусаў на Амэрыканскім кантынэнце выступіў **Кастусь Акула**. Ён таксама склаў найлепшыя зычэньні часопісу «Полацак» і падкрэсліў ягоную ролю ў беларускім Замежжы.

Ад імя беларускага таварыства «Сьвітанак», што ў Рызе, выступіў мастак **Вячка Целіш.** Ён разам з жонкай Валяй прыехаў на візыт да свайго дзядзькі ў Канадзе. Вячка Шеліш расказаў пра свой творчы шлях, пра таварыства «Сьвітанак», якое ён узначальвае, а таксама перадаў «Полацаку» творы сваёй працы.

**Анатоль Белы** прыпыніўся на некаторых праблемах часопіса «Полацка». «Дзя-кую чы вашым ахвяраваньням і намаганьням «Полацак» рэгулярна выходзіць у сьвет і распаўсюджваецца ў Беларусі. Па-сутнасьці, гэта першы сумесны часопіс Беларусаў Бацькаўшчыны і Беларусаў Замежжа, першы часопіс вольнага незалежнага друку, які свабодна распаўсюджваецца на Бацькаўшчыне. Гэта вялікая гістарычная падзея.» Сход зацьвердзіў прапанову Анатоля Белага ўвесьці у склад ганаровых сяброў часопіса «Полацак» выдатнага беларускага пісьменьніка **Васіля Быкава**.

**Васіль Якавенка** расказаў аб дзейнасьці і задачах сацыяльна-экалягічнага саюза «Чарнобыль», які аб' ядноўвае незалежных вучоных і журналістаў. Саюз вывучае перспэктывы падбудовы ў Беларусі санаторыя маці і дзіцяці, у якім сканцэнтроўваласяб дапамога пацярпелым ад ўсіх прагрэсыўных людзей, арганізацый, клапаціцца аб тым, што-б аб чарнобыльскай бядзе ведала як мага болей людзей. З гэтай мэтай саюз выдае газэту «Набат», кліч якой -Выжыць! Улічваючы ўзьдзеяньне друкаванага слова на сьвядомасьць людзей, у саюза ёсьць задума выдаць дайджэст газэты Набат па-ангельску, каб амэрыканцы маглі пазнаёміцца з сапраўднымі памэрамі Беларускай бяды .Васіль Якавенка таксама прыпыніўся на ролі часопіса «Полацак». «Гэта чаўнок, які спалучае дзьве культуры беларусаў Бацькаўшчыны й эміграцыі.»

Аб выніках Чарнобыльскай трагедыі, аб тым, як урад і сёньня хоча замалчаць іх, аб рашэньнях Венскай асацыяцыі незалежных экспэртаў, стварэньні міжнароднага ко леджа па вывучэньню радыяцыі,- расказваў **Аляксандр Люцко**. «Акрамя нас саміх, ніхто не спасе нас. Нашая дэлегацыя клапоціцца аб тым, што-б сродкі, якія зьбіраюц ца для дзяцей Чарнобыля не зьніклі і не патанулі ў моры агульнага дэфіцыта. Мы за кансалідацыю ўсіх сілаў і дапамогі, якую аказвае нам Вы й Амэрыка.»

# «Змагарная Беларусь»

Так называлася фотавыстаўка, якая ладзілася 28 ліпеня ў культурным цэнтры «Полацак». На ёй было прадстаўлена 11 плякатаў, на якіх зьмешчана каля 60 фотаздымкаў беларускіх фотамайстраў Амельчанкі, Брушко, Драчова, Дубінкі, Іванова, Ігнатовіча, Кляшчука, Плыткевіча, Шаблюка, Шубы, Эйсмана й іншых. Фотавыстаўка адлюстроўвала найбольш важныя падзеі ў жыцьці і змаганьні беларускага народу за сваю волю і незалежнасьць, за сваё нацыянальнае адраджэньне. Экспазыцыя пачыналася цыклам фотаздымкаў «Паход на Курапаты», вядомы ўсім беларусам сваімі трагічнымі падзеямі 30 кастрычніка 1988 г. Былі тут і фотаздымкі, якія адлюстроўвалі сьвяткаваньне Дзядоў—1989, устанаўленьне і асьвячэньне крыжоў на мейсцах масавых забойстваў у Курапатах і парку Чэлюскінцаў. Некалькі плякатаў знаёмілі з прадвыбарчаю барацьбою ў Вярхоўны Савет БССР. Яны іскравала сьведчылі тую напружаннасьць, якая адбывалася ў тыя дні, перадавалі настрой, імкненьні людзей, якія выходзілі на вуліцы і словамі паэта-змагара Зьніча заклікалі:

*Каб адужаць мафію ЦК,*
*галасуй, зямляк, —за Пазьняка!*

*Прыйдзе ўлада сьмелая,*
*калі прыме ў склад Белага!*

*Каб пасьвяціць бязбожны Савет,*
*прыйдзе хай — Уладыка Філарэт!*

*Усе злачынствы, «застой»-дзеячоў*
*раскапае гісторык Ткачоў!*

*За аса Менскага, за боса «ЛІМ»скага,*
*менчук, змагайся за Вярцінскага!*

*Ачышчаць ад адстойных зграяў*
*наш парлямэнт пайшоў Някляеў!*

Шырока была прадстаўлена на здымках дэманстрацыя 7 лістапада 1990 г. Каля помніка Леніну, на якім прымацаваны бел-чырвона-белы сьцяг, замест кветак ускладзены пудзілы чэкіста і вязьня савецкага канцлягера. Тут-жа міліцэйскія сілы, якія накінуліся на дэманстрантаў, не дапускаючы іх да помніка «правадыру сусьветнага пралетарыяту». Гледачы змаглі ўбачыць тот палатачны гарадок, які паставілі двое сялянаў каля помніка Леніну ў знак пратэсту ўраду, які не выконвае абяцаньняў.

«Беларусь сам-насам з Чарнобылям», «Шляхі за сваё выжываньне»,—гэтыя плякаты раскрывалі Чарнобыльскую трагедыю беларускага народу. 12 фотаздымкаў адлюстроўвалі красавіцкія забастоўкі рабочага кляса Беларусі.

*На плошчы твараў—*
*Бы пялёстак на белай вішні...—*
*Забастоўка зараз,*
*Амаль усе людзі выйшлі.*
*(Аўген Гучок)*

Апошні плякат, які завяршаў экспазыцыю называўся «Беларусы ў Вільні». Ён адлюстроўваў ушанаваньне 150-годзьдзя з дня нараджэньня К.Каліноўкага і правядзеньне Устноўчага зьезду БНФ.

# У родным краі, на улоньні



*сам сябе нічым ня мушу...*
*Бы сьняжынкі на далоні,*
*Вершы падаюць на душу...*



Гэтыя словы Аўгена Гучка прыходзяць на памяць пасьля знаёмства з мастацкай выстаўкай беларускіх мастакоў Сямёна Геруса, Арлена Кашкурэвіча, Алены Лось, Ільлі Немагая, Раісы Сіпліевіч, Віктара Сташчанюка й інш. Вернісаж яе адбыўся 4 жніўня ў цэнтры «Полацак». Больш за сотню графічных твораў, напісаных на адным дыханьні, знаёмілі гледачоў з мінулай і сёньняшняй Беларусьсю.

Заслаўскі замак ХУІ ст., ціхія вулачкі дарэвалюцыйнага Менска, домік Манюшкі,- такой паўставала Беларусь з афортаў Віктара Сташчанюка. Краявіды роднай Бацькаўшчыны, выкананыя зь любоўю і пяшчотай Сямёнам Герусам, яго галерэя партрэтаў выдатных дзеячоў беларускай гісторыі і культуры: Скарыны, Міцкевіча, Каліноўскага, Купалы, Коласа, Буйніцкага, Таўлая й інш. —безумоўна, запомніліся гледачам. Падоўгу затрымліваліся наведвальнікі выстаўкі каля партрэтаў Е. Полацкай, Ф. Скарыны, М. Гусоўскага ( мастак Арлен Кашкурэвіч), Цёткі, М. Багдановіча, (мастак Ільля Немагай), Ул. Караткевіча (мастачка Раіса Сіпліевіч). Асобная падборка гэтых партрэтаў магла-б утварыць самастойную выстаўку пад назвай «Выдатныя сыны Беларусі», якую варта было-б паказаць у іншых беларускіх асяродках ЗША і Канады, каб пазнаёміць беларускую моладзь і амэрыканскую грамадзкасьць з гісторыяй Беларусі й сучасным беларускім мастацтвам. Адпаведную цікавасьць выклікалі творы на чарнобыльскую тэматыку, шэсьць каляровых лінагравюр Алены Лось і каляровыя літаграфіі, аб'яднаныя ў трыпціх «Тры сонцы» Раісы Сіпліевіч.

Да ўсяго трэба дадаць, што выстаўку ладзіў наш госьць з Менска, старшыня клюба «Спадчына», ганаровы сябра часопіса «Полацак» Анатоль Белы.



Сямён Герус

#  Нашыя госьці 

Лета — гэта ня толькі сезон падарожжаў, але і пара гасьцей.

Па запрашэньню аддзела БАЗА ў Кліўленд 19 ліпеня прыехала дэлегацыя сацыяльна-экалягічнага саюза Чарнобыль» у складзе старшыні Саюза, пісьменьніка, рэдактара газэты «Набат» Васіля Якавенкі, фізыка-ядзершчыка, кансультанта газэты «Набат», публіцыста Аляксандра Люцко, старшыні клюба «Спадчына», ганаровага сябра часопіса «Полацак» Анатоля Белага. У гасьцёўны «Полацак» завітала з Манрэаля 4 жніўня спадарства Хрэноўскіх, якія прыехалі ў Кліўленд адведаць сваіх свая коў: сп-ю Лазар, Лідзію Лазар-Ханенку і Янку Ханенку. Сп-р Хрэноўскі зь цікавасьцю азнаёміўся з працаю Кліўлендзкага аддзела БАЗА, культурна-асьветніцкага цэнтра «Полацак», наведаў мастацкую выстаўку беларускіх мастакоў «У родным краі», пабываў у царкве Жыровіцкае Божае Маці.

—Мне хацелася, сказаў ён,— пабачыць, як кліўлендцы вядуць сваё грамадзкае жыцьцё. У нечым павучыцца ў іх, бо тут назапашаны каласальны вопыт. Беларусы Мантрэаля думаюць адчыніць сваю беларускую царкву. Ведаю, што нас чакае шмат працы. Але гэта не палохае. Будзем спадзявацца на сябе і на Бога.

27 жніўня да Кастуся Калошы прыехала адразу чацьвёра плямненьнікаў: Ірына Кіріковіч, Наташа Сіняк, Вячаслаў Калоша, Алесь Суднік. Алесь і Ірына жывуць у Пінску, Наташа — у Горадне, Вячаслаў - у Баранавічах. Усе яны ўпершыню наведваюць Амэрыку і пакуль прывыкаюць да Кліўлендзкага часу. Кастусь Калоша плянуе паказаць сваім пляменьнікам прыгажосьць Ніагаркага вадаспада й іншыя экстравагантныя куточкі Амэрыкі. Няхай той месяц, які зьбіраюцца правесьці на Амэрыканскай зямлі Ірына, Наташа, Вячаслаў і Алесь будзе для іх цікавым і памятным.

Прыеманай нечаканцсьцю для кліўлендцаў стаў прыезд на Labor day вялікай групы гасьцей з Чыкага. Парафіяне царквы Сьв.Юрыя: Тамара Барташэвіч, Женя й Юра Кучынскія, Аднрэй Леўчук, Ґаліна Несьцярук, Алесь Семянюк, Валя і Валодзя Яканюкі разам з кліўлендцамі адслужылі малебен за Беларусь, які адбываўся ў царкве Жыровіцкае Божае Маці, наведалі культурна-асьветніцкі цэнтр «Полацак», пабачылі прыгожае паветранае шоу, якое традыцыйна праводзіцца ў Кліўлендзе ў першую верасьнёўскую нядзелю. Застаецца дадаць, што гасьцямі запекаваліся а. Якуб, Янка Салавянюк, Люба Блізьнюк і інш. кліўлендцы.



# За вольную і незалежную Беларусь

малебен быў адслужаны 1 верасьня 1991 года ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Яго служылі пратаярэй а.Міхась Страпко і іераманах Якуб. Урачыста гучалі малітвы за свабоду і незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны, за шчасьце яе народу. Прыгожа сьпяваў харкоўныя сьпевы хор, якім кіраваў Кастусь Калоша.

# Беларусь — ЗША: працяг дыялёгу

2 верасьня 1991 года ў ЗША па запрашэньню Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Амэрыкі (БАЗА) прыбыла дэлегацыя зь Беларусі ў складзе **Уладзіміра Новіка** — сябра Сойму БНФ, народнага дэпутата БССР, сакратара камісіі Вярхоўнага Савета БССР па прамысловасьці, энергетыцы, транспарту, сувязі й інфарматыцы й **Анатоля Гурыновіча** — сябра Сойму БНФ, намесьніка мэра Менска. Галоўная мэта візыту —вывучэньне магчымасьці ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж незалележнай Беларусьсю і ЗША, устанаўленьне дзелавых кантактаў паміж беларускімі і амэрыканскімі арганізацыямі, фірмамі, установамі і банкамі. Гэты візыт зьяўляецца працягам кантактаў, пачатых дэлегацыяй апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР у складзе народных дэпутатаў БССР Зянона Пазьняка, Уладзіміра Заблоцкага і Лявона Баршчэўскага, якія наведалі ЗША у красавіку гэтага года.

Уладзімір Новік і Анатоль Гурыновіч былі цёпла сустрэты ў Амэрыцы. Яны наведалі Нью Ёрк, штаты Нью Джэрсі, Агайо, дзе пражывае шмат этнічных беларусаў. Амэрыканскія беларусы вельмі зацікаўленыя апошнімі навінамі з Бацькаўшчыны. Асабліва іх хвалююць падзеі, зьвязаныя з спробай дзяржаўнага перавароту ў Маскве.

3-га верасьня дэлегацыя наведала беларускую місію пры ААН у Нью Ёрку. У час сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай місіі У. Новік і А.Гурыновіч расказалі пра апошнія падзеі на Бацькаўшчыне. У прыватнасьці — аб прэтэнзыях дэмакратычных сілаў у Беларусі да дзейнасьці Міністэрства замэжных справаў Беларусі. Фактычна, беларускае Міністэрства замежных справаў сваім маўчаньнем падтрымала «путчыстаў» і нават не інфармавала беларускую місію ў Нью Ёрку аб сытуацыях у Беларусі, аб надзвычайнай сэсіі й абвяшчэньні Вярхоўным Саветам незалежнасьці Беларусі.

4 верасьня дэлегацыя была прынятая ў дэпартаменце камэрцыйнага і эканамічнага разьвіцьця штата Нью Джэрсі. Старшыня дэпартамэнта George R. Zoffinger у час сустрэчы падкрэсьліў вялікую зацікаўленасьць амэрыканскіх кангрэсмэнаў ў супрацоўніцтве зь беларускімі фірмамі й арганізацыямі і перадаў пакет прапановаў.

8 верасьня ў культурна-асьветніцкім цэнтры «Полацак» адбылася сустрэча зь кліўлендзкімі беларусамі. Госьці прачыталі рэферат на тэму «Палітычнае жыцьцё Беларусі». Уладзімір Новік і Анатоль Гурыновіч расказалі аб апошніх падзеях на Бацькаўшчыне, аб выніках 5-й надзвычайнай Сэсіі Вярхоўнага Савета БССР, на якой была 25 жніўня абвешчана незалежнасьць Беларусі.

9 верасьня ў Кліўлендзе адбылася сустрэча з кангрэсмэнкай Mary R. Oakar. Пад час сяброўскай гутаркі былі закранутыя важныя пытаньні аб разьвіцьці эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларусьсю і ЗША. M.Oakar вітала абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі і выказала гатоўнасьць аказаць дапамогу дэмактратычным сілам ва ўстанаўленьні дзелавых кантактаў паміж камэрцыйнымі банкамі Беларусі і ЗША, а таксама сусьветным банкам разьвіцьця і супрацоўніцтва, бо ў аснове міждзяржаўных эканамічных адносінаў ляжаць дасканалыя фінансава-крыдытныя сыстэмы краін-партнёраў. Намесьнік мэра Менска А.Гурыновіч запрасіў M.Oakar наведаць Менск

14-15 верасьня Уладзімір Новік і Анатоль Гурыновіч прымуць удзел у працы 24-га Кангрэсу БАЗА, які адбудзецца ў Нью Брансьвіку. Уладзімір Новік плянуе выступіць з дакладам аб ролі беларускай эміграцыі у станаўленьні незалежнай Беларусі.

28 ліпеня ў культурна - асьветніцкім цэнтры «Полацак» экспанавалася выстаўка беларускага мастака з Рыгі Вячкі Целеша. Гледачы мелі цудоўную мажлівасьць пазнаёміцца з жывапіснымі палотнамі мастака і сэрыяй яго экслібрысаў.

Вячка Целеш —мастак няпростага жыцьцёвага лёсу. Нарадзіўся ён у Беларусі, але з 19 гадоў вымушыны жыць у Латвіі. Тут ён скончыў мастацкую акадэмію, ажаніўся, стаў прафэсыйным мастаком. Але настальгія па роднай Беларусі, яе краявідах, людзях адчуваецца ў творчасьці мастака. Можа таму ў яго пэйзажах, нацюрмортах сустракаюцца матывы, навеяныя уражаньнямі роднай зямлі.




Прапануем чытачам пазнаёміцца з экслібрысам З.Верас, выкананым В. Целешам.

***Рэдакцыя часоіса «Полацак» сардэчна віншуе Валянтыну Ягодзік зь вясельлем сына Аляксея. Зычым маладым шчасьця, каханьня і ўсяго самага найлепшага ў іх жыцьці.***

Рэдакцыя часопіса «Полацак» выражае спачуваньні Марыі і Лёлі Міхальчык у сувязі з напаткаўшым іх горам —сьмерцью сына і брата Аляксея.



Сямён Герус

# Адлёт жураўлёў

Верасьнёвае сонца гуляе
на іх крыльлях – і ціха, тужліва
крыльлі йграюць у ветры моў струн пералівы
над іржышчам пустым, над гаем.

Вольны покліч далёка нясецца
ў паднябесных сініх шляхох...
Там, далёка дзесь, родны астаўся парог –
асталося вернае сэрца.

І лятуць. А пад імі, зь нямою малітваю,
засынаюць палі ў адзіноце...
А іх крыльлі, сіньню залітыя,
верасьнёвае сонца залоціць.

Анатоль Бярозка

